# Лідскі Летапісец



*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*



**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 58) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2012 г.**



***Пятро Бітэль*** *(9.06.1912 г., м. Радунь Лідскага павету - 18.10.1991 г., в. Вішнева Валожынскага р-на), беларускі паэт, праваслаўны святар.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 58 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2012 г.**

## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы выкладкі палац графа Маўраса ў Тарнове пасля рэстаўрацыі. Здымак С. Судніка.*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1940**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2012 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.10.2012 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 5800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 11600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792






# КРОНІКА ЛІДЫ




У сакавіку кіроўца ААТ "Лідаспецаўтатранс" Валерый Улас атрымаў дыплом і срэбны медаль Міжнароднага саюзу аўтамабільнага транспарту са штаб-кватэрай у Жэневе.



У канцы сакавіка завершаны пуска-наладачныя работы на Заводзе гарачай ацынкоўкі металавырабаў у в. Даліна Лідскага р-на.




У пачатку красавіка ў Лідскай друкарні выйшла кніга паэзіі лідскай паэтэсы Тацяны Сямёнавай "Осенний вальс", 128 ст., наклад 200 асобнікаў. На рускай мове.




У траўні ў Полацку выйшла кніга лідскага краязнаўца Леаніда Лаўрэша "Грэка - каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне", 128 ст., 115 асобнікаў.




У траўні ў менскім выдавецтве “Кнігазбор” выйшла анталогія аднаго верша “Птица свободы”, складзеная з перакладаў вершаў сотні беларускіх паэтаў на рускую мову, зробленых сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў лідскім паэтам Пятром Макарэвічам. А назва кнігі ўзята па назве верша Вольгі Іпатавай.



У траўні каманда “Лідсельмаш” стала чэмпіёнам Беларусі па міні-футболу.

Піва "Лідскае Premium" і "Лідскае Pilsner" былі ўганараваны залатымі медалямі на выставе "Піва-2012" у Сочы. Дэгустацыйны конкурс адбыўся ў рамках XXI Міжнароднага форуму "Піва-2012", які праходзіў с 16 па 18 траўня ў выставачным цэнтры ГК "Жамчужына", Сочы.








12 чэрвеня пры выкананні планавых палётаў разбіўся самалёт Су-25 116-й штурмавой авіябазы, якая дыслакуецца ў Лідзе. Загінуў пілот, лётчык 1-га класу Мікалай Генадзевіч Грыднёў.



У чэрвені лідзянка Севярына Курагіна ўзнагароджана “Ордэнам маці”.

29 чэрвеня ў Лідзе адкрылася 7-я прэзентацыя-выстава “Ліда-рэгіён”.



# Лідскія юбіляры 2012 года

## Лідская памяць пра генерала Стэфана Макрэцкага*

### Да 150-годдзя з дня нараджэння

**Стэфан МАКРЭЦКІ** (11 траўня 1862, в. Дзітрыкі Лідскага павету, цяпер Лідскі раён - 9 красавіка 1932) - генерал, палітычны дзеяч Сярэдняй Літвы.

Нарадзіўся ў сям'і землеўласнікаў, Аляксандра і Камілы Макрэцкіх.

Атрымаў вайсковую адукацыю, з 1878 служыў у расійскім войску. У 1911 у чыне палкоўніка; удзельнік Першай Сусветнай вайны, ваяваў ва Усходняй Прусіі. У верасні 1914 цяжка паранены, трапіў у нямецкі палон, дзе быў да лістапада 1915. Падчас абмену палоннымі вярнуўся ў Расію. У 1917 у чыне генерала, стаў адным з арганізатараў Саюзу вайсковых палякаў. У сакавіку 1918 накіраваўся на Украіну, у канцы 1918 ўзначальваў Самаабарону Лідскай зямлі, з сакавіка 1919 уступіў у Войска Польскае.



*Генерал Стэфан Макрэцкі*




*Адзнака Беларуска-Літоўскай дывізіі*

У 1919-1920 на камандных пасадах. Удзельнік летніх баёў 1920. У лістападзе-снежні камандаваў I корпусам войск Сярэдняй Літвы. Затым служыў пры камандуючым войскамі Сярэдняй Літвы генерале Люцыяне Жалігоўскім, дэкрэтам якога ў студзені 1921 прызначаны выканаўцам абавязкаў старшыні Часовай урадавай камісіі Сярэдняй Літвы. З лістапада стаў віца-старшынём Камісіі, на гэтай пасадзе заставаўся да перадачы Сярэдняй Літвы ў красавіку 1922 Польшчы.



*Магіла Аляксандра Макрэцкага ў Няцечы*

Затым да 1925 генерал Макрэцкі быў на службе ў Войску Польскім, а калі канчаткова пайшоў на пенсію жыў у маёнтку Вінкаўцы (Лідскі павет), а таксама ў Вільні. Памёр у 1932, пахаваны ў Вільні. Стэфан Макрэцкі быў узнагароджаны расійскімі і польскімі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Маёнтак Вінкаўцы Стэфан Макрэцкі атрымаў у спадчыну ад сваёй бабкі Гэмыліі з Нарбутаў Машэўскай у 1893 годзе. У 1903 годзе будавалася агароджа вакол Лідскіх каталіцкіх могілак. Камяні на будоўлю даў Стэфан Макрэцкі, пра што ёсць дакументальнае сведчанне ў выглядзе пліты, умураванай у агароджу. На пліце, злева ад уваходу па-польску напісана:

*"Агароджана (ў) 1903. Коштам парафіян, стараннем кс(ендза) дз(екана) Юзафа Сярцкевіча, М.*



*Пліта з імем Стэфана Макрэцкага, умураваная ў агароджу Лідскіх каталіцкіх могілак па пр. Перамогі*

* Падрабязна пра Стэфана Макрэцкага напісана ў "Лідскім летапісцы" № 3 (51) за 2010 г.



***Магіла Камілы Макрэцкай з Машэўскіх***



***Помнік Камілы Макрэцкай***



***Магілы Гэмыліі з Нарбутаў і Вінцэнта Машэўскіх***



***Помнік Гэмыліі Машэўскай***



***Помнік Вінцэнта Машэўскага***

*Пацэвіча, Я. Падгайнага, кам(яні) Стэфана Макрэцкага, за якіх Здровасць Марыя."*

На гэтых жа могілках справа ад уваходу знаходзіцца магіла маці Стэфана Макрэцкага Камілы. Помнік скінуты з пастамента і валяецца побач. На помніку надпіс:

*"...Каміла з Машэўскіх Макрэцкая, народжаная ў 1832 г. Памерла 2 траўня 1865 г., меўшы 33 гады. Вечны адпачынак рач ёй даць Пане."*

Каміла Макрэцкая да 33 гадоў нарадзіла 8 дзяцей і памерла пры родах апошняга сына, Зыгмунта, паўтарыўшы лёс многіх жанчын таго часу.

А злева ад уваходу, блізка ад капліцы знаходзяцца магілы Стэванавых дзеда Вінцэнта Машэўскага і бабкі Гэмыліі з Нарбутаў Машэўскай. На помніку на магіле дзеда напісана:

*"... парэшткі Вінцэнта Машэўскага, жыў 75 гадоў, памёр у 1876 г."*

На помніку на магіле бабкі напісана:

*"... Гэмылія з Нарбутаў Машэўская, народжаная ў 1806 г. Памерла 26 лютага 1893 г."*

Помнікі Машэўскіх добра захаваныя.

Бацька Стэфана Аляксандр Макрэцкі пахаваны на цвінтары касцёла ў Няцечы, за Тарновам. На помніку напісана:

*"Аляксандр Макрэцкі, гадоў 64. Жыццё цярпення, можа ў Небе ўзнагарода. 1816-1880".*

Такім чынам на Лідчыне дастаткова памятных месцаў, звязаных са Стэфанам Макрэцкім, выбітным дзеячам нашай беларускай гісторыі, бо Сярэдняя Літва і яе дзеячы ўсё настойлівей просяцца на старонкі афіцыйнай гісторыі Беларусі.

***Падрыхтаваў Станіслаў Суднік.***

# Прэзідэнт Расійскай дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук з Ліды

## *140 гадоў з дня нараджэння Пятра Сямёнавіча Когана*



***Пётр Коган***

140 гадоў таму назад, 8 (20) траўня 1872 г. у Лідзе, у сям'і лекара Сімхі Когана нарадзіўся будучы прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, прэзідэнт Расійскай дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук **Пётр Сямёнавіч Коган**.

Пачатковую адукацыю, магчыма, атрымаў у Лідзе. Скончыў Магілёўскую гімназію (1891), гістарычна-філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1896). Навучаўся заходнееўрапейскай філалогіі ў Аляксея Мікалаевіча Весялоўскага (1843-1918) і Мікалая Ільіча Старажэнкі (1836-1906), па заканчэнні атрымаў дыплом першай ступені за сачыненне "Ранні перыяд нямецкага гуманізму". Па прычыне габрэйскага паходжання ў пакіданні пры ўніверсітэце на кафедры заходнееўрапейскай літаратуры было адмоўлена. У 1896-1908-я гады выкладаў у Кацярынінскім інстытуце, Народным універсітэце імя А.Л. Шаняўскага, вучэльні філарманічнага таварыства і іншых навучальных установах Масквы; публікаваў артыкулы і рэцэнзіі ў грамадска-палітычных педагагічных часопісах.

У 1909 г. пераехаў у Санкт-Пецярбург, у 1910 г. здаў магістарскі іспыт пры Санкт-Пецярбургскім універсітэце, і быў абраны прыват-дацэнтам па кафедры германска-раманскай філалогіі, дзе прапрацаваў з 1910 па 1918 г. Адначасова чытаў лекцыі на Вышэйшых жаночых курсах імя Лесгафта. Прыняў праваслаўе, каб атрымаць магчымасць стаць прафесарам, але міністр народнай асветы Н.П. Багалепаў не дапусціў яго для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Член кіравання і прафесар новаадкрытага Смаленскага ўніверсітэта (1918-19). Пераехаў у Маскву. У 1920-30 гг. - прафесар МДУ. У 1920-я працаваў старшынём навукова-мастацкай секцыі Дзяржаўнай навуковай Рады Наркамасветы РСФСР.

Прэзідэнт Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук (ГАХН) з дня яе заснавання (1921-29). Быў такі навуковы інстытут пры Наркамасвеце РСФСР, які займаўся комплексным вывучэннем мастацтва.

***Распараджэнне па НКА № 41.***

*Прэзідыюм Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук зацверджаны ў ніжэйзгаданым складзе:*
*Прэзідэнт - П.С. Коган.*
*Віца - Прэзідэнт - Г.Г. Шпет.*
*Навуковы Сакратар - А.А. Сідараў.*
*Член Прэзідыюма - Б.В. Шапашнікаў.*
*Член Прэзідыюма - В.А. Пілiпаў.*
*Наркам па асвеце (А. Луначарскі).*

*16 лютага 1927 г.*
*Дакладна:*
*Заг. Агульнай Канцылярыі (Подпіс).*

У паслярэвалюцыйныя гады Пётр Коган быў, па словах М.І. Цвятаевай, "анёлам-захавальнікам" і "замоўцам… па зямных справах" многіх пісьменнікаў.

У 1920 г. узяў да сябе сакратаром 15-гадовую дваранку княскага паходжання Наталлю Германаўну Арансон у замужжы Баратаву, якая засталася без сродкаў да існавання. Дапамог атрымаць вышэйшую музычную адукацыю і стаць выкладчыкам Кансерваторыі па класе фартэпіяна.

Прыняў дзейны ўдзел у лёсе рэлігійнага філосафа С.Н. Дурыліна, якога пастановай калегіі ГПУ меркавалася выслаць у Хіву. Хіву замянілі на Чалябінск.

Хадайніцтва на імя сакратара Прэзідыюма Ўсерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта А.С. Енукідзэ пра вызваленне С.Н. Дурыліна з-пад арышту на парукі.

***1 снежня 1922 г.***

*Просім пра перагляд справы грамадз. С.Н. Дурыліна, 45-ці г., змешчанага ў Аддз. ГПУ г. Уладзіміра і пра затрыманне яго там да перагляду справы. Падрабязнасці выкладзены ў матываваным прашэнні пра ўзяцце на парукі, пададзеным у УЦВК 18 лістапада г.г., падпісаным двума членамі РКП і праф. П.С. Коганам (копія ў Наркамюсце ў Д. Курскага і перададзена ў ГПУ тав. Мянжынскаму). Стан здароўя непрацаздольнага С. Дурыліна такі (да прашэння прыкладзена медычнае сведчанне праф К.Ф. Флерава), што высылка яго ў Хіву раўнасільна для яго смерці.*

*Загадчык МУЗА Галоўнавукі Б. Красін.*

*Член Саюза пісьменнікаў М. Цвятаева.*

*Старш. навукова-маст. секцыі ГУСа П.С. Коган.*

*Падтрымліваю: Наркам А. Луначарскі (ЦА ФСБ РФ. Д. Р-46583. Л. 74.).*

У сакавіку 1924 г. П. Коган падтрымаў хадайніцтва Валошына на публікацыю яго выдатных, але з вялікім антыкамуністычным падтэкстам вершаў на кватэры ў члена ЦК Каменева Б.Л.

Сам П. Коган друкавацца пачаў у 1895 г. Першая яго праца з'явілася ў "Кнігазнаўстве" № 4-5. Друкаваўся таксама ў "Рускай думцы", "Рускім слове", "Кур'еры", "Адукацыі", "Сучасным свеце" і інш. часопісах. Вядомы крытык і гісторык заходнееўрапейскай і рускай літаратуры. У шматлікіх працах па гісторыі заходнееўрапейскай і рускай літаратуры і тэатра выявіў шырокую эрудыцыю, надаваў сур'ёзную ўвагу пытанням сацыялогіі мастацтва. Пасля 1917 г. стаў адным з вядучых марксісцкіх крытыкаў. У сваіх літаратуразнаўчых працах ужываў марксісцкі падыход да вывучэння літаратуры і яе гісторыі (у версіі "эканамічнага матэрыялізму").

Пасля рэвалюцыі вельмі папулярны лектар, гарачы прапагандыст савецкай літаратуры. З поспехам чытаў публічныя лекцыі пра сучасную літаратуру ў Політэхнічным інстытуце: *"... чытаў на любую тэму: ад літаратурнай да "Спосабаў доўгага жыцця". "Гаварыў дзіўна гладка, не паніжаючы і не павышаючы голасу, з бездакорнымі коскамі. Клічнік, пытальнік і шматкроп'е адсутнічаюць у яго гаворцы. На маёй памяці гэты аратар ні разу не запнуўся, ні разу не кашлянуў і не зрабіў ніводнага глытка вады са шклянкі. Яго агульнадаступныя лекцыі я слухаў яшчэ ў Пензе, быўшы гімназістам, і ўжо тады быў перакананы, што яны маглі б цудоўна вылечваць ад бессані самых цяжкіх псіхастэнікаў".* Публіцы падабалася, зборы былі добрыя. "Вапаўцы" і "лефаўцы" яго не любілі.

Як лічаць сучасныя літаратары, тэарэтычныя асновы яго падыходаў насілі "вульгарна-сацыялагічны характар". Супернік мадэрнізму і эстэтызму. У перыяд літаратурнай дыскусіі 1923-25 гг. выступіў як гарачы змагар пралетарскай літаратуры. Працы Когана сыгралі становучую ролю ў рускім літаратуразнаўстве.

У 1930 г. Дзяржаўная акадэмія мастацкіх навук была ператворана ў Дзяржаўную акадэмію мастацтвазнаўства. Памёр Пётр Сямёнавіч 2 траўня 1932 г. не дажыўшы да свайго 60 - годдзя 18 дзён. Пахаваны ў Маскве на Новадзевічых могілках ля паўночнай сцяны.

П.С. Коган - чалавек выбітных здольнасцяў, выдатнага лёсу, знаёмы з усімі паэтамі, пісьменнікамі, крытыкамі і правадырамі 1920-х гадоў, спадзяюся, у пантэоне выхадцаў з Лідскай зямлі зойме годнае месца.

**Асноўныя працы:**

Очерки по истории зап.- европейской литературы. Т. I, М., 1903 (изд. 9-е, Гиз, М., 1928), т. II, М., 1905 (изд. 8-е, Гиз, М., 1928), т. III, чч. 1 и 2, М., 1909-1910 (изд. 4-е, Гиз, 1928); М. Советская наука. 1943.

Очерки по истории древних литератур. Греческая литература, М., 1907 (изд. 5-е, Гиз, М., 1923); М., Гослитиздат. 1935. М., Учпедгиз, 1937

Очерки по истории новейшей русской литературы. Трехтомник. М., 1909-1912 (изд. 6-е, 2 тт., Гиз, М., 1929);

Белинский. М., Заря, 1917;

Белинский и его эпоха (время), М., 1911;

Миросозерцание Белинского, М., 1911;

Романтизм и реализм в европейской литературе XIX в. СПБ. 1914 (изд. 2-е, М., 1923);

Интеллигенция и народ. М., 1917;

Н. Г. Чернышевский в русском освободительном движении. П., 1917;

Пролетарские поэты. Литполитотдел Реввоенсовета Запфронта, 1920;

В преддверии грядущего театра, М., 1921;

Пролог. Мысли о литературе и жизни. Нойенбург, 1915, изд. 2-е, Гиз, М., 1923;

Белинский и его время. М., 1923;

Литература этих лет. "Основа", Ив.-Вознесенск, 1924;

Страховое Общество. Городская Общественная Библіотека.

Въ субботу, 5-го, и въ воскресенье, 6-го ноября

состоятся двѣ лекціи

ПЕТРА СЕМЕНОВИЧА

КОГАНА

5 ноября—на тему „Женщина въ поэзіи и въ жизни“.

6 ноября—на тему „Литература сегодняшняго дня“.

Начало въ $8^{1}/_{2}$ часовъ вечера.

Цѣны мѣстамъ отъ 35 к. до 3 рублей. Билеты продаются со среды въ Городской Общественной Библіотекѣ (Дворянская улица) и въ магазинѣ Б. В. Зернова (Кирилловская улица).

Пролетарская литература. "Основа", Ив.-Вознесенск, 1924 (изд. 4-е, 1925);

Красная армия в нашей литературе. "Военный вестник". М., 1926;

Наши литературные споры. Изд. ГАХН. М., 1927;

Литература великого десятилетия. "Московский рабочий". М., 1927;

История русской литературы от древнейших времен до наших дней. "Молодая гвардия" М., 1927;

Горький. Гиз, М., 1928;

А. С. Грибоедов, М.-Л., [1929];

Общественное значение МХТ, [М.], 1929;

Хрестоматия по истории зап.-европейской литературы, двухтомник. Гиз, М., 1929-1930.

Вильям Шекспир, М.-Л., 1931;

Очерки по истории Западноевропейского театра. Л., 1934.

Нарысы П. Когана па гісторыі заходнееўрапейскіх літаратур, гісторыі старажытных літаратур, па гісторыі найновай рускай літаратуры, па гісторыі заходнееўрапейскага тэатра да сярэдзіны 1940-х гадоў былі адзінымі навучальнымі дапаможнікамі ў савецкіх ВНУ.

Пяру П.С. Когана належаць таксама дзясяткі артыкулаў у энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Ефрона ("Классицизм", "Лессинг", "Гуцков", "Ибсен", "Зудерман" і інш.), у 1-м выданні Вялікай Савецкай Энцыклапедыі і ў Літаратурнай энцыклапедыі: "Айхенвальд Юлий", "Английская литература", "Бьёрнсон", "Бомарше", "Брандес Георг", "Бёрне Людвиг", "Дидро", "Джакомо Леопарди", "Метерлинк Морис", "Поль Верлен", "Юшкевич Семен" і інш.

П.С. Коган - выдатны папулярызатар, кнігі яго напісаны простай, выразнай мовай, не пазбаўленым публіцыстычнай завостранасці.

Валодаў некалькімі заходнееўрапейскімі мовамі. Аўтар перакладаў кніг Д. Рэскіна, І. Тэна і іншых.

І напрыканцы, каб склалася ўражанне пра літаратурны стыль П.С. Когана, прывяду некалькі цытат з яго нарыса пра Аляксандра Блока.

*"... Блок неймаверны ў Лазане ці ў вёсцы. Яго можна ўявіць сабе толькі на парыжскім бульвары ці ў пецярбуржскім рэстаране. Горад, гэты знак буржуазіі і новай псіхікі, прынесенай ёю ў свет, паступова разрастаючыся, стаў у наш час радасным п'яным гігантам, які ўбірае ў сябе ўвесь розум і ўсё пачуццё чалавецтва і, перасычаны імі, паслаблены ад лішку, шукае ў наркатычных сродках крыніцы новых узбуджэнняў.*

*Ап'яняльны ўплыў сталічнага горада, тая "вытворная легенда", якая ўзнікае ў яго грукаце, - легенда, якая мела на Захадзе Бодлера і Верлена, у нас знайшла свайго праўдзівага паэта ў асобе Блока. Не раз ужо адзначаўся той факт, што ўся руская мастацкая літаратура ўвогуле была літаратурай вёскі. Дваранскі лад, прыгоннае права, якія замацавалі інтэлектуальную дзейнасць за здольнымі думаць прадстаўнікамі абшарніцкага класа, надоўга афарбавалі нашу паэзію ў каларыт пачуццяў і настрояў вялікага сельскага народа. Найвялікія мастакі нашы аж да Талстога былі вяскоўцамі па духу. Яны падыходзілі да горада як чужыя, не ўспрыняўшы арганічна яго выпарэнняў. Нават у Някрасава карціны сталічных вар'яцтваў намалявана рукой чужога гораду паэта, і Дастаеўскі, першы вялікі паэт горада, з'явіўся ў яго са сваёй праўдай толькі для таго, каб не прыняць яго. У апошні час, па меры таго як ліквідуецца спадчына старой сельскай псіхікі, ... і рускае жыццё ўваходзіць у кругазварот еўрапейскага буржуазнага руху, які паступова захапляе ўвесь свет, - у нас разрастаецца літаратура горада. Але мы не ведаем паэта, які б так арганічна зросся з горадам, як Блок.*

*Ён не ведае сонца, і яго душа пачынае жыць толькі тады, калі загараецца штучнае святло. Толькі тады пачынае працаваць яго фантазія і дзее ён сваю легенду.*

*У шынках, у завулках няходжых,*
*У святле электрычнага сну*
*Я шукаў тых бясконца прыгожых,*
*Бессмяротна ўкаханых ў ману.*

*Ён не ведае адзіноты, таму што там засне яго душа, і толькі ў "весялосці ходніка" натхняецца яго муза.*

*Толькі ў вулічным бязладным руху раскрываецца перад ім таямніца; і яснай становіцца яму ўтойлівае жыццё чалавечай душы. Ён павінен бачыць гэты "ланцуг ліхтароў", які працягнуўся "скрозь вуліцы сонныя", гэтыя вуліцы, п'яныя ад крыкаў, гэтыя "сонцы ў ззянні вітрын". Ён любіць "бліскучую хлусню" горада, "пах палымяны духоў", размаляваныя пунсовыя губкі і "сіняватыя дугі броваў". Абставіны яго паэзіі - тыя карціны, якія так аднолькавыя з тых часоў, як паўсталі вялікія гарады. Гэта тыя рамкі, у якія ўцiснула жыццё свету буржуазная культура. Завітушка булачнай, якая залоціцца удалечыні "над пылам завулачным", "выпрабаваныя жартаўнікі", якія заламалі кацялкі і якія кожны дзень гуляюць з дамамі сярод канаваў, сонныя лакеі, што стаяць ля рэстаранных столікаў, шамаценне шоўку жаночых суkенак, гэтыя раздражняльныя, дурманлівыя гукі і фарбы выгадавалі музу Блока.*

*Па вечарах над рэстаранамі*
*Гарачы подых, дзікі ў пыл,*
*Кіруе лямантамі п'янымі*
*Вясновы дух з па-над магіл.*

*... Жыццё нясецца перад ім, бессістэмнае, няскладнае, ледзь улоўлівае ён адрыўкі з'яў, не ўзіраючыся ў твары, не пранікаючы ў глыб таго, што трапляецца насустрач. Людзі мільгаюць, як чорныя нявызначаныя сілуэты, у экіпажах ён улоўлівае толькі рухі, у вітрынах крам толькі бляск і стракатасць. Блок - паэт гэтых хуткіх невыразных успрыманняў. Сам верш яго гучыць як нявызначаны гуд вуліцы, у якім*

*час ад часу вылучаюцца асобныя гукі, грук кола, грук зачыненых дзвярэй ці крык п'янага. Ён не апісвае прадметаў. Ён адзначае толькі сляды іх мільганняў. Ён любіць бязладдзіцу і бязладнасць. Чым менш паслядоўнасці і сэнсу ў гэтым нагрувашчванні, тым больш настрою, тым больш кажа ён душы сучаснага сталічнага жыхара, перад якім у пярэстым калейдаскопе праносіцца штохвіліны напружаная праца чалавецтва, ажыццёўленая ў мірыяды непадобных прадметаў...*

*Блоку не трэба назоўнікаў, ён здавольваецца адными дзеясловамі. Ён пераважна - паэт рухаў і дзеянняў. У горадзе бесперапынная аглушальная мітусня, у якой цяжка ўлавіць саміх рухомых, але захоўваюцца іх жэсты і рухі. "Чырвоны з козлаў саскочыў", "знікла ў натоўпе".*

*Хто "чырвоны", хто гэта яна, "якая знікла" ў натоўпе? Блок не дадае назоўнікаў. І ён мае рацыю. Таму што ў вулічнай таўханіне твары не застаюцца ў памяці, застаюцца толькі мільганні.*

*... У аглушальным шуме вялікіх гарадоў, у іх асляпляльных агнях, у іх вар'яцкіх оргіях, дурманлівых мацней за опіюм і гашыш, грамадства здабыло чароўны свет, які ў папярэдніх стагоддзях з'яўляўся толькі ў бачаннях і ў галюцынацыях. Сучаснаму чалавеку не трэба асаблівых высілкаў уяўлення для таго, каб перанесціся ў свет зданяў. Само жыццё стала зданню, а людзі і прадметы - прывідамі. У дурманлівай змене колераў і гукаў цяжка адрозніць, дзе стварае казку рэчаіснасць, і дзе яна нараджаецца ў нашым уяўленні...”*

**Некалькі слоў пра жонку і сына**

Жонка - **Надзея Аляксандраўна Ноле-Коган** (1888-1966) - перакладніца, мемуарыстка.

Кахала А. Блока. Паўтары гады пасылала яму букеты руж. Сем гадоў (1913-20) доўжыўся іх раман. Блок падарыў Надзеі Аляксандраўне шэсць сваіх кніг. Апошнюю - у кастрычніку 1920 г., калі яны правялі цэлы месяц разам у Ленінградзе. Пасля гэтага нарадзіла сына, якога некаторыя паэты, у прыватнасці М. Цвятаева, лічылі сынам А. Блока. Сама Ноле-Коган у некаторыя перыяды жыцця не аспрэчвала такога роду здагадак, і тым самым іх "падсілкоўвала". М. Цвятаева піша, што Ноле-Коган паказвала ёй лісты Блока, яго падарункі "сыну" і пры гэтым "верадзіла мяне немагчымай назад-марай: сябе - маці гэтага сына, абагаўлянага мною да яго нараджэння...". Лекары ж упэўнена сцвярджалі, што Блок не мог мець дзяцей.

Сын - **Аляксандр Пятровіч Ноле** (9.06.1921-29.05. 1990) - вядомы ў 1960-80 гг. савецкі нарысіст і спартовы аглядальнік, пісаў пад псеўданімам "Аляксандр Куляшоў".


*Аляксандр Пятровіч Ноле*

Ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў французскае аддзяленне Ваеннага інстытута замежных моў (1946). Працаваў спартовым каментатарам, журналістам. Член Саюза пісьменнікаў СССР. Быў старшынём Маскоўскага аб'яднання дзіцячых і юнацкіх пісьменнікаў, старшынём Рады па прыгодніцкай і навукова-фантастычнай літаратуры пры СП СССР, членам рэдкалегіі альманаха-складанкі "Свет прыгод" і рэдкалегіі "Бібліятэкі фантастыкі".

Узнагароджаны ордэнамі “Дружбы народаў”, "Знак Пашаны", медалямі. Лаўрэат прэмій Міністэрства абароны СССР (1972), імя А. Фадеева (1974), медаль імя А. Даўжэнкі (1982). Заслужаны работнік культуры РСФСР.

***Валерый Сліўкін***,
*(Lida-info)*

# Найстарэйшаму лідскаму краязнаўцу Анатолю Куляшу - 85

**Анатоль Фёдаравіч Кулеш** нарадзіўся ў позні майскі вечар, 5 траўня 1927 года пад самае свята Юр’ева дня. Вёска Збляны Лідскага раёна, дзе яму пашчасціла прыйсці на свет, раскінулася ўздоўж правага берага Нёмана ў самым цудоўным на свеце прыродным кутку. Усё тут незвычайнае і натуральнае: і лес, і поле, і неба іншае, спеў птушак не такі. І, нават, подых ветру іншы. А галоўнае - цудоўныя, самабытныя людзі. З вясёлым норавам, тонкім гумарам, з сялянскай хітрынкай, а ў душы кожнага з іх жыве мастак: жывапісец, паэт, музыкант.

Тут ён пазнаў першыя словы, першыя літары, тут прыйшло першае каханне. Тут усё было першым. Але ў І7-гадовым узросце жыццё прымусіла пакінуць гэты багаты, цудоўны, жыватворны край.

Анатолю Куляшу прыйшлося пачаць вучобу ў польскай школе першай ступені з адным настаўнікам. Выкладанне прадметаў вялося толькі на польскай мове. Спачатку (да 1937 года) на беларуска-славянскарускай мове выкладалася рэлігія для вучняў з праваслаўных сямей, але і яе перавялі на польскую.

Ідучы ў першы клас сельскай школы, хлопчыку і ў сне не магло прысніцца, што калі-небудзь ён зможа атрымаць вышэйшую адукацыю і стане, увогуле, паважаным чалавекам: дасведчаным спецыялістам, “Выдатнікам народнай асветы”, дыпламантам міжнароднага конкурсу амбасады Польшчы на тэму “Польшча - прыязная суседка Беларусі” (2004),

адзначаным дзяржаўнымі ўзнагародамі і замежнымі адзнакамі, у т.л. - "Ганаровы Залаты Знак Польска-Савецкай Дружбы".

У шосты клас Анатоль пайшоў ужо пасля вайны - 1 кастрычніка 1944 года - у Лідскую СШ №1. Праляцелі 4 гады. Паўстала пытанне: як быць далей пасля заканчэння сярэдняй школы? Паступленне і вучоба ў ВНУ з-за матэрыяльных цяжкасцяў праблематычна. Працаваць? Дзе і кім? Больш сур'ёзнага пытання не было. У гэты час з-за недахопу настаўнікаў сельскіх школ, у Лідскай педнавучальні была адкрыта "спецгрупа" па падрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых класаў з гадзічным тэрмінам навучання. Туды прымалі слухачоў, якія мелі сярэднюю і дзевяцікласную адукацыю. Шмат што вабіла туды вясковага хлопца: стыпендыя, інтэрнат, а галоўнае - праз год ты становішся самастойным чалавекам. Канчалася нястача, беднасць, галеча. Вучоба ішла лёгка, без напругі. Скончыўся год, мелі быць выпускныя дзяржаўныя экзамены. Перад тым адбылося "размеркаванне". Размеркавалі на працу ў Лідскую працоўную дзіцячую калонію МУС. Адмаўляцца ў той час у такіх выпадках было не прынята. Усе ішлі туды, куды "партыя і ўрад" пасылалі.

Праз год вылузаўся з калоніі і стаў настаўнікам матэматыкі Споркаўскай сямігодкі за 5-6 кіламетраў ад Ліды. Спачатку Анатоль Фёдаравіч выкладаў матэматыку і вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, а пасля перакваліфікаваўся, закончыў БДУ па спецыяльнасці настаўніка фізічнай геаграфіі і выкладаў гэты прадмет у сярэдніх школах горада Ліды. Але як было прынята ў вясковых школах таго часу выкладаў яшчэ і фізіку, фізкультуру, маляванне, чарчэнне.

Летам 1951 года А.Ф. Куляшу прапанавалі пасаду другога сакратара райкаму камсамолу і адначасова ўзначаліць аддзел прапаганды. А ў раёне поўным ходам ішла калектывізацыя аднаасобных гаспадарак у гаспадаркі калектыўныя – калгасы. Але гэта быў ужо не 1939 год. Што ўяўляюць сабой калгасы, сяляне добра ведалі. Таму, як маглі, супраціўляліся.

У гэты час (1951 г.) былі арыштаваны сябры і аднавяскоўцы А. Куляша за ўдзел у моладзевай патрыятычнай антысавецкай арганізацыі, але на яго ніхто не паказаў. Выратавала тое, што быў адарваны ад сваёй вёскі і ў арганізацыю трапіць проста не паспеў.

Праца ў камсамоле не задавальняла, а пайсці па асабістым жаданні з выбарнай пасады – партыйнай ці камсамольскай, савецкай – можна было двума шляхамі: здзейсніць злачынства, ці калі цябе не выбяруць на наступны тэрмін. Другі шлях – гэта той жа першы. Трэба, каб усе паверылі ў тое, што ты не адпавядаеш свайму прызначэнню, і тады цябе не выбяруць. А чаго гэта каштавала пасля... Але А. Куляшу ўдалося з малымі стратамі зноў стаць настаўнікам, ужо ў Шайбакоўскай школе.

Шмат гадоў А. Кулеш прысвяціў краязнаўству. Яго ўдзел у краязнаўчай рабоце можна падзяліць на тры перыяды: знаёмства з родным краем у дзіцячыя і



школьныя гады, у час збору матэрыялаў для напісання дыпломнай работы пры заканчэнні геаграфічнага аддзялення фізіка-геаграфічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта на тэму "Фізіка-геаграфічная характарыстыка Лідскага раёна" і ў час работы пазаштатным экскурсаводам Лідскага бюро падарожжаў і экскурсій.

Калі ў першым і другім выпадках ён займаўся выключна знаёмствам і вывучэннем прыроднага наваколля, то ў апошні час прысвяціў сябе цалкам вывучэнню гісторыі і мінуўшчыны свайго горада і раёна, этнічным даследваннем і культуры.

У выніку шмат матэрыялаў апублікаваў у рэспубліканскіх, абласных і мясцовых перыядычных выданнях.

Працуючы настаўнікам геаграфіі ў школах горада, склаў фізіка-геаграфічны атлас раёна. У яго ўвайшлі фізіка-геаграфічная, геолага-геамарфалагічная карты, геалагічны разрэз і комплексны геамарфалагічны і раслінны профіль тэрыторыі раёна. Склаў гіпсаметрычную крывую рэльефу Лідскага раёна. Па шматгадовых дадзеных назіранняў за надвор'ем склаў комплексны графік кліматычных элементаў - сярэдніх, мінімальных і максімальных тэмператур, колькасці выпаўшых ападкаў на працягу года, вышыні Сонца над гарызонтам і працягласць дня і ночы. Быў ахарактарызаваны рэжым рэк: Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі.

Нарэшце была выдадзена кніжка пад назвай "Горад Ліда: гісторыя, легенда, факты"- папулярны гістарычна-геаграфічны нарыс. Нягледзячы на некаторыя недахопы, кніжка, бадай, паклала пачатак актыўнаму развіццю краязнаўства ў горадзе. Зараз нарыс грунтоўна перапрацаваны. Акрамя гэтага, напісаны асобныя замалёўкі з асабістага жыццёвага досведу, якія ўвайшлі ў аўтабіяграфічны нарыс "Пра час і пра сябе". Нарыс цесна звязаны з біяграфічнымі момантамі і палітычнымі падзеямі, што адбываліся на Лідчыне, і ў якіх аўтару прыходзілася прымаць нейкі ўдзел. Усе яны абгрунтаваны адпаведнымі дакументамі.

Працаваў у складзе рабочай групы па напісанні кнігі "Памяць. Ліда і Лідскі раён". А яшчэ ў шуфлядзе А. Куляша на сёння тры невыдадзеныя кнігі. І трэба паспяваць, трэба выдаваць.

# Шкло падобнае да кіслароду

## *60 гадоў з дня нараджэння Галіны Сідарэвіч*

Галіна Маісееўна Сідарэвіч нарадзілася ў сям'і сялян у вёсцы Бобрык Пінскага раёна Берасцейскай вобласці 17 траўня 1952 года, на беразе аднайменнай палескай рэчкі Бобрык. Навучалася да 8 класа ў Бобрынскай сярэдняй школе. У 1967 годзе паступіла ў Менскую мастацкую вучэльню імя Глебава. Пасля яе заканчэння ў 1971 годзе працавала ў Менску. У 1978 годзе паступіла ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, сучасная Акадэмія мастацтваў, на аддзяленне "Мастацкае шкло".

Пасля яго заканчэння ў 1981 годзе прыехала на працу ў Бярозаўку на шклозавод "Нёман". Прапрацаваўшы тут год, паехала на працу на Першамайскі шклозавод у Смаленскай вобласці. Але ў 1983 годзе вярнулася ў Бярозаўку на пасаду мастака ў эксперыментальна-мастацкі аддзел шклозавода "Нёман".

Пачынала працаваць з брыгадай майстроў-шкловыдзімальшчыкаў Івана Пухоўскага. Зараз працуе з брыгадай майстроў Андрэя Міхайлава.





***Вечар***

Працуе ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (мастацкае шкло), і прамысловага дызайну (посуд, сувеніры, прызы і г.д.). Прымала ўдзел у стварэнні дэкаратыўнай люстры для Літаратурнага музея М. Багдановіча ў г. Менску (у суаўтарстве), у стварэнні дэкаратыўнай люстры для Беларусбанка ў г. Гародні (у суаўтарстве). Стварыла дэкаратыўную



***Астэроіды***



***Грушы***



***Вазы***



***Пікнік на ўзбочыне***

рашотку для будынка амбасады Беларусі ў Вільні.

Пры выкананні сваіх работ, якія аўтарка называе станкавай шкляной скульптурай, выкарыстоўвае розныя матэрыялы: металічныя сеткі, фальгу, рознакаляровыя фарбавальнікі і, нават, паветра. Вельмі актыўна ў працах выкарыстоўваецца тэма прыроды і, асабліва, жывёльнага свету.

Галіна Сідарэвіч мяркуе, што "шкло - матэрыял з якасцямі, якія не мае не адзін з іншых матэрыялаў. Галоўная яго ўласцівасць - празрыстасць і падабенства да кіслароду. Гэта зачароўвае. Адпаведна, і ставіцца трэба да шкла, як да чараўніцтва."

Асноўныя працы: "Віно з дзьмухаўцоў"; "Яечня з кетчупам"; "Марская пена"; "Пасля дажджу"; "Салёны вецер"; "Астэроіды"; "Батлейка"; "Цішыня"; "Эдэм"; "Пляж"; "Дрэвы"; "Вечар"; "Грушы"; "Вазы"; "Пікнік на ўзбочыне"; "Чорная ваза"; "Нацюрморт з рыбай" і інш.



***Дрэвы***

Работы Галіны Сідарэвіч знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Беларускім музеі гісторыі культуры, Музеі Беларускага Палесся, Лідскім гістарычна-мастацкім музеі, Смаленскім гістарычна-краязнаўчым музеі, а таксама ў прыватных зборах калекцыянераў Англіі, ЗША, Італіі, Польшчы.

З 1983 года прымала ўдзел у мастацкіх выставах і выставах-кірмашах у Беларусі: у гарадах Гародня, Ліда, Менск, Пінск, Віцебск; ў Расіі ў гарадах: Масква, Смаленск, а таксама: у Літве, Польшчы, Італіі, Грэцыі, Югаславіі, Індыі, Чэхіі, Аўстрыі, Германіі, Алжыры, ААЭ, Эфіопіі, Германіі, Швецыі і інш.



***Чорная ваза***

У 1985 годзе за працу "Цішыня" ўзнагароджана Срэбным медалём ВДНГ СССР. На мастацка-тэхналагічным савеце ў Маскве па працы "Цішыня" абараніла аўтарскую тэхніку выканання.

З 1988 года з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў СССР, а затым Беларусі.

Працуе мастаком на шклозаводзе "Нёман". Жыве ў г. Бярозаўцы Гарадзенскай вобласці.

***Юрась Дзяшук.***

# Подых пачуцця Аляксандра Вараксы
## *50 год з дня нараджэння*



*“Сучаснасць насычана вобразамі і ідэямі, але большасць з іх у эру высокіх тэхналогій і пастаяннага спажывання падаюцца нам далёкімі ад нейкай сакральнай ісціны, якая пастаянна ўцякае ад нашага позірку, дотыку, акрэсленых межаў. Інтымная прастора кахання, з аднаго боку, ідэальная сфера вобразнага ўвасаблення ў жывапісе, але - гэта і самая небяспечная вобласць. Кожнаму з нас падаецца, што менавіта ён, а не хто іншы - эксперт і ведае ўсе падрабязнасці біяграфіі пачуцця. Неасцярожны дотык можа парушыць сусвет, дзе Двое дыхаюць унікальным паветрам недасказанасці і ў той жа час татальнасці пачуццяў. Жывое каханне - заўсёды незавершанасць, калі ж раптам усё становіцца цалкам зразумелым і наскрозь прадказальным, то жывое рэчыва пачуцця пакрыху раствараецца, пачынаючы разгублена шукаць новыя формы здзяйснення на зямлі. Мастак згадвае пра нюансы, адценні, незавершаныя праекты кахання, пра тое, што пастаянна балансуе паміж “няма” і “ёсць”, паміж бачным і нябачным, сказаным і тым, што яшчэ толькі нараджаецца ў думках звычайных людзей ці ў энергетычнай прасторы зямлі, у своеасаблівай ноасферы. На карцінах - увасабленне імгненнага і адначасова вечнага "паміж". “Паміж”, як энергія жыцця, што ствараецца і парушаецца кожную хвіліну, эмоцыі, якія ўтвараюць алфавіт, зразумелы для Дваіх. Позірк гледача быццам парушае інтымнасць. але у той жа час позірк іншага (нават проста цікаўны, выпадковы) дорыць кожнаму твору новыя жаданыя падрабязнасці руху, узаемапранікнення, рацыянальнага і пачуццёвага пачаткаў. На перакрыжаванні позіркаў - нашага асбістага і закаханых - і магчыма прадчуванне веры ў збыванне ўласнага пачуцця, якое сапраўды існуе "тут і цяпер" - у сучасных прасторы і часе.”*



***Паслухай, 1994***



***Сустрэча, 1995***



Гэта сказана пра творчасць Аляксандра Сямёнавіча Вараксы, які нарадзіўся ў 1962 годзе, у Крыме, у г. Феадосія. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў г. Віцебску, у ВДПУ, на мастацка- графічным факультэце ў 1982-1988 г.

Мае за плячыма выставы:

1986 г. - абласная выстава, г. Віцебск;

1990 г. - Міжнародная выстава "Акт в искусстве", г. Гародня.

Выставы творчага аб'яднання "ЛІДЗЯНЕ”:

1992 г.- г. Ліда,

1992 г.- г. Гародня,

1995 г. - Палац мастацтваў, г. Менск.

1994 г. - Міжнародны пленэр г. Кашалін (Польшча).

Персанальныя выставы:

1994 г. - г. Ліда;

1994 г. - г. Гародня;

1998, 2000 г. - г. Ліда;

2006 г. - г. Гародня;

2006 г. - рэтравыстава г. Ліда.

Рэспубліканская выстава "Дажынкі-2006" і інш.

Жыве і працуе ў г. Лідзе.

# 100 гадоў з дня нараджэння Пятра Бітэля

**БІТЭЛЬ Пятро**, нарадзіўся 19.06.1912 г. у мястэчку Радунь Лідскага павету (цяпер Воранаўскі раёна Гарадзенскай вобласці). Хрышчаны ў лідскім Свята-Міхайлаўскім праваслаўным саборы.

Дзяды і прадзеды былі сялянамі Ашмянскага павету. Маці была служанкай ў бацькоў Фердынанда Рушчыца. Бацька працаваў паштальёнам спачатку ў Вішневе, а потым у Радуні. Тут бацькі пабраліся шлюбам, тут нарадзіўся сын Пятро.

У 1931 г. скончыў настаўніцкую семінарыю ў Вільні. Працаваў настаўнікам пачатковых школ у Нясвіжскім і Стаўбцоўскім раёнах (1931-1939). Служыў у польскай арміі (1933-1934). За перыяд 1935-1939 гг. скончыў завочна Вышэйшыя настаўніцкія курсы ў Вільні (гістарычна-філалагічны аддзел). У 1939 г. удзельнічаў у польска-нямецкай вайне. У Берасці трапіў у савецкі палон. Вывезены ў Арзамас, дзе быў вызвалены. Вярнуўся ў Беларусь.

У 1940 годзе працаваў настаўнікам у Вішневе, пасля дырэктарам СШ №2 Валожына і школьным інспектарам. Пасля чэрвеня 1941 да 1942 хаваўся ад немцаў. Затым стаў настаўнікам гандлёвай школы ў Валожыне. Вывезены ў Германію (1944) і там, пасля вызвалення (1945), прызваны ў Савецкую Армію. У 1946-1947 гг. працаваў настаўнікам Забрэжскай сярэдняй школы Валожынскага раёна. Пасля звальнення з настаўніцкай працы (1947) і немагчымасці ўладкавацца на ніякую дзяржаўную працу стаў праваслаўным святаром. 30 верасня 1947 г. стаў настаяцелем царквы ў в. Міжэвічы Слонімскага р-на. У студзені 1949 года пастановай мітрапаліта пераведзены ў г. Докшыцы Віцебскай вобласці. 24 лістапада 1950 г. арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Адбываў тэрмін у Альжарасе Кемераўскай вобласці, у Омску і Джэзказгане. У 1956 г. звольнены датэрмінова са зняццем судзімасці. 29 верасня часова накіраваны мітрапалітам у в. Галавачы Скідзельскага р-на, а 3 кастрычніка 1957 года пераведзены ў г. Петрыкаў Гомельскай вобласці. Некаторы час быў дабрачынным Жыткавіцкай царкоўна-адміністрацыйнай акругі. У красавіку 1963 года ў П. Бітэля адабралі даведку на права выконваць абавязкі святара ў Гомельскай вобласці. Вярнуўся ў старую бацькаву хатку. Паўгода не мог знайсці працу. У 1963-1974 гг. выкладаў у Вішнеўскай сярэдняй школе Валожынскага раёна беларускую мову і літаратуру, нямецкую мову і маляванне. Скончыў завочна беларускае аддзяленне Менскага педагагічнага інстытута (1970) і Дзяржаўныя цэнтральныя курсы завочнага навучання "Іняз" у Маскве (1970). Рашэннем Вярхоўнага суда БССР ад 28.11.1978 г. па справе арышту і зняволення поўнасцю рэабілітаваны. Сябар СП СССР з 1985 г.

Друкаваўся з 1929 у часопісе "Шлях моладзі" пад псеўданімам Леанід з-пад Вішнева. Аўтар паэм "Замкі і людзі" (1968), "Сказанне пра Апанаса Берасцейскага" (1984), “Памятны верасень. Урыўкі з салдацкага дзённіка”. Пераклаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча ("Пан Тадэвуш", "Конрад Валенрод", "Гражына", "Дзяды", "Крымскія санеты"), польскамоўныя паэмы і п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча, аповесць Ю. І. Крашэўскага "Хата за вёскай" (1989), пасобныя творы М. Канапніцкай, Б. Пруса, Ю. Славацкага, Г. Сянкевіча, М. Лермантава, А. Пушкіна, І. Франко, Т. Шаўчэнкі, Б. Брэхта, Ё. В. Гётэ, Ф. Шылера і інш. У 1990 г. выйшла кніга П. Бітэля “Дзве вайны”, дзе змешчана паэма “Баруны”. Пераклад П. Бітэля паэмы “Пан Тадэвуш” у 1998 годзе надрукаваны ў юбілейным трохмоўным выданні да 200-годдзя Адама Міцкевіча, што само па сабе абазначае прызнанне найвышэйшай якасці перакладу.



Памёр Пятро Бітэль 18.10.1991 г.

*Даследчык беларускай літаратуры Міхась Скобла перадаў у рэдакцыю “Лідскага летапісца” чатыры машынапісы Пятра Бітэля з аўтарскімі праўкамі і пазнакамі. Гэта “Баруны” - вершаваны ўспамін аб мінулым (1979 г.), казкі “Нястача” (1972 г.), “Зялёная царэўна” (1976 г.), “Папараць-кветка” (1977 г.). Мы друкуем казку “Нястача”, факт ранейшага друку якой намі пакуль не ўстаноўлены.*

***Пятро Бітэль***

# Н Я С Т А Ч А

## К а з к а

Год мо тому сто, мо дзвесце.
Цяжка ўжо сказаць, калі
На ўзбярэжжах Нёмна дзесьці
Два браты жылі - былі.
Іх усе навокал зналі,
Як выдатных кавалёў,
Шанавалі, паважалі,
Бо без лішніх, скажам, слоў,
Што ў сяле без каваля
Не расшчодрыцца зямля.
Барану ці плуг, калёсы
Ці падковы, ці атосы,
Серп, матыгу ці нарогі
Без кавальскай дапамогі
Не наладзіш сам ніяк.

Дык багаты і бядняк
Кузню знаў, і там, бывала,
То гудзела паддувала,
І то злёгку, то заядла
Дзынкаў молат аб кавадла.

Пільнай працай кавалі
Дабрабыт і на’т багацце
Праз час нейкі здабылі.
А старэнькая іх маці
Клапацілася не мала,
Каб парадак быў у хаце:
Шыла, мыла, гатавала,
Прала, ткала, як магла.
Ды вось неяк нечакана
Прылягла і памярла.

Доўга ў сэрцах хлопцаў рана
Не гаілася, ды час -
Лекар самы лепшы ў свеце,
Дык памалу боль іх згас,
І Сцяпан раз кажа брату:
"Ёсць дзяўчына на прыкмеце...
Я б хацеў прывесці ў хату
Гаспадыню-маладзіцу,
Ну... задумаў я жаніцца,
Ці не будзеш ты супроць?"
"Не. Чаму ж, браток, прыводзь
І спраўляй хутчэй вяселле, -
Адказаў яму Ямеля. -
Кажуць, дом без гаспадыні
Ў заняпад ідзе і гіне.
А як будзе ў нас падмога,
Будзе нам лягчэй намнога."

Зразу ўсё йшло добра, ціха,
Але хутка Сцепаніха
Злы свой нораў паказала.
Цэлы дзень яна, бывала,
То з суседкамі лапоча,
То ўвесь дзень ляжыць на печы,
То на сонцы грэе плечы,
То малюе шчокі, вочы,
То сукенкі прымярае.
Абрасла падлога брудам,
Учарнела печ старая,
Закапцелася пасуда.
Брудам, шчэццю абраслі
І абодва кавалі,
Ажно сорам перад людам.

Раз Ямеля кажа брату:
"Ты прывёў у нашу хату
Гаспадыню-маладзіцу,
А яна работ баіцца:
Стала хата ў нас, як хлеў,
Сам не знаю ўжо дзён колькі
Стравы цёплай я не еў.
Гэта ж, браце, смех дый толькі,
Каб не ведала Параска
Самых простых абавязкаў.
Дык ты, братка, не маўчы,
Сваю жонку, калі ласка,
Пажуры і павучы."

Мову гэту, як на ліха,
Падсачыла Сцепаніха
І так мужу Амельяна
Ачарніць змагла пагана,
Што ўзлаваўся той на брата,
Біцца лез і гнаў вон з хаты.

Не апраўдваўся Ямеля,
Выйшаў з хаты і ў журбоце
Стаў, задумаўся пры плоце.
А якраз была нядзеля,
Дык пайшоў і выпіў з гора
У карчме з паўкварты брагі.
А тут нейкія бадзягі
Абступілі хлопца скора,
Адурманілі, спаілі,
Распранулі да кашулі,
Шапку знялі і разулі,
Потым ... лыжы навастрылі.

І застаўся наш нябога
За хлявамі каля стога
Ледзь не голы начаваць.
А гадзін праспаўшы з пяць,
Ледзь жывы ад халадэчы
Ўстаў з-пад стога Амяльян
З галавой пустой, як збан.
Тут задумаўся бядак,
Што рабіць далей і як?
І куды цяпер падацца,
Дзе спыніцца, чым заняцца?

Ды каб з месца на'т сысці,
Перш трэ' вопратку знайсці,
Хоць няхай абы-якую.
"Вось цяпер я пакукую, -
Думаў ён. - Каго вініць
За гісторыю такую?..
Сам ва ўсім я вінаваты..."

Бачыць: Пудзіла стаіць
У каноплях на гародзе
Ля старой суседскай хаты.
Разважаць тут доўга годзе,
Дык рашыў без часу страты.

"Хоць і ты, брат, не багаты, -
Кажа Пудзілу Ямеля,
Азірнуўшыся навокал, -
Ды пазыч ты мне адзежкі,
Бо табе тут паміж зелля
За платамі, збоку сцежкі
Ўсё ж не тое, што на воку
Аказацца ў цэлай вёскі."

"Я не супраць распрануцца,
Толькі ж, брат, мае абноскі
На табе ўраз распаўзуцца,
Бо старыя, спарахнелі", -
Кажа Пудзіла Ямелі.
"Ну, нічога, неяк будзе.
Хоць касцюм у латах, брудзе,
А ўсё ж лепшы, чым ніякі,
Можна ў ім падацца ў людзі,
Не зважаючы на бракі.
А пасля такіх здарэнняў
Не дазволіць мне сумленне
У роднай вёсцы заставацца.
Трэба мне, і чым хутчэй
Ад насмешлівых вачэй
У свет дальні падавацца,
Я ж прапіўся дагала!

Дык пайду хутчэй з сяла,
Каб ніхто ўжо і ніколі
Тут мяне не бачыў болей"
Зняў з калочкаў лахманы
Ды і ўздзеў іх, хоць яны
Ўсе былі на дзірах, латах.
Ранак. Людзі паўставалі.
Дык Ямеля, хоць і ў жалі,
У сумненнях і трывозе
Пацягнуўся па дарозе,
Сам не знаючы куды.

Вось у той час з лебяды
Раптам вылезла Нястача
І сказала: "Гэй, юнача!
Ты, я бачу, адзінокі,
Дык вазьмі мяне з сабой.
У край блізкі ці далёкі,
На гулянку, працу, ў бой
Я пайду з табой заўсёды.
Дык што скажаш, хлопча мой?"
"Што ж, цягніся, мне не шкода,
Ўсё што два, то не адзін,
Весялей мо трохі будзе", -
Ён адказ дае Нястачы.
"Вось і добра, не марудзьма,
Я іду з табой, мой сын, -
Кажа тая. - Кій жабрачы
Вось дару ў знак дагавору..."

І ад той часіны спору
Ані ў чым і ўжо ніколі
Амяльян не мог дабіцца -
Зведаў гэткія нядолі,
Што павек іх не забыцца.
Перш яго ўсе сустракалі
Не без страху ці насмешкі
З той яго гнілой адзежкі.
Дзеці ў сполаху ўцякалі
За платы і завуголлі,
Бабы пальцамі паролі,
А той-сёй на небараку
Прабаваў спусціць сабаку.

Так ці доўга мо, ці мала
Ён ішоў, як воўк, галодны,
Ды на мосце цераз рэчку
Варта хлопца затрымала:
"Ты куды брыдзеш, нягодны?"
"Я б хацеў тут у мястэчку
За работніка наняцца..."
"Пашпарт ёсць? - спыталі строга. -
А? Не маеш? Ну, нічога,
Можаш, брат, не сумнявацца,
Што цябе надзеляць працай.
Там работы вельмі шмат,
Дзе Макар пасе цялят,
Бо такіх, як ты, бадзяг
Цар ссылае ў дальні шлях."

І Ямелю засудзілі.
І пайшоў адмерваць мілі
Ён у край халодны, дзікі
У злачынцаў грамадзе.

Вось ён так ідзе-брыдзе
Пад канвойных злыя крыкі,
Між натоўпу адзінокі,
Часам стогне, часам плача,
А з ім побач ставіць крокі
Неадступная Нястача.

І юнацкіх сіл не мала
Тая высылка забрала!
Ў спёку, дождж і ў халадэчы
Хлопец гнуў ад працы плечы:
Высякаў ён лес дрымучы
За булён гнілы, смярдзючы,
За кавалак дробны хлеба,

Што сыры быў і калючы,
За начлег пад голым небам,
За абразы ды папрокі...
І ўсё быў не адзінокі:
Быццам цень у дзень гарачы,
Вечна з ім была Нястача.

Але ж самая на'т злая
Доля ўсё ж канец свой мае.
І з той высылкі паганай
Адпусцілі Амяльяна,
Далі пашпарт, сухароў
І адправілі дамоў.

Доўга хлопец дабіраўся
У свой край да роднай вёскі.
Абнасіўся, згаладаўся,
Зноў дзіравыя абноскі
Целяпаліся на целе,
І атопкі з ног ляцелі,
Бо не меў юнак удачы
З ласкі вернае Нястачы,
Што яго не пакідала
На'т на самы час кароткі.
Прабаваў Ямеля драла
Даць не раз ад гэтай цёткі,
Ды яна ўсё насцігала
Хлопца ўсюды і заўсёды.

Ноччу ў час сырой пагоды
Дацягнуўся ўсё ж Ямеля
Да старой бацькоўскай хаты
І здзівіўся: "Там вяселле,
Ці якісьці баль багаты?
Вокны свецяцца агніста,
І пад зыкі гарманіста
Чуцен тупат моцных ботаў..."
Стаў Ямеля каля плоту,
Падзівіўся, паўзіраўся
І праз двор у дом падаўся.
"Скуль там столькі тупаніны?
А! Параскі імяніны".

Адчыніла Сцепаніха:
"Хто яшчэ тут? Што за ліха?
Хто тут лазіць сярод ночы?"
І пасля за дзверы ўскочыць
(Бач, пазнала Амяльяна)
І давай шаптаць старанна
Мужыку свайму пра брата,
Што калматы ён, нямыты,
Што каптан - на лаце лата,
Што не йнакш, як у бандыты
Ён даўно ўжо запісаўся...
"Дык чаго ж ад нас ён хоча?"-
Брат старэйшы запытаўся.
І таму, што быў у хмелі,
Да развагі неахвочы,
Не пабачыўшы Ямелі,
Загадаў Парасцы ён
Гнаць з двара бяднягу вон.

Дык Параска да Ямелі
Зноў вярнуўшыся, сказала:
"Госці ўсё спілі, паелі,
А цябе ж я не чакала...
Вось тут костка засталася,
Костка добрая, пры мясе.
На, вазьмі і будзь здароў!
Адпраўляйся, скуль прыйшоў".
"Што ж, і костка значыць штосьці,
Калі мяса ёсць на косці.
А ад брацiхі Парaскі
Не чакаў я большай ласкі, -
Ёй адказ дае Ямеля. -
Зычу вам, каб зразумелі,
Як вас зваць за гэта трэба..."
"Пачакай, дам трохі хлеба", -
Мітусіцца баба стала.
Ды Ямеля слухаў мала
І ад роднага парога
Зноў падаўся ў шлях-дарогу.

Так ідзе ён і грызе -
Далі костку балазе.
Але бачыць, што карысці
Мала ў ёй: няма што грызці,
Мяса зрэзана ўжо з косці.
Пасмактаў і ўжо са злосці
Думаў кінуць той маслак
На спажыву для сабак
На які-дзе панадворак,
Ды згубіў з нагі апорак,
Незнарок ступіўшы ў гразь.

"Тут хоць з хаты не вылазь,
Столькі ў вуліцы балота!
І нікому неахвота
Воз-другі пяску прывезці.
Толькі знаюць піць ды есці,
Быццам тыя вепрукі,
Міраеды-кулакі,
Каб на іх прыйшла загуба!" -
Так Ямеля лаяў груба
Ўсю кампанію Сцяпана
І вакол сачыў старанна,
Ўзняўшы босую нагу.
"Вось угледзець не магу,
Дзе яго падзела ліха, -
Мармытаў сабе ўжо ціха.
Раптам чуе: нехта плача,
Дык спытаў: "Ты хто?" "Нястача, -
Быў адказ яму з - пад плоту, -

Есці вельмі мне ахвота,
Можа ты і мне дасі
Таго трошкі, што ясі?"
"А што ж даць табе? Тут косць".
"Дык мо шпік у ёй хоць ёсць?"
"Ёсць, чувaць, ды немагчыма
Ўзяць яго ніякім чынам,
Хоць я й так і сяк бяру.
Хіба ўлез бы хто ў дзюру,

Мо б тады мог пажывіцца..."
"Я б залезла." "Лезь, сястрыца,
падмацуйся, мне не шкода."
Тут Нястача проста з ходу
Стала дробнай, быццам чмель,
І палезла ў той камель.
А Ямеля дзеля смеху
Косць заткнуў пустым арэхам,
Што ў кішэні заваляўся.
"Ну, сястрыца, еж там, праўся", -
Кажа ёй. А тут Нястача
Як ускрыкне: "Ты, лайдача!
Што ты робіш? Адаткні,
Бо як вылезу, ані
Я не дам табе спакою!
Ды хутчэй, каб не марудзіў,
Бо іначай кепска будзе!"

"Ого-го! Дык вось тыя як!
Дык па-твойму, я лайдак?
Ты яшчэ мне пагражаеш?
Ну дык чорт цябе бяры,
І сядзі ж ты ў той дзіры
За сваю брахню і злосць!"
І, мацней заткнуўшы косць,
Затаптаў у гразь пад плотам.

І падаўся моўчкі потым,
Адшукаўшы свой таптак,
Вузкай сцежкай на бальшак,
Каб пусціцца ў дальні шлях,
Чым далей ад крыўд, зняваг,
Паспытаў якіх багата
З ласкі брацiхі і брата.

Шмат ён так прайшоў ці мала.
А тым часам рассвітала.
Бачыць, хтось шасцярыком
Прэ што духу бальшаком.
"Пан якісьці знакаміты
Ў акружэнні збройнай світы:
Побач скачуць гайдукі,
Нібы чорныя гракі", -
Так Ямеля разважае,
Шлях спакойна прадаўжае
Ды з цікавасцю глядзіць:
Хто такі там можа быць?
Раптам - трэсь! Карэта стала,
Пахілілася, апала.
Мітусяцца гайдукі
І глядзяць ва ўсе бакі:
Дзе шукаць ім дапамогі?
Аж на ўзбочыне дарогі
Раптам згледзелі Ямелю.
Тут к яму ўраз наляцелі,
Акружылі, абступілі:
"Ты кажы нам той жа хвілі,
Дзе знайсці нам каваля!"
А Ямеля спакваля
Паглядзеў на тую зграю
І сказаў, зірнуўшы ў даль:
"Ну вось я і ёсць каваль
І бяду ўжо вашу знаю."
Не паверылі адразу,
Сталі кпіць ды сумнявацца:
"Гэта ж п'яніца адпеты!"

Ды Ямеля на абразу
Не зважаў, не стаў спрачацца.
Падышоў да той карэты,
Паглядзеў і запытаўся:
"Ёсць інструмент?" Тут дварня ўся
Пачала яму падносіць
Малаткі, шчыпцы, ключы,
Словам, што ён не папросіць.
І работа закіпела:
Абапёршы на карчы,
Ладзіў ён карэту тую
Пільна, ўдумліва і смела.

Вось гатова ўжо карэта.
І манету залатую
Пан падаў яму за гэта:
"Вось за працу". "Хоць у Піцер
Вы на ёй цяпер каціце", -
Пакланіўся Амельян.
А з карэты знатны пан
Памахаў яму рукою.

"Ну, здабычаю такою
Лёс мяне даўно не лашчыў, -
Разважаў з сабой Ямеля, -
Мо яшчэ я не прапашчы
І найду ўсё ж сваю долю?"
Чорт шапнуў: "Хмяльнога зелля
Выпі ў радасцях з паўкварты..."
"Хопіць - раз напіўся ўволю.
Не. З вінОм благія жарты.
Трэба мне падмацавацца,
Запасціся трэ' адзежкай -
Чалавекам трэба стацца,
Хопіць быць людской насмешкай".

І падаўся ў горад хутка,
А праз час зусім кароткі
Адмяніўся цалкам тутка:
Стаў ён чыстым і прыгожым,
І не стала той паходкі,
Што была ў час падарожжа.
"Вось не сорамна нідзе
Ў гэткім відзе паказацца", -
Сам сабе сказаў з вусмешкай.

У кірмашнай грамадзе
Пахадзіў хвілін са дваццаць
І рашыў знаёмай сцежкай
Зноў дадому скіравацца
Бо ці позна там ці рана,
А пабачыць трэ' Сцяпана,
Трэба ж неяк з ім паладзіць,
Зноў спыніцца ў роднай хаце,
Хоць Параска будзе гадзіць...

О, няма там роднай маці!

Прыкупіў харчоў, адзежы
І, звязаўшы ў вузялок,
Каля рэчкі, па ўзбярэжжы
Зноў падаўся ў родны бок.

Мала часу йшоў ці многа.
Але ў роднае сяло
Прывяла яго дарога.
Долі злой, як не было:
Час далёкі, час дзяцінны,
Як жывы, прад ім паўстаў
І прачнуліся ўспаміны...
Пад старой вярбою стаў
Ды навокал разглядаўся:
Як тут міла, як прыгожа!
Як знаёмае ўсё тут!
Ці ж на свеце дзе быць можа
Больш жаданы сэрцу кут?

Вось на градках пад гарод
Ўбачыў Пудзіла старое
І з ім зараз прывітаўся:
"Як жывеш, мой добры дружа?
Ты намёрзся, пэўне, дужа,
Мне ўсю вопратку аддаўшы?
Вось прыйшоў свой доўг калішні
Я вярнуць табе сягоння.
Бачу, ты ўсё не ў паддашшы,
Дык не будзе пэўне лішнім
На тваім старым загоне
Гэты клунак невялікі:
Тут сарочка, нагавіцы,
Світка, пояс, рукавіцы,
Капялюш і чаравікі.
Вось прымі і апраніся,
Бо пазнаў я, дружа Страх,
Як жыць цяжка ў лахманах."

"А ты значна адмяніўся, -
Кажа Пудзіла Ямелі, -
Доўга звестак мы не мелі
Пра цябе, мой хлопча ўдалы.
Не пазнаў цябе я зразу.
Дзякуй, дружа, я - трывалы:
Сцюжу, непагадзь, абразу
Стойка я перажываю,
Ды ў цябе твой дар сардэчны
Я прыняць не адракуся,
Ароч хіба чаравік,
Бо табе я прызнаюся,
Што да іх я не прывык.
Шчыры дзякуй, Амяльяне!"
"А цяпер, як трэба, ўбранне
Памагу табе надзець, -
Кажа Страху Амельян".
"Добра, брат, бо як мядзведзь,
Стаў з гадамі я. Дальпан.
Ды хачу я запытацца, -
Прадаўжаў гародні Страх, -
Ці ўжо маеш ты свой дах,
Ці намерыўся вяртацца
Да Сцяпана і Параскі?
Не, не знойдзеш ты павек
Ні спагады ў іх, ні ласкі,
Бо ты іншы чалавек,
З іншай вылеплены гліны..."

"Ну, яны ж мне нешта вінны,
Гнаць мяне няма ў іх права..."
"Гэта, брат, другая справа,
Толькі сам ты не захочаш
З імі разам заставацца -
Сталі прагнымі іх вочы.
Тутка я, табе прызнацца,
Не зусім і адзінокі,
Знаю ўсе навокал справы -
Звесткі носяць мне сарокі.
Лепш каптан насіць дзюравы,
Чым апраненым быць, сытым,
Але злым і прагавітым, -
Вось што я скажу, юнача.
Ты павінен жыць іначай."
"Жыць, ды дзе? За што ўчапіцца?
Пачынаць з чагосьці трэба".
"Не бядуй, ты не тупіца,
Хлеб дабудзеш і да хлеба...
Дзе стаю я, пада мною
Скарб ляжыць даўно зарыты,
Вось цяпер яго бяры ты,
Толькі ім, нібы сцяною,
Ад людзей, карыснай працы
Нельга, братка, засланяцца.
Скарб вазьмі сабе, як ссуду,
А калісьці, я прадбачу,
Ты здасі (чакаць я буду)
Мне з выдаткаў справаздачу".

Потым селі там на ўзмежку,
Падкрапіліся, чым мелі,
І прыйшлося зноў Ямелі
Адмяраць у людзі сцежку.

Праз час нейкі позна-рана
Ў дом Параскі і Сцяпана
Чутка ўбегла з нейкай хаты,
Што Ямеля стаў багаты,
І што, быццам, на прадмесці
Ля дарогі самай дзесьці
Ён задумаў будавацца.
І пайшлі пра гэта ўсюды
Абгаворы, перасуды.
Хоць Параска адбрахацца
Прабавала так і гэтак,
Ды што зробіш супраць сведак?
Не завяжаш языка ім.
Вось гандляр-анучнік Хаім
(Чалавек ён быў праўдзівы),
Расказаў усім на дзіва,
Што купіў зямлі Ямеля,
Што жыве і не бядуе,

Хоча справіць наваселле,
Бо дом з кузняю будуе.

"А ці вельмі ён багаты?" -
Запыталася Параска.
"Скуль мне ведаць? Два дукаты,
Як была ў мяне няўвязка,
Ён мне даў сплаціць падаткі.
Знаю, што дапамагае
Тым, суседка дарагая,
Чый жыццёвы шлях нягладкі".

Тут Параска без аглядкі
Паімчалася дадому.
Там, адсопшы трохі стому,
Так Сцяпану сакатала:
"Ты вазьмі брусочак сала
І ідзі да Амяльяна.
Вельмі выйшла ў нас пагана,
Што яго мы гналі з хаты.
Кажуць, дужа ён багаты,
Дык глядзі, не будзь дурніцай,
Пастарайся з ім змірыцца
І даведайся, скуль грошы

Ён дастаў на дом харошы
Ды галоце на падаркі.
Хай дасць сотні дзве дукатаў
На падтрымку гаспадаркі
(Не адмовіць жа ён брату),
І пранюхай, толькі ўмела,
Як узяцца нам за дзела,
Каб і ўсё яго багацце
Села тутка ў нашай хаце."

Сцяпан дамоў вярнуўся хутка.
Параска стрэла на дарозе:
"Ну, што прынёс ты?" "Нічагуткі, -
Адказ пачула сіпаваты, -
З чым выйшаў, з тым прыйшоў дахаты."
"Што, мо аграбілі ў дарозе? -
Яна са сполахам спытала. -
Ці даў табе ён гэтак мала?"
"Што ён мне дасць? Не даў нічога".
"Чаму не даў? - спытала строга, -
А ты сказаў хоць, што выдаткі
То на рамонт, то на падаткі
Ушчэнт ужо нас зруйнавалі?"
"Расказваў." "Ну што ён на гэта?"
"Пакінь, - сказаў мне, - тралі-валі,
Твая іх здумала кабета.
Дурніць мяне, браток, не трэба.
У вас хапае грошай, хлеба,
А як не будзе, не дай Божа,
Тады Ямеля дапаможа."

“Вось дзе бадзяга, вось скупеча!” -
Параска лаялася злосна,
Гаршкі варочаючы ў печы. -
А ці сказаў ён, як разжыўся?
Адкуль набраўся тых дукатаў?
Мо дзе з бандытамі здружыўся
Ды прыйдзе дом аграбіць братаў?"
"Ну вось прыдумала йшчэ казку!" -
Сцяпан прыкрыкнуў на Параску. -
Што ты вярзеш? Пабойся Бога!
Не браў ніколі ён чужога,
Заўжды жыў чэсна і праўдзіва,
Зрабіць людзям дабро ахвочы...
А вось расказваў мне ён дзіва:
За ім хадзіла ўдзень і ўночы
І крок у крок бяда-Нястача,
І ён не мог яе пазбыцца,
Згалеў і блізкі быў да смерці,
Хоць працаваў і не лайдачыў.
І вось яе аднойчы, быццам,
Яму ўдалося ў косць заперці,
І стуль усё пайшло іначай,
Цяпер жыве і не гаруе..."

"Табе заўсёды гавару я, -
Параска мужа пербіла, -
Без чараў тут не абыйшлося.
Звязаўся ён з нячыстай сілай,
Вось тут і ўсё. Яшчэ ж пад восень
Ён быў у нас, як воўк, галодны...
Чакайце... Косць! Вось ён нягодны!
Каб косць знайсці?! Не знойдзем самі...
Мо ён казаў табе часамі,
Дзе тую костку ён пакінуў?!"
"Казаў, што недзе ў нас пад плотам".
"У нас? Пад плотам? Быць не можа!
Няйнакш з цябе ён строіў кпіны".
"Казаў, прыкрыў яе балотам".
"А мо і праўда? Бог паможа,
І я знайду яго Нястачу!
Чакай, нягоднік! Зноў я ўбачу
Цябе ля нашага парога
Галодным, брудным басяком!"

І загадала мужу строга
Маўчаць - нікому анічога,
Сама ж уздоўж платоў тайком
Пайшла, ўтыкаючы лапату.
І косць знайшла, і ўраз пазнала.
Пад фартухом прынесла ў хату,
Нажом гарэх раскалупала...

І з дзіркі, быццам цень, худая
Памалу выпаўзла Нястача.
"Скажы, кабетка маладая, -
Яна зяхаючы спытала. -
Чый гэта дом ці, можа, дача?
Бо мне тут вельмі да спадобы.
О вельмі мне пашанцавала,
Бо й печ тут ёсць пагрэць вантробы.
Вось тут і трэба мне прыжыцца.
Ўссадзі на печку, маладзіца,
Бо я намерзлася ў той косці,
Дык нездаровіцца мне штосьці".

"Ідзі, - сказала ёй Параска, -

Да тога самага Ямелі,
З якім апошні час жыла ты."
"Чаго ж ісці мне з гэткай хаты?
І так мне костачкі памлелі,
Пакуль сядзела я ў дзіры той.
Вяртацца, кажаш, да Ямелі?
О не, кабетка, не, ніколі.
Табе прызнаюся адкрыта,
Што да яго я не вярнуся,
Зусім зачахла я ў няволі
І зноў папасціся баюся."

"Ідзі, пакуль я качаргою
Табе хрыбта не перабіла!"
"А ты не будзь такою строгай.
У вас тут месца неблагое,
І я цябе, мая нябога,
Адразу шчыра палюбіла
За твой учынак чалавечы,
За вызваленне з той цямніцы".
Ўзяла сыр сушаны з паліцы
І развалілася на печы.

Як ні старалася Параска
Яе прагнаць пагрозай, ласкай,
Нястача ў хаце засталася.
І вось у гэтым самым часе
Сцяпан з карчмы вярнуўся п'яны
І, зрок чужы сустрэўшы нечы,
Пачаў зганяць Нястачу з печы,
Ды гэткі быў усхваляваны,
Што перабіў збаны і місы,
Разбіў аб печ свой чэрап лысы
І неяк, пэўне ненарокам,
Падбіў Парасцы гуз пад вокам.
Так адбылося й на другі дзень,
І так пайшло праз цэлы тыдзень,
І стала справай пастаяннай...

Цяпер пад молатам Сцяпана
Кавадла рэдка ўжо званіла
Жыццё пайшло зусім іначай -
На ім лягла пячаць Нястачы.
У хаце сумнай і панылай
Сцяпан спыняўся рэдкі дзень,
Параска чахла і марнела.
І з гаспадыні бойкай, смелай
Застаўся хутка толькі цень
Худы, прыгорблены, калматы.
Бывала, ўсім і абы дзе
Ці гэта будні дзень, ці ў святы,
Яна гаворку завядзе.
Што ў іх нядолі і бядзе
Ямеля-нелюдзь вінаваты.
І кожны час, хвілінай кожнай
Яна кляла яго бязбожна:
"Каб ён прапаў, каб ён загінуў,
Як ён Нястачу нам падкінуў.
І за якія нашы віны
Мы так пакутаваць павінны?

Ды гэткіх вельмі было мала,
Якіх яна пераканала,
Што ў іх бядзе віна Ямелі.
Убачыць праўду людзі ўмелі
І зналі добра без падказкі,
Што варт быў гоман злой Параскі,
Дык ёй амаль не спачувалі.

Вось так дні, месяцы міналі,
А ў іх - Параскі і Сцяпана,
Відаць, ужо на пастаянна
Распалажылася Нястача,
Якой ні лаянкай, ні плачам
І аніякім іншым чынам
Пазбыцца стала немагчыма.

Памалу хата, плот счарнелі,
Гарод пакрылі пустазеллі,
І апуцела ў клеці й скрыні.
Сцяпан апошніх ботаў пару
І на'т сукенкі гаспадыні
Прапіў, аддаў цішком за гару.

Параска, нібы ў сетцы рыба,
Памітусілася, ды хіба
Магла цяпер бяду адвесці?
Зусім знямогшыся, нарэшце,
Хоць сорам грыз, аж ногі млелі,
Пайшла з паклонам да Ямелі
Прасіць ягонай дапамогі.

Яго сустрэла ў паўдарогі -
Да іх ён ехаў сваёй воляй.
Бо ўжо не мог змірыцца болей
З бядой Сцяпана і Параскі.
Быў слотны дзень, гасцінец гразкі,
І конь памалу воз валок.
Параску ўгледзеўшы здалёк,
Спыніў каня свайго Ямеля
І запытаўся: "Чаго дзеля,
Куды брыдзеш ты ў непагоду?"
Пайшла насустрач, ды ўміг стала -
Ямелі ж зразу не пазнала, -
Пазнаўшы, слёзна застагнала...

"Сядай, сказаў ён, на павозку,
Бо еду я да вас у вёску.
Ну кінь ужо, даволі плачу,
Прагонім мы тваю Нястачу,
Ды толькі ты змяні свой нораў.
Даволі лаянкай займацца,
Кінь перасуды, абгаворы.
Бо ўжо пара за працу ўзяцца.

Ка мне прыйшла Нястача ў горы,
А вас спасцігла за бяздзелле.
Твой вораг - хітрасць і лянота,
Да гуляў, выпіўкі ахвота,
І ні пры чым тут я, Ямеля.
Хто яму рые для другога,
Ў яе сам зваліцца. Яй Богу!".

*1972 г.*

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

## *(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)*

### Белагрудская парафія

1

**Касцёл парафіяльны** над ракой Дзітва, які стаіць паміж хвоямі ў Лідскім павеце і дэканаце, каля яго толькі за сто крокаў карчма Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ і на такой жа адлегласці шпіталь, касцёл стаіць левым бокам на поўдзень, правым на поўнач. Вёскі і мястэчкі прыналежныя да парафіі выкладзены ніжэй па-алфавіту.

**Арлянка** (Orlanka), карчма і вапельня (печы для абпальвання вапны) Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, паміж зімовым поўднем і захадам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага чвэрць мілі.

**Аўгустоўка** (Augustowka) ці **Старая Дзітва**, двор і карчма яснавяльможнага пана Шамёта, чашніка Лідскага павету, паміж летнім захадам і зімовай поўначчу ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна вялікая міля.

**Бабоўцы** (Bobowce), на летні захад, яснавяльможнага васпанства Пацаў, старасты Вілейскага і Шамёта, чашніка Лідскага павету, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна вялікая міля.

**Банцавічы** (Bancewicze) Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, паміж летнім захадам і зімовай поўначчу ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна вялікая міля.

**Банцавічы** (Bancewicze) **другія**, таго жа князя ягомасці Радзівіла, у тым жа кірунку ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна міля і пяцьдзесят стай.

**Банцавічы** (Bancewicze) **трэція**, таго жа Князя ягомасці Радзівіла, на поўнач, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага пяць чацвёртых мілі.

**Белагруда** (Bialohrud), фальварак таго ж Князя ягомасці Радзівіла, паміж усходам і поўднем на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага чвэрць мілі.

**Гарняты** (Horny), таго ж Князя ягомасці, паміж летнімі усходам і поўднем, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна вялікая міля.

**Данеўшчына** (Daniewszczyzna), фальварак яснавяльможнага пана Свідэрскага, рэгента земскага Лідскага павету, на поўдзень, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна міля.

**Дубчаны** (Dubczany), Найяснейшага князя ягомасці Масальскага, біскупа Віленскага, паміж зімовымі ўсходам і поўднем, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага чвэрць мілі.

**Зайкі** (Zajki), двор яснавяльможнага пана Альшэўскага, Лідскага войскага, на поўнач, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага пяць чацвёртых вялікай мілі.

**Кузьмічы** (Kuzmicze), яснавяльможнага пана Альшэўскага, войскага Лідскага, на поўнач, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага пяць чацвёртых мілі.

**Кульбакі** (Kulbaki), яснавяльможнага пана Сцыпіёна падстолія Літоўскага, старасты Лідскага, на поўнач, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна вялікая міля.

**Мазураўшчына** (Mazurowszczyzna), фальварак у пацэсіі васпана Стацевіча, на поўнач, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага пяць чацвёртых вялікай мілі.

**Медзеўшчына** (Miedziowszczyzna), Белагрудская плябанія паміж поўднем і поўначчу (рэальна, на поўнач -*Л.Л.*), на адлегласці ад касцёла парафіяльнага летам палова вялікай мілі, узімку праз балота чвэрць мілі.

**Мохавічы** (Mochowicze), Найяснейшага князя ягомасці Масальскага, біскупа Віленскага, паміж поўднем і поўначчу (рэальна, на поўнач -*Л.Л.*), на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага летам палова вялікай мілі, узімку праз балота чвэрць мілі.

**Масявічы** (Mosiewicze), Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, паміж летнім поўднем і захадам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага пяць чацвёртых вялікай мілі.

**Парачаны** (Porzeczany), таго ж таго ж Князя ягомасці, на поўдзень, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага палова вялікай мілі.

**Рэпнікі** (Rzepniki), яснавяльможнага пана Шамёта, чашніка Лідскага павету, паміўж поўднем і ўсходам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага адна вялікая міля.

**Рубікі** (Rubiki), фальварак і вёска ў пацэсіі васпана Сідаровіча і васпанства Ёчаў, паміж поўднем і ўсходам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага чвэрць мілі.

**Сеўрукоўшчына** (Siewrukoszczyzna), яснавяльможнага пана Свідэрскага, ротмістра Лідскага павету, фальварак на поўдзень, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага адна міля.

**Шчытнікі** (Szczytniki), ксяндзоў аўгустынаў, на летні усход, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага палова вялікай мілі.

**Тарноўшчына** (Tarnowszczyzna), фальварак Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, паміж поўднем і захадам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага летам палова вялікай мілі, узімку праз раку Дзітву і сенажаці трыццаць стай.

**Хадзюкі** (Hadziuki), Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал-лейтэнанта войск ВКЛ, паміж зімовымі ўсходам і поўднем, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага адна вялікая міля.

**Цюкалаўшчына** (Tuklowszczyzna), фальварак яснавяльможнага пана Гінета, на поўдзень, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага палова вялікай мілі.



**Янаўляны** (Janowlany), вёска прыналежная да Белагрудскай плябаніі, паміж летнімі захадам і ўсходам (рэальна, на летні захад - *Л.Л.*), на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага пяць чацвёртых вялікай мілі.

**2**

Ад гэтага парафіяльнага касцёла, наступныя суседскія касцёлы:

**Дайнава** (Dejnowa), касцёл у вёсцы Дайнава, ксяндзоў аўгустынаў віленскіх, філія Лідскага касцёла, на летняю поўнач у там жа павеце і дэканаце, на адлегласці ад Белагрудскага касцёла пяць чацвёртых вялікай мілі.

**Дылева** (Dylew), філія ваверскага касцёла, паміж поўднем і захадам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага дзве вялікія мілі.

**Лідскі парафіяльны касцёл**, там жа касцёл ксяндзоў кармелітаў і піяраў ў горадзе судовым Лідзе, у старостве яснавяльможнага пана Сцыпіёна падстолія Літоўскага, старасты Лідскага, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага дзве вялікія мілі, у кірунку паміж усходам і поўднем.

**Няцеча** (Nieciecz), касцёл парафіяльны ў вёсцы Няцечы яснавяльможнай пані Бурымоўскай, ротмістравай Лідскага павету, паміж поўднем і захадам, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага летам дзве мілі, узімку адна міля на Ваверскае балота.

**Ваверка** (Wawerka), касцёл на землях яснавяльможнага пана Валя, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага дзве мерныя мілі ў кірунку поўначы.

**Забалаць** (Zabloc), касцёл парафіяльны на землях яснавяльможнага пана Тышкевіча, гетмана Літоўскага, на адлегласці ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага тры мілі ў кірунку летняй поўначы.

**3**

Найвялікшы судовы горад **Ліда** паміж усходам і поўднем на адлегласці дзве вялікія мілі ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага.

**4**

Дарога ад касцёла парафіяльнага Белагрудскага да Вільні і Ліды, судовых гарадоў, дрэнная і пясчаная, на дарозе вялікі брод, яна праз палову мілі на мяжы з Лідскай парафіяй раздзяляецца, направа да Ліды, крута налева да Вільні і Дайнавы, за Дайнавой дарога злучаецца з віленскім гасцінцам, які ідзе з Мыто праз Белагрудскую парафію, тыя дарогі пясчаныя і няроўная, у кірунку на ўсход.

Дарога да касцёла Белагрудскага на поўдні ідзе пад гару з вапнай і па сенажаці над ракой Дзітвой, якая належыць да Арлянкі, дзе грэбля ў дзесяць стай, на якой два масты, адзін на Капальні, другі на рацэ Дзітве, з парэнчамі, адкуль дарогі разыходзяцца да Няцечы, Орлі, Масявічаў, Лебяды, да розных вёсак і да Тарноўшчыны, двара Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, дарогі і дарожкі да вёсак крывыя, пясчаныя, месцамі камяністыя і балоцістыя, дзікамі парытыя.

Гасцінец Віленскі ідзе з Ваверскай і з Забалацкай парафій і з Лебяды Трызнаў праз Мыто васпана Паца, старасты Вілейскага, да вёскі, якая знаходзіцца

на мяжы парафіі, дзе перавоз і млын у парафіі Ваверскай, а грэбля ад перавозу ў парафіі Белагрудскай сыпана ад перавозу Дзітвы, дзе мост з парэнчамі, за якім грэбля ідзе налева да розных вёсак парафіяльных касцёла Белагрудскага, дарога гарыстая, камяністая і ёсць адзін брод недалёка ад грэблі, за дзесяць стаяў, з таго моста прама ідзе гасцінец Віленскі, падчас дажджоў мокры, і брод адзін няроўны і камяністы, ідзе лясамі.

Дарожка крута ідзе з грэблі да касцёла Белагрудскага, амаль крыжовая, проста першая трапіўшаяся, камяністая, пясчаная, няроўная, ідзе борам.

Рака Дзітва балоцістая, па абодвух баках балоцістыя сенажаці, месцамі мурожныя паміж усходам і захадам, цягнецца рака Дзітва да парафіі Няцецкай на поўдні, на рацэ Дзітва з абодвух бакоў сенажаці розных паноў.

Багнаў і балот недаступных няма, толькі сенажатнае балота, якое цягнецца ад поўдня на захад і каля Дзітвы.

Стаў малы, на вышэй апісаным балоце сенажатным Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, на якім малы млын, які меле толькі увесну і калі дажджы, на грэблі дзе праезд з плябаніі да касцёла, вельмі нікчэмны мост, які ледзь можна пешшу прайсці, з-за гэтага мосту плябан мусіць ехаць да касцёла палову мілі па дрэннай дарозе балоцістай і няроўнай, нізам ідучай, якая узімку добрая.

Лесу, баровага, асіны, бярозы, годнага для будаўніцтва і на розныя патрэбы гаспадарскія на шаснаццаці валоках Альшэўскага, падстолія лідскага.

Лесу, баровага і featured рознага дрэва, спустошаныя дзве валокі ксяндзоў віленскіх аўгустынаў у Шчытніках.

Лесу, баровага і да будоўлі годнага ў яснавяльможнага пана Свідэрскага тры маргі.

Лесу Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта featured рознага, кустамі парослага, як да будоўлі так і да печаў добрага, у воласці таго ж князя, дванаццаць валок з зараслямі і лозамі.

Лясы яснавяльможнага пана Шамёта, чашніка Лідскага павету, бярозавыя, альховыя, асінавыя, дубовыя, на дзвюх валоках.

Зараслей featured рознага дрэва ў парафіі Белагрудскай восьмая частка, дзе болей знаходзіцца добрых палёў, як таксама і пясчаных.

Горы з вапнай на землях Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, г.зн. у Белагрудзе і Тарноўшчыне, з якіх каменныя выкапні на вапельню ў Арлянку возяць для палення.

**7**

Адлегласці па партыкулярных дарогах і публічных трактах у парафіі:

1. Дарога да Ліды, судовага горада і тракт Віленскі ад касцёла Белагрудскага ў кірунку на летні усход сонца, ідзе па правай руцэ, даехаўшы да броду, будзе вёска Гарняты за тры стаі да карчмы Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, за імі Дубчаны Найяснейшага князя ягомасці Масальскага, біскупа Віленскага за шасцідзесят стаяў, далей фальварак Белагруда Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ за трыццаць стаяў, потым Цюкалаўшчына, фальварак яснавяльможнага пана Гінета за чвэрць мілі, далей мінуўшы брод, па правай руцэ Рубікі у пацэсіі васпана Сідаровіча і васпанства Ёчаў, з гасцінца, з якога ідуць дарогі да фальварка Цюкалаўшчына і вёскі Дубчаны, праз дзевяць стай, па леваму боку ідзе дарога да Мохавіч і да Медзеўшчыны, плябаніі Белагрудскай, адкуль на усход сонца ідзе дарога на гасцінец Лідскі і Віленскі, да карчмы якая мае назву "Пад крыжамі" яснавяльможнага пана Альшэўскага, на мяжы Лідскай парафіі, тут гасцінец налева ідзе да Вільні на Дайнаву ксяндзоў аўгустынаў да гасцінца Віленскага, які ідзе з Мыто і сходзіцца з Мытлянскім гасцінцам. Сярэдні гасцінец ідзе на Ліду, і крута направа да Шчытнікаў, ад гэтага гасцінца за дзесяць стаяў, ідуць дарожкі, адна да далёкай Лідскай парафіі, а другая, направа на поўдзень, да Рубікаў, Шчытнікі дзеляць парафіі Белагрудскую з Лідскай.

2. Гасцінец да Арлянкі, якая знаходзіцца на адлегласці ад касцёла чвэрць мілі на поўдзень, далей карчма, адкуль дарога налева ідзе да Парачанаў, да якіх чвэрць мілі, адтуль да фальваркаў Данеўшчына і Сеўрукоўшчына, яснавяльможных паноў Свідэрскіх, да якіх палова мілі, і дзе заканчваецца парафія Белагрудскаі і пачынаецца парафія Няцецкая. Не даязджаючы да Парачанаў, ад крыжа направа ідзе дарога да Хадзюкоў даўжынёй у чвэрць мілі праз вялікія зараслі, ад Хадзюкоў ідзе дарога з выбоінамі праз зараслі і сенажаці, праз два брады да Масявічаў. Ад Арлянскай карчмы ідзе другая дарога паплавамі, зараслямі, лесам Найяснейшага князя Радзівіла, увесну з выбоінамі, увосень і пад час дажджоў вільготная, да Масявічаў, паміж імі і Радзівонішкамі мяжа парафіі. Так сама направа ад Арлянкі праз брод адходзіць трэцяя дарога да двара Тарноўшчына, ад гэтага брода па левым баку ракі ўгору ідзе дарога да Масявічаў, яна абыходзіць першую вільготную дарогу, якая ідзе ад дарогі з двара Тарноўшчына да Масявічаў, і ад якой адыходзяць дарожкі партыкулярныя да Бабоўцаў і Рэпнікаў.

3. Гасцінец які ідзе з Мыто на поўдзень да Аўгустоўкі (Старой Дзітвы), праз дзесяць стай раздзяляецца: налева на поўдзень да тых жа Масявічаў, направа - да Бабоўцаў і Рэпнікаў, ... з Бабоўцаў і Рэпнікаў ідуць дарожкі на захад да вёскі Касілаўцы Ваверскай парафіі, далей дарожка ідзе да Янаўлян, парафіі Белагрудскай, а потым дарожка паварочвае направа і паплавамі, праз чвэрць мілі прыходзіць да Аўгустоўкі.

4. Дарога з Мыто, парафіі Ваверскай, пераправіўшыся цераз перавоз і мінуўшы млын на рацэ Дзітва, якая падзяляе парафіі Ваверскую і Белагрудскую, потым мінуўшы грэблю, гасцінец Віленскі проста з грэблі ідзе да Кульбак, потым на Дайнаву, дзе прахо-

дзіць мяжа паміж парафіямі Ваверскай і Белагрудскай, з той жа грэблі налева на поўнач ідзе дарожка да Банцавічаў (палова чвэрці мілі), з першых Банцавічаў дарожка чвэрць мілі ідзе да другіх Банцавічаў, вёсак Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, далей праз чвэрць мілі Кузьмічы яснавяльможнага пана Альшэўскага, пасля Кузьмічоў праз дзесць стай фальварак Мазураўшчына ў пажыццёвай пацэсіі яснавяльможнага пана Стацевіча, за ручаём мяжа з Лідскай парафіяй, ад Заяк да трэціх Банцавічаў дарожка ў дваццаць стай. З гэтых вёсак дарожка ідзе на Кульбакі да Віленскага гасцінца ... з якім перакрыжоўваецца каля карчмы ў Кульбаках (вёска Лідскага староства) і далей вядзе да карчмы "Пад крыжамі" яснавяльможнага пана Альшэўскага, да карчмы малая міля. Трэцяя дарога з грэблі направа на ўсход ідзе на Цыбары, дзе праходзіць мяжа паміж парафіямі Ваверскай і Белагрудскай. Чацвёртая дарожка, адразу ад Мытлянскай грэблі бярэ крута направа, на поўдзень, і гарыста, пясчана, няроўная мала полем, але часцей лесам каля сенажацей дзітвянскіх, якія належаць плябаніі, званыя Медзеўшчына, адкуль да касцёла Белагрудскага адна вялікая міля ўлетку, а ўзімку палова вялікай мілі.

Белагрудская парафія не мае межаў ваяводскіх і павятовых, але цалкам з усімі дварамі, вёскамі і месцамі знаходзіцца ў павеце Лідскім.

Гэтае апісанне маёй парафіі подпісам уласнай рукі пацвярджаю, ксёндз Красценты Раман Сумарок, плябан Белагрудскі.

## Беліцкая парафія

**1**

Касцёл парафіяльны знаходзіцца ў мястэчку Беліца, у Лідскім павеце і дэканаце. Вёскі і мястэчкі прыналежныя да парафіі выкладзены ніжэй па алфавіту.

**Абрамаўшчына** (Abramowszczyna) , фальварак яснавяльможнага пана Тамашэўскага, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Агароднікі** (Ogrodniki), вёска васпана Пузыны, у кірунку на летні ўсход, паўтары мерныя мілі.

**Альшэўцы** (Olszewcy), вёска, карчма і млын ксяндзоў дамініканаў, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Астравухі** (Ojhowy), шляхецкая ваколіца, у кірунку на поўнач адна мерная міля.

**Баравічы** (Barwicze), вёска Найяснейшага князя ваяводы Віленскага ў дзяржанні Найяснейшай княжны экс-падкаморавай, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, адна мерная міля.

**Беліца** (Bielica), двор тых жа, над ракой Нёманам, у кірунку на поўдзень, 600 альбо больш крокаў ад касцёла парафіяльнага.

**Бандары** (Bondnarze), вёска за Нёманам, таго ж князя, у дзяржанні ў васпана Статкевіча, генерал - маёра войск ВКЛ, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, палова вялікай мілі.

**Вашкевічы** (Waszkiewicze), двор, касцёл філіяльны і карчма над Нёманам васпана Пузыны, у кірунку на летні ўсход паўтары мерныя мілі.

**Ганцавічы** (Hancewicze), фальварак і вёска над Нёманам васпана Пузыны, у кірунку на летні осход, адна вялікая міля.

**Ганчары** (Hanczary), вёска і карчма васпана Пузыны, у кірунку на летні усход, паўтары вялікія мілі.

**Гезгалы** (Giezgaly), вёска за Нёманам, таго ж Князя, у дзяржанні ў васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, адна мерная міля.

**Дзітрыкі** (Dzitryki), вёска Найяснейшага князя ваяводы Віленскага, у дзяржанні ў васпана Статкевіча, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, адна мерная міля.

**Дзякавічы** (Dziakowicze), засценак Найяснейшага князя ваяводы Віленскага, у дзяржанні ў васпана Статкевіча, у кірунку на поўнач, паўтары малыя мілі.

**Дроздава** (Drozdowo), вёска васпана Пузыны, старасты Дзевянішскага, у кірунку на поўнач, адна вялікая міля.

**Ельня** (Jelna), кляштар, касцёл і фальварак ксяндзоў дамініканаў, у кірунку на летні ўсход, чвэрць вялікай мілі.

**Ельня** (Jelna), двор васпана Бароўскага, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Жомайдзі** (Zomojdz), вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Статкевіча, у кірунку на летні ўсход, адна вялікая міля.

**Жучкі** (Zuczki), засценак Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшай княжны экс-падкаморавай, у кірунку на поўнач адна малая міля.

**Зарачаны** (Zarzeczany), вёска васпана Статкевіча, васпана Бароўскага і васпана Тамашэўскага, там жа, недалёка дзве карчмы, у кірунку на летні ўсход палова мернай мілі.

**Зачэпічы** (Zaczepicze), за Нёманам, вёска і карчма Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовымі поўднем і захадам, адна вялікая міля.

**Збляны** (Zblany), двор Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшага князя Радзівіла, палкоўніка, у кірунку на зімовы захад, адна вялікая міля.

**Збляны** (Zblany), вёска і царква Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовым поўднем і захадам, адна мерная міля.

**Істакі** (Istoki), двор васпана Статкевіча, у кірунку на летні ўсход, палова вялікай мілі.

**Канюшаны Малыя** (Koniuszany Maly), фальварак і вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу, паўтары мерныя мілі.

**Канюшаны Вялікія** (Koniuszany Wielkie), вёска васпана Статкевіча, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, паўтары малыя мілі.

**Каршакі** (Korszaki), засценак за Нёманам Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараў-



скага, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам, палова вялікай мілі.

**Крывічы** (Krzywicze), двор, царква і вёска, за некалькі крокаў ад двара васпана Будкевіча, у кірунку паміж зімовым і летнім захадам, чвэрць мернай мілі.

**Красная** (Krasna), вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку на зімовы захад, палова малой мілі.

**Лазяны** (Loziany), фальварак і вёска за некалькі крокаў ад двара таго ж Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, частка вёскі Лазяны належыць да беліцкіх кальвіністаў, у кірунку на зімовы захад, адна малая міля.

**Лайкоўшчына** (Lojkowszczyna), засценак Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку на зімовы захад, адна вялікая міля.

**Масявічы** (Mosiewicze), вёска васпана Пузыны, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, палова мернай мілі.

**Нясілаўцы** (Niesilowce), вёска за Нёманам, вёска, карчма і млын таго ж маёнтка Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, чвэрць мернай мілі.

**Парэчча** (Porzecze), вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшага князя Радзівіла, палкоўніка, у кірунку на зімовы захад, адна мерная міля.

**Руда** (Ruda), вёска, карчма і млын за Нёманам Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Статкевіча, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, адна вялікая міля.

**Саламянк**а (Slominka), карчма і засценак васпана Статкевіча, у кірунку на поўнач, адна мерная міля.

**Сіманы** (Szymany), вёска, частка - ксяндзоў дамініканаў, частка - васпана Статкевіча і васпана Бароўскага, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Стокі** (Stoki), двор, каля яго карчма Найяснейшага князя ваяводы, ў дзяржанні Найяснейшай княжны экс-падкаморавай, у кірунку на поўнач, чвэрць малой мілі.

**Сялец** (Sielec), фальварак на Нёманам Найяснейшага Князя ваяводы ў дзяржанні васпана Статкевіча, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, адна малая міля.

**Сялец** (Sielec), вёска і карчма каля фальварка, таго ж ягамосці, там жа.

**Чаплеўшчына** (Czaplowszczyzna), фальварак васпана Соўкі, ротмістра Лідскага і вёска таго ж ягамосці, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу, палова мернай мілі.

2

Ад гэтага парафіяльнага касцёла, наступныя суседскія касцёлы:

**Няцеча** (Niecіecza), парафіяльны касцёл у тым жа павеце і дэканаце на землях васпані Барымоўскай, Лідскай стольнікавай, у кірунку на летні захад, адна мерная міля.

**Дзятлава** (Zdzieciel), парафіяльны касцёл за Нёманам, у павеце і дэканаце Слонімскім, на зямлі васпана Солтана, у кірунку на поўдзень, тры вялікія мілі ад касцёла парафіяльнага Беліцкага.

**Жалудок** (Zoludek), парафіяльны касцёл у павеце і дэканаце Лідскім, на землях васпана Тызенгаўза, у кірунку на зімовы захад, тры вялікія мілі.

3

Значнейшыя гарады каля касцёла:

**Ліда**, судовы горад, ляжыць на поўнач, чатыры мерныя мілі.

**Наваградак**, судовы горад, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, пяць вялікіх міль.

4

Дарога з Беліцы да Ліды, спачатку ідзе пясчанымі палямі да ракі Дзітва, на рацэ мост і грэбля да карчмы якая называецца Пескі, потым пясчаная і няроўная дарога ідзе пушчай і зараслямі.

З Беліцы да Навагрдака перавоз Шоўкавы

(Szolkowy) на рацэ Нёман за палову мілі ад Беліцы, пясчаная і няроўная дарога ідзе пушчай аж пад Наваградак.

З Беліцы да Ліды, летняя дарога пяць гадзін язды, узімку тры гадзіны.

З Беліцы да Наваградка летняя дарога сем гадзін язды, узімку пяць гадзіны.

**5**

Азёр вялікіх і малых, як і багнаў, і балот няма.

Стаў Найяснейшага князя ваяводы Віленскага пры двары Стокі, з крыніц, якія там выцякаюць, малы і неглыбокі, у кірунку на поўнач, чвэрць малой мілі.

Стаў ксяндзоў дамініканаў, недалёка вышэй ад згаданага кляштара, малы зарослы і неглыбокі, з мясцовых крыніц.

Стаў і канал васпана Статкевіча пры двары Істакі, малы, з крыніц, якія там выцякаюць, у кірунку на летні ўсход, палова вялікай мілі.

Стаў Найяснейшага князя ваяводы, недалёка ад мястэчка Беліца, малы зарослы і неглыбокі, на рацэ, якая мае назву Нёманак, дзе грэбля ідзе да перавозу, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем.

Каналаў два, пры двары Збляны Найяснейшага князя ваяводы Віленскага, выцякаюць з мясцовых крыніц, у кірунку на зімовы захад адна вялікая міля.

Стаў Найяснейшага князя ваяводы, каля вёскі Руда, за Нёманам, з рэчкі, названай Ізва, не глыбокі і малы, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, адна вялікая міля.

Палёў у парафіі Беліцкай ёсць болей чым лясоў, аднак, пачаўшы ад вёскі Руда за Нёманам, паміж летнім і зімовым усходам, да вёскі Гезгалы, паміж зімовым усходам і поўднем за адну мілю ад парафіяльнага касцёла, у абсяг і ўглыб каля трох міль, знаходзіцца сасновае дрэва, здатнае для будоўлі. Потым уздоўж Нёмана, пачаўшы ад двара Вашкевічы васпана Пузыны, ад летняга ўсходу да зімовага захаду да вёскі Разводы Найяснейшага князя ваяводы, паміж невялікіх ляскоў цягнуцца на дзве мілі вялікія дубравы, сасновыя гушчары, але не здатныя да будоўлі а толькі на паліва. Каля двара Вашкевічы васпана Пузыны сасновы бор, шмат тавarнага дрэва здатнага для будоўлі, у абсяг і ўглыб на некалькі сотняў крокаў, ад касцёла парафіяльнага на летні ўсход паўтары мілі. Таксама пры двары Стокі Найяснейшага князя ваяводы, альховы гай на некалькі сотняў крокаў, калі ехаць ад Беліцы да Ельні, з левага боку, за чвэрць мілі на поўнач. Пры двары Крывічы васпана Будкевіча, паміж зімовым і летнім захадам за чвэрць мілі па правую руку дужы альховы гай і гушчар з асіны, бярозы і ясеню, гушчар займае дваццаць ці болей моргаў, пры тым жа двары на зімовы захад за чвэрць мілі па правую руку гай бярозавы і асінавы, часткова з алешынай, гай мае назву Сідараўшчына (Sidorowszczyna) Найяснейшага князя ваяводы, належыць да Беліцкага двара, трыццаць ці болей моргаў. Пры двары Збляны Найяснейшага князя ваяводы, на зімовы захад адна вялікая міля ад касцёла парафіяльнага, каля двара гай бярозавы і асінавы, называецца Кобраўшчына (Kobrowszczyzna). За адну мілю ў кірунку на поўнач трушчоба пад назвай Саламянка (Slomianka) плошчай болей за трыццаць моргаў, належаць Найяснейшаму князю ваяводзе. Так сама на летні ўсход па правую руку палова мілі лес пад назвай Ломышча (Lomyszcza) плошчай некалькі моргаў. Лес Грушэўнік (Hruszewnik), лес Кудравы (Kudrawy), там жа трэці лес Рой, плошчай (...) моргаў, належаць Найяснейшаму князю ваяводзе, на летні захад і поўнач чвэрць мілі ад касцёла, у шмат якіх месцах кусты і лес плошчай па некалькі моргаў, якія не маюць сваіх уласных назваў.

**7**

Млыноў восем, васпана Пузыны на Дзітве, Найяснейшага князя ваяводы на Ізве, Моўчадзі, Нёманку, ксяндзоў дамініканаў у Ельні, васпана Статкевіча два ў Істаках, Найяснейшага князя ваяводы ў Стоках, адзін на ставах, як апісана ў раздзеле 5 пра ставы.

Тартакі і валюшы два, у Рудзе на рацэ Ізва і ў Нясілаўцах на рацэ Моўчадзі Найяснейшага князя ваяводы Віленскага. Іншых машын як водных, так і ветраных, як і месцаў, адзначаных старажытнасцю ці якія маюць адносіны да натуральнай гісторыі, няма.

**8**

Адлегласці па партыкулярных дарогах і публічных трактах у парафіі:

1. Дарога да Ельні, адначасова публічны зімовы тракт і летні Віленскі, пачаўшы ад парафіяльнага Беліцкага касцёла, на летні ўсход полем цераз грэблю і масткі, у канцы вёскі Альшэўцы (Olszewcy) ксяндзоў дамініканаў налева тракт Віленскі да Ліды, за некалькіх крокаў (злева) знаходзіцца карчма Ельня ксяндзоў дамініканаў, а справа бачны іх жа касцёл і кляштар. Дарога сухая, але пясчаная і ідзе палову мілі да карчмы пад назвай Істакі (справа) і па правую руку бачны двор васпана Статкевіча які таксама называецца Істакі. Ад карчмы Істакі сухая і роўная дарога ідзе чвэрць мілі да карчмы Саламянка (Slominka) таго ж васпана Статкевіча, ад гэтай карчмы блізка карчма Жучкі (справа) Найяснейшага князя ваяводы Віленскага, каля засценка Жучкі, злева ж бачна ваколіца Астравухі. Далей, палову чвэрці мілі, дарога ідзе цераз грэблю і малы масток да вёскі і карчмы Дроздава васпана Пузыны. З Дроздава сухая і пясчаная дарога праз палову мілі прыводзіць да карчмы, якая называецца Дзітва, дзе па правую руку за чвэрць мілі бачна ўніяцкая царква ў вёсцы Ганчары васпана Пузыны, ад Ганчароў праз чвэрць мілі па правую руку бачны двор і бор таго ж васпана Вашкевічы, і там мяжа парафіі Беліцкай.

2. Дарога партыкулярная да Вашкевічаў васпана Пузыны ў кірунку на летні ўсход ідзе праз поле, цераз хмызняк, цераз грэблю і масткі і праз вёску Альшэўцы ксяндзоў дамініканаў, дарога месцамі сухая, пясчаная, камяністая паўтары мілі там мяжа парафіі Беліцкай.

3. Дарога да Сяльца і тракт да Сяльца ў кірунку

паміж летнім і зімовым усходам, ідзе полем, часткова праз зараслі, пясчаная, ідзе праз грэблю і масток праз вёску Альшэўцы ксяндзоў дамініканаў, чвэрць мернай мілі ад касцёла парафіяльнага, у Альшэўцах па левай руцэ бачны касцёл і кляштар тых жа ксяндзоў дамініканаў у Ельні. Далей цераз грэблю міма карчмы пана Статкевіча (справа) і вёскі Зарачаны (злева), праз некалькі крокаў па правую руку бачны фальварак васпані Тамашэўскай, тут сухі пясчаны гасцінец бярэ крута ўправа і праз вёску Сялец Найяснейшага князя ваяводы ідзе да перавозу цераз Нёман, дзе пераправіўшыся за Нёман, праз некалькі сотняў крокаў будзе карчма і вёска Руда таго ж Найяснейшага князя, адна вялікая міля ад касцёла парафіяльнага, тут заканчваецца Беліцкая парафія.

4. Дарога і вальны гасцінец да Наваградка пачынаецца ад касцёла парафіяльнага Беліцкага, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, ідзе да перавозу цераз Нёман да карчмы Шоўкаў палова мілі, далей пушча да трушчобы пад назвай Глушыца - міля, дзе ёсць малы не балоцісты брод і дрэнны масток, далей палова мілі пушча да ... мяжуючых у пушчы Беліцкай і Дзятлаўскай васпана Солтана, дарога пясчаная і няроўная, дзве мілі і тут мяжа парафіі Беліцкай.

5. Дарога да Дзятлава і тракт Слонімскі пачынаецца на поўдзень ад касцёла парафіяльнага, праз некалькі сотняў крокаў праходзіць праз Беліцкі двор і перавоз цераз Нёман, дзе паром на канаце перавозіць за Нёман, праз некалькі сотняў крокаў ідзе праз вёску Нясілавічы, праз некалькі дзесяткаў крокаў будзе карчма такой жа назвы, ад якой праз некалькі крокаў па левую руку бачны млын і тартак (лесапілка) на рацэ Моўчадзь Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, далей дарога ідзе цераз дрэнную грэблю, праз спачатку дубовы, а потым сасновы лес да вёскі Гезгалы Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, дарога пясчаная, няроўная, адна мерная міля, і тут мяжа парафіі Беліцкай.

6. Дарога да Жалудка, у кірунку на зімовы захад, адначасова летні тракт на Гародню, пачынаецца па правую руку ад парафіяльнага касцёла, праз некалькі сотняў крокаў будзе добры масток цераз ручай Сідараўшчына, які там жа з крыніц выцякае, па правую руку зарослы канал, па левай за некалькі дзесяткаў метраў Беліцкі двор Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, далей па правую руку адразу за мостам ідзе дарожка да вёскі Красная, вёска за чвэрць мілі і належыць да Беліцкага двара. Далей гасцінец ідзе прама да карчмы, якая называецца Збляны, якая да Зблянскага двара належыць, адтуль управа ідзе зімовы гарадзенскі гасцінец, па якім праз чвэрць мілі будзе брод Смолач, дзе па правым баку за некалькі сотнях крокаў бачны Зблянскі двор, а па левым бярозавы і асінавы гай, які завецца Кобраўшчына, і тут мяжа парафій Беліцкай і Няцецкай. Ад Зблянскай карчмы праз вёску Збляны, дзе ёсць уніяцкая царква за мерную мілю паміж поўднем і зімовым захадам ад касцёла парафіяльнага, гасцінец ідзе прама да вёскі Панямонцы праз масток каля млына, які завецца Смалокі і належыць Зблянскаму двару, але знаходзіцца ў Жалудоцкай парафіі, тут па левым баку праз некалькі сотняў крокаў будзе Нёман, а з правага боку поле, гасцінец сухі, пясчаны, паўтары мілі да вёскі Панямонцы, якая ляжыць пры самым Нёмане і належыць Зблянскаму двару але Жалудоцкай парафіі, і тут мяжа парафіі Беліцкай.

7. Дарога да вёскі Няцеч, дзе касцёл парафіяльны і двор той жа назвы,уласнасць васпані Баброўскай, стольнікавай Лідскай, пачынаецца ад касцёла парафільянага Беліцкага, у кірунку на летні захад, прахаўшы чвэрць мілі па левую руку, на зімовы захад праз зараслі ідзе дарожка да двара Крывічы, дзе ёсць уніяцкая царква (філіял Зблянскай царквы), недалёка і вёска з такой жа назвай васпана Будкевіча, якую бачна з гасцінца, праз некалькі сотняў крокаў ідзе дарога да вёскі Табала, якая належыць да Стоцкага двара і знаходзіцца ў парафіі Няцецкай, і тут мяжа парфіі Беліцкай і Няцецкай. Далей ідзе гасцінец, з правага боку якога - поле, а па левым боку зараслі і малы бярозава - асінавы, а часткова і сасновы гай. Гасцінец ідзе да самай вёскі Няцеча. Дарога ад пачатку пясчаная, часткова роўная, рэшта з выбоінамі і часам вільготная, адна вялікая міля.

8. Дарожка да Малых Канюшан і Чаплеўшчыны (фальваркаў і вёсак), у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу ад касцёла парафільянага, выехаўшы за мястэчка Беліца, за некалькі сотняў крокаў па левую руку полем ідзе дарожка да Чаплеўшчыны васпана Сарокі, палова мернай мілі, дарожка сухая, часткова пясчаная, часткова камяністая, па правую руку на летні захад бачна вёска Яманты, якая належыць да Стоцкага двара, а часткова да Малых Канюшан Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, палова вялікай мілі ад касцёла парафіяльнага. Вёска Яманты належыць да Няцецкай парафіі, і тут мяжа парафіі Беліцкай.

9. Тут жа выехаўшы з мястэчка Беліцы, за некалькі крокаў па правую руку цераз поле за чвэрць малой мілі цераз грэблю, каля двара Стокі і карчмы пад той жа назвай Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшай княжны экс-падкаморавай, узяўшы ад карчмы ўлева, на поўнач ідзе дарожка праз вёску Навасады васпана Пузыны, за палову мілі часткова праз зараслі, часткова полем, да фальварка і вёскі Вялікія Канюшаны васпана Статкевіча, адна вялікая міля ад парафіяльнага касцёла, дарога сухая, пясчаная, камяністая, і тут мяжа парафіі Беліцкай.

Беліцкая парафія не мяжуе з іншымі ваяводствамі і паветамі, але цалкам, з усімі вёскамі і мястэчкамі знаходзіцца ў Лідскім павеце, як пра тое вышай напісана.

Такое апісанне нашай парафіі подпісам уласнай рукі пацвярджаю, кс. Францішак Кутоўскі (Кантоўскі).

*(Пераклад з польскай Леаніда Лаўрэша, мапы 1869 года.)*

# Таямніца аднаго фотаздымка



***Беларускія пісьменнікі ў часе ІІ Усебеларускага Кангрэсу ў Менску, 27 чэрвеня 1944 г.: Валянцін Таўлай, Тодар Лебяда, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Сяргей Хмара, Уладзімір Сядура, Хведар Ільяшэвіч.***

Падчас апошняй вайны свядомыя беларусы былі па абодва бакі фронту і па абодва бакі змагання: адны ваявалі ў савецкіх партызанскіх атрадах, другія супрацоўнічалі з немцамі. Валянцін Таўлай, як вядома, у час вайны працаваў на савецкую вайсковую разведку. Была такая спецгрупа "Буравеснік", вось у ёй і служыў Валянцін Таўлай. У канцы чэрвеня 1944 года, калі збіраецца і працуе II Усебеларускі кангрэс, мы бачым яго ў Менску. У літаральным значэнні гэтага слова бачым, бо захаваліся (здаецца, два) фотаздымкі, на якіх Таўлай зафіксаваны разам са сваімі калегамі - Аляксеем Анішчыкам, Хведарам Ільяшэвічам, Тодарам Лебядой, Алесем Салаўём, Масеем Сяднёвым, Уладзімірам Сядурам і Сяргеем Хмарам. Усе яны стануць або эмігрантамі, або вязнямі ГУЛагу.

Мусіць, мы здагадваемся, што рабіў у канцы чэрвеня 1944 года ў Менску разведчык Валянцін Таўлай. Але тут цікавы адзін момант. Былы заходнебеларускі вязень Сяргей Хмара, былы віленскі гімназіст Хведар Ільяшэвіч ды былы навагрудскі гімназіст Аляксей Анішчык выдатна ведалі, да якой партыі належаў Валянцін Таўлай, і, мусіць, здагадваліся, што ён не памяняў свае погляды. І "калабаранты" не выдалі яго менскай СД?

Да гэтага трэба дадаць згадку пра цудоўнае вызваленне Валянціна Таўла з нямецкай турмы ў Лідзе, якое стала магчымым пры дапамозе тых жа "калабарантаў".

Дык што ж мы бачым на здымку, як гэта называецца? У якой краіне савецкі разведчык мог вось так сфатаграфавацца з "паслугачамі акупантаў" пры тым, што і Таўлай ведаў пра ўсіх і ўсё, і пра Таўлая ведалі ўсе і ўсё? Называецца гэта беларускай салідарнасцю. Тут і сёння яны ўсе свае, усе разам. Заўтра адных лёс пагоніць каго на эміграцыю, каго ў Сібір, а Валянціну Таўлаю можна сказаць "пашанцуе", што гэты здымак быў апублікаваны праз дзесяць гадоў пасля яго смерці, а то доўга прыйшлося б даказваць савецкім органам, што ён быў у Менску на разведзаданні, і невядома, ці даказаў бы.

У гэтым здымку - уся сумленнасць і ўвесь патрыятызм шчырых беларусаў, для якіх Беларусь была вышэй за ўсё.

***Паводле А. Сідарэвіча.***

Магільнікава Валянціна Мазоль Алеся
Казлова Аляксандра Сачко Ніна
Кавальчук Алена

**2001-2002**

Сідорык Кацярына Цехановіч Іван
Лукуць Андрэй Круглая Святлана
Нарэль Наталля

**2002-2003**

Стадольнік Юлія Мікулка Зміцер
Алетаровіч Ірына Зімніцкі Зміцер
Мацкевіч Вольга Лазоўская Ала
Зялёная Вераніка Вадэйка Вольга
Стэльмах Алена Струнеўскі Леанід

**2003-2004**

Клімашэўскі Аляксандр Кудзі Наталля
Каранковіч Павел Ефімец Вераніка

**2004-2005**

Кукліс Марыя Цырун Таццяна
Лоўгая Алена Варона Вольга

**2007-2008**

Нягена Вольга

**2008-2009**

Рымко Вольга

**2009-2010**

Валюк Ганна

**2010-2011**

Богдан Вераніка

**2011-2012**

Астаніна Наталля

# Дзеці пра школу

***(з сачыненняў вучняў)***

**Лобан Таццяна, *9 "Б" клас, 1972 г. (школьны архіў).***

*"За што я люблю сваю школу? За ўсё. За тое, што яна навучыла нас думаць, пісаць, чытаць, марыць, кахаць, верыць і дамагацца… Усяму гэтаму навучылі нас настаўнікі. Калі я чую слова "настаўнік", я заўсёды ўяўляю маю настаўніцу Антаніну Іванаўну Сцяпанаву. Я пачула яе першае "дабрыдзень" і з той пары слова "настаўнік" стала для мяне высокім словам, а мая настаўніца - увасабленнем усяго самага добрага і справядлівага на зямлі… Яна зайшла ў клас вясёлая, усмешлівая. Яе вочы зіхацелі дабрынёй і пранікалі проста ў душу. Я дагэтуль памятаю ўрокі-экспедыцыі ў краіну раслін і жывёл. Наша першая паездка за горад, у восеньскі лес, дагэтуль чую голас, які чытае нам Пушкіна. Яна ўмела паглядзець сурова, строга, але мы ніколі не чулі крыку, ніколі з яе вуснаў не зрывалася раздражнёнае злое слова. Яна любіла нас, верыла нам, мы гэта ведалі і плацілі ёй тым жа. Яна падарыла нам любоў да людзей, да кнігі, да неба і дрэваў. Кім я буду - яшчэ не ведаю. Ці падымуся на Марс, ці стану, як і яна, настаўніцай, ці з'еду на новабудоўлі ў Сібір… Але ведаю толькі адно, што буду сумленным чалавекам…"*



**Лобан Т.**

**Аляксеева Наташа, *4 "Б" клас.***

*"Школа! Як проста гучыць гэта слова, але як шмат у ім добрага. З гэтым словам злучана ўсё лепшае ў маім жыцці. Я памятаю, як мама прывяла мяне ў першы клас, як сустрэла мяне мая першая настаўніца Янчынкова Любоў Сцяпанаўна… Яна была добрай, ласкавай, але і строгай. Тут, у школе, я ўпершыню прачытала дарагія словы мне: "Мір, Радзіма, мама". І вось я ў чацвёртым класе. Зараз ужо не адзін, а некалькі настаўнікаў адкрываюць мне дзіўны свет ведаў. Я люблю сваю школу, таму што яна вялікая і светлая: прасторныя класы, бібліятэка, піянерскі пакой, актавы і спартовы залы. Самыя прыгожыя кветкі растуць у нашай школе, самая добрая мастацкая самадзейнасць таксама ў нашай школе. У гэтай школе мне павязалі піянерскі гальштук… Я люблю і заўсёды буду любіць сваю школу."*

**Альшэўскі Уладзімір, *6 "А" клас.***

*"Школа! Старыя і дзеці з хваляваннем прамаўляюць гэтае слова. Чаму ж яно дарагое кожнаму чалавеку. Мне, напрыклад, дарагая школа з таго моманту, як я пераступіў парог. Бясконца дарагія і на ўсё жыццё памятныя першыя ўрокі, на якіх я не ўмеў яшчэ сядзець. З вялікай любоўю ўспамінаю я сваю першую настаўніцу Веру Ігнацьеўну Задараву, якая навучыла мяне чытаць, пісаць, лічыць. Яе працавітасць і любоў да дзяцей заўсёды дзівілі мяне. На ўроках, калі яна тлумачыла ці распавядала пра штонебудзь, я не зводзіў з яе вачэй, слухаў, стаіўшы дыханне. Усё для мяне было новае, цікавае.*

*Чым сталей станаўлюся я, тым даражэй становіцца мне мая школа. Не магу адказаць, чаму ў мяне такое пачуццё: ці то прадчуванне хуткага расстання, ці то глыбокай любові да настаўнікаў і школьных сяброў, але я не ўяўляю сябе па-за школай.*

*Думаецца, што я вечны вучань, і што вечна будзе існаваць мая школа."*

**Шумская Тамара, *9 "А" клас.***

*"…Усяўладная восень неадступна крочыла за апошнімі праявамі хмяльнога летняга жыцця. Яна так нечакана пачалася, што не паспеў нават азірнуцца - і зноў у школу, у "наш любімы дом". Зноў*

*трэба ўставаць раненька, каб не спазніцца на першы ўрок. Ідзеш у школу, і душа радуецца. Пачынаецца ўрок. Колькі радасці - атрымаць у першы дзень пяцёрку. Сонейка асцярожна пазірае ў класны журнал. Яно радасна вітае ўсіх з пачаткам навага вучэбнага года. Школа! Гэта самае дарагое і блізкае сэрцу, што ёсць у савецкіх дзяцей. З першых дзён мы ўжо ставілі сабе першыя жыццёвыя пытанні. Такое жыццё, пры якім адзін за ўсіх, а ўсе за аднаго і чалавек чалавеку - сябар, брат, таварыш. Вось такое жыццё будуе наш народ. І нездарма новую Праграму Камуністычнай партыі ўсе аднадушна назвалі "Праграмай народнага шчасця"!"*



***Вучаніца 1960-х***

**Карташова Лена, *9 "А" клас.***

*"Мы ўжо "старыя", і нам многае вядома. Калі пачаць з успамінаў, то нават дзіўным здасца, як гэта можна; трымаючы ў руках велізарны партфель, з тужлівай зайздрасцю ўзірацца на таблічку "4 клас" і баяцца ад думкі: "Няўжо і я там буду?". Кідацца ад дзядзькоў-дзевяцікласнікаў, якія аднекуль зверху нядбайна кідаюць скрозь зубы: "Ну і шанцуе ж гэтым першаклашкам!" А, можа яны і не ў дзявятым былі, а ў восьмым, але ўсё адно - дзядзькі. А цяпер мы самі вялі ў школу за ручкі прыціхлых, вялікавокіх малянят. Мы вось ведаем: яны гэтую хвіліну ніколі не забудуцца.*

*Вам знаёма пачуццё перад кантрольнай? Вы ведаеце, як гэта - не дыхаць, эканомячы кісларод для рашэння квадратнага раўнання? А мы ведаем. І жывыя. І нават хутка будзем разумнымі-разумнымі. Але праз імгненне ўжо ўсё забыта, бо трэба яшчэ паспець схаваць чый-небудзь дзённік, і, калі зіма, выпрабаваць дзеянне мокрага снегу на чыёй-нібудзь спіне, захаваць пры гэтым на твары выраз найшчырага спачування, даімчацца да буфета, купіць пончык, зжаваць яго і злёгку спазніцца на гісторыю.*

*Вось і заўтра настаўнік чуе шолах старонак і няскладны лопат, ізноў стомлена схіліцца над журналам, і ў тваёй соннай галаве будуць нікчэмна матляцца адрыўкі параграфа, прачытанага "па дыяганалі" пад музыку з перадачы "Для тых, хто не спіць". І калі не патрапіш у лік "ахвяр", і табе не прыйдзецца з кісла-цытрынавым выразам на бледнай фізіяноміі даказваць, што "Чарльз Дарвін любіў птушачак", што "гэты, як яго, ліміт, да якога імкнецца нешта там, ёсць радыус", то знойдзецца цэлых 45 хвілін для занятку разнастайнымі неабходнымі справамі, акрамя клопату выпадкова "не схапіць пару". І ўсё ж мы любім школу, любім, не аддаючы сабе ў гэтым справаздачы."*

**Ціханюк Ігар, *8 "А" клас*.**

*"Маёй Радзіме - 50, а школе - 10. Увойдзем у вестыбюль. Вы бачыце, вось у самым цэнтры яркі плакат: "УССР у сузор'і роўных". Побач - прызавая віктарына. Каб адказаць на яе пытанні, трэба шмат ведаць пра братнюю Ўкраіну…*

*Але чаму так ціха? Бо ўрокі скончыліся. Дзе ж звыклая лавіна дзяцей, якая бурна нясецца да запаветнага гардэроба? Ах, так! Усе ў зале, у актавай зале. Сёння тут асабліва прыбрана - урачыстая лінейка. У школе дзень адкрыцця ўкраінскага тыдня. Бліщчыць паркет… У цэнтры - юныя ўкраінцы ў нацыянальных строях. Распарадчыкі сённяшняй імпрэзы - дзеці з 8 "А".*

*А ў піянерскім пакоі - наша выстава па рэспубліцы. Трэці год мы сябруем з Украінай, многія пабывалі там, таму матэрыял багаты, і выстава атрымалася цікавай. Тут заўсёды людна, дзеці іншых класаў з цікавасцю разглядаюць рэпрадукцыі.*

*Вялікі перапынак… Не паспеў празвінець званок з уроку, як звонкі голас спыніў дзяцей: "Увага, увага! Гаворыць школьная радыёстанцыя "Дружба"! Сёння перадача прысвячаецца Ўкраіне!". Падабаецца нам наша школа. Тут мы вучымся сябраваць з дзецьмі, любіць Радзіму, шматмоўную і неабсяжную. І зусім не выпадкова на фасадзе нашай школы лозунг-дэвіз: "Наш шлях ад акцябрат да камуністаў, і гэты шлях мы пачынаем тут". Я ўпэўнены, што са сцен нашай школы не выйдзе ні аднаго, хто б абмануў давер настаўнікаў, давер Радзімы."*

**Ушко Наталля, *8 "А" клас.***

*"Настаўнік! Яго вобраз жыве ў сэрцы побач з самымі дарагімі нам вобразамі маці і бацькі. Настаўнік! Якое ж гэта выдатнае слова. Першыя літары і першае слова. Гэта першае слова, якое мы навучыліся гаварыць, пісаць, чытаць - "мама". Нашы настаўнікі - гэта другія маці, якія пашырылі наш далягляд, узбагацілі ведамі, навучылі зацята імкнуцца да сваёй мэты, любіць Радзіму… Пасля выпускнога за школьны парог выйдуць каля 200 розных дарог, такіх жа як характары тых, хто іх выбірае. У кожнага чалавека свая мэта, свая мара. Мара - гэта зорачка, да якой чалавек імкнецца ўсё жыццё, кожны дзень, кожную гадзіну. І мара толькі тады становіцца рэ-альнай, калі там жыве твая душа."*

## Праз дзесяцігоддзі…

**Здановіч Дзяніс, *вучань 9 "В" класа, 2010 г. (школьны архіў)*.**

*"Школа - гэта дом, які я вельмі люблю і буду заўсёды ўспамінаць і нудзіцца. Як шмат пачуццяў, эмоцый, перажыванняў, падзей утрымоўвае ў сабе гэта слова. І ўсё ж, што для мяне школа? Школа ў першую чаргу гэта дзяцінства. Менавіта тут мы праводзім вялікую яго частку. Тут мы выяўляем сваю індывідуальнасць, самастойнасць, становімся асобамі. Сталеем мы на вачах настаўнікаў, імкнучыся вылучыцца ва ўсім: няхай гэта будзе вучоба, ці твор-*

*часць. У школе ніколі не бывае сумна. Нават крыўдна бывае, калі ты па хваробе штосьці прапускаеш, а тым часам адбываецца маса цікавых падзей. Сябры тэлефануюць увечар і распавядаюць, як было весела, і табе вельмі хочацца ў школу.*

*Хачу сказаць велізарны "дзякуй" настаўнікам! Менавіта вы прымаеце непасрэдны ўдзел у нашым выхаванні і імкняцеся выгадаваць з нас годных людзей. І, паверце, у вас гэта атрымліваецца."*

**Лапко Караліна,** ***вучаніца 9 "В" класа, 2010 г.***

*"Самы галоўны этап у жыцці кожнага чалавека - школа. Тут з дурненькіх першаклашак вырастаюць сталыя сур'ёзныя людзі. Школьнае жыццё - гэта доўгі шлях, які складаецца са спроб і памылак. Дагэтуль я памятаю першую лінейку, тое ўтульнае размяшчэнне і ветлых, усмешлівых настаўнікаў. Школа іграе велізарную ролю для мяне, бо менавіта тут кіпіць жыццё. Мы ўсе такія розныя, але ўсе - адна велізарная сям'я. Школа для мяне стала другім домам. Хутка нам прыйдзецца растацца са школай, але ніколі мы не зможам забыцца добры твар першай настаўніцы, ды і ўсіх настаўнікаў, якія парой замянялі нам бацькоў."*

**Жыгала Вольга,** ***вучаніца 9 "В" класа, 2010 г.***

*"З самага першага імгнення чалавек з'явіўшыся на свет пачынае вучыцца. Ён вучыцца хадзіць, гаварыць, разумець свет і людзей. Але вось настае дзень і ён прыходзіць у школу, ля парога якой яго чакаюць з нецярпеннем. Усе памятаюць свой першы званок, свой першы клас. Школа, школа, ты пачатак усіх прафесій і дарог. Задачы будучыні будуць вырашаць тыя, хто сёння сядзіць за партай. Школа не толькі адкрывае таямніцы навук, але і навучыць думаць шукаць, знаходзіць, а, значыць, гэта школа жыцця. Вельмі шмат залежыць ад настаўніка. Настаўнік вядзе нас па гэтай "школе жыцця", здзяйсняючы штодзённы вычын, укладваючы ў нас часціцу свайго сэрца, аддаючы нам свае веды, дапамагаючы нам знайсці свой шлях у жыцці, а галоўнае быць чалавекам."*

**Валюк Вікторыя,** ***вучаніца 9 "В" класа, 2010 г.***

*"Я вучуся ў самай, на мой погляд, выдатнай школе горада Ліды - адзінаццатай. Я ўпэўнена, што менавіта гэтая школа зможа выхаваць і навучыць. Мае настаўнікі не проста праводзяць урокі, а зацікаўляюць сваім прадметам. Дзякуючы нашым педагогам мы спасцігаем самую важную навуку - быць чалавекам: сумленным, прыстойным, добрым, таварыскім, рознабакова развітым. Яны вучаць сябраваць па-сучаснаму. Кожны раз я прыходжу ў школу з усмешкай і добрым настроем. Для мяне, як і для многіх вучняў, школа - гэта не проста адукацыя, самае галоўнае ў лёсе чалавека пачынаецца са школы...*

*Школе, у якой я вучуся, ужо шмат гадоў. Але, мне здаецца, што ніводная новая школа не "сабрала" ў сабе гэтулькі цяпла і дабрыні, колькі выпраменьваюць сцены маёй школы, якія гадамі ахоўваюць званкі змен, гучныя воклічы і смех вучняў, строгія, але правільныя павучанні настаўнікаў і вар'яцкую радасць апошняга званка."*

**Собаль Аляксандр,** ***вучань 9 "А" класа, 2010 г.***

*"Школа! Усе гэта слова прамаўляюць з хваляваннем. Чаму ж яно дарагое кожнаму чалавеку? На гэтае пытанне вельмі лёгка адказаць. Тут можна сустрэць шмат сяброў, пагутарыць з любімымі настаўнікамі, дазнацца шмат новага і цікавага.*

*З велізарнай любоўю я ўспамінаю сваю першую настаўніцу, маю другую маму, Страчынскую С.М., якая навучыла нас працавітасці, павазе да старэйшых, дружалюбнасці. Менавіта ў школе я назаўжды палюбіў інфарматыку, збіраюся звязаць з ёй сваё жыццё. Вядома, немалаважную ролю сыграў самы класны, добры і выдатны чалавек Малахаў В.П. Менавіта яго прафесіяналізм паўплываў на мой выбар."*

**Швед Вольга,** ***вучаніца 9 "А" класа, 2010 г.***

*"Школа - гэта маленькі свет, адначасова падобны і непадобны на навакольны. Тут самыя лепшыя настаўнікі, якія дапамогуць у цяжкую хвіліну. Школа фармуе ў чалавеку самыя галоўныя якасці: адказнасць, паразуменне, павагу, любоў. Гэта радасць і засмучэнне, уменне пераадольваць і дамагацца, гэта прыступка ў дарослае жыццё."*

**Шаньгіна Дыяна,** ***вучаніца 9 "А" класа, 2010 г.***

*"Мая школа - гэта пачатак маёй гісторыі, тут я атрымала першыя ўрокі ведаў і жыцця. Хутка мы будзем выпускнікамі, што больш за ўсё запомніцца? Вядома ж, добрае. Мая школа - гэта стартавая пляцоўка маіх будучых дасягненняў."*

# Мы імі можам ганарыцца

Сярод выпускнікоў СШ № 11 кампазітар, музыка і паэтка Мазітава Дзінара; загадчык хірургічнага аддзялення Слуцкай лякарні Царыкаў Зміцер; воіны-інтэрнацыяналісты браты Быстрыцкія (Быстрыцкі Мікалай Іосіфавіч працуе ў Адміністрацыі Прэзідэнта), Кушняроў В., былы галоўны пракурор Рэспублікі Беларусь Шэйман В.В., нам. часткі адміністрацыі Прэзідэнта Міцкевіч В.В., былы мэр горада Ліда Малец У.М., начальнік вытворчага аддзела Гаргазу Падгайскі І.І., маркетолаг Лідскага піўзавода, узнагароджаны Прэзідэнтам Бабурчык Т., вядучы эканаміст сацыяльнай службы г. Гародні Доўгач Г.М., дыктар Лідскага тэлебачання Вадэйка А., сакратар першаснай арганізацыі "БРСМ" БДУ Мікулка Д.І., кіраўнік Лідскага таварыства ветэранаў вайны ў Афганістане Леўдаровіч М.І., начальнік аддзела кадраў завода "Нёман", дэпутат раённага савета Кушпяк А.В., дацэнт кафедры замежных моў Лінгвістычнага ўнівер-

сітэта Крот Л.І., спецыяліст па апецы Лідскага райвыканкаму Гец М.Д., кансультант у консульскім аддзеле МЗС Ганевіч А.Д.

Грамадзянска-патрыятычнае выхаванне з'яўляецца прыярытэтным кірункам у сістэме выхаваўчай працы школы. Ды і не можа быць па-іншаму. Вучні і педагогі вядуць актыўную краязнаўчую дзейнасць, уключаюцца ў пошукава-даследчую працу. Нашай школе сапраўды ёсць чым ганарыцца. Багаты матэрыял сабраны пра В. Кузьміцкага і В. Карчагіна. Іх імёны занялі ганаровае месца на мемарыяльнай дошцы, размешчанай ля галоўнага ўваходу ў школу. Матэрыял пра іх сабраны і пільна захоўваецца ў школьным музейным пакоі. Школьная піянерская дружына носіць імя В. Кузміцкага.

**Кузьміцкі Віктар Антонавіч.**

Віктар Кузьміцкі нарадзіўся 24 жніўня 1947 года ў вёсцы Гута Драгічынскага раёна, Берасцейскай вобласці.



*Кузьміцкі В.А.*

У 1951 годзе сям'я пераязджае з г. Масты Гарадзенскай вобласці ў г. Ваўкавыск. Тут у 1954 годзе Віктар паступіў у 1-ы клас сярэдняй школы №1. У 1956 годзе ён пераязджае да сваякоў бацькі ў г. Драгічын, дзе працягвае вучыцца. Тут жа ён уступае ў шэрагі Ўсесаюзнай піянерскай арганізацыі, абіраецца старшынём савета атрада.

У 1958 годзе Віктар вяртаецца ў г. Ваўкавыск да бацькі, вучыцца ў школе №1. Віктар захапляецца тэхнікай, займаецца ў школьным тэхнічным кружку. Віктар таксама любіць маляваць, чарціць, браў удзел у афармленні насценгазет, святочных калон.

У 1963 годзе сям'я Віктара пераязджае ў горад Ліду. Тут ён паступае ў 10 клас СШ №11.

Пасля заканчэння школы працаваў на заводзе "Лідсельмаш", затым быў прызваны на дзейную службу ў Ваенна-марскі флот у 1966 годзе.

Да ліпеня 1967 года служыў у адной з частак Кранштадта. Быў абраны таварышамі сакратаром камсамольскай арганізацыі свайго падраздзялення. Праявіў сябе добрым арганізатарам і спагадным таварышам. Быў працавіты і настойлівы ў авалоданні спецыяльнасцю. У чэрвені 1967 года Віктар накіроўваецца на службу на дзейны флот з выдатнымі паказчыкамі ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы. Служыў Віктар на падводнай лодцы "Ленінскі камсамол".

На караблі Віктар карыстаўся аўтарытэтам у камандавання і сярод таварышаў, меў шэраг заахвочванняў.

Загінуў Віктар у 1967 годзе, выконваючы ўрадавае заданне.

**Карчагін Валерый Васільевіч.**



*Карчагін В.В.*

Нарадзіўся Валера Корчагін у Бабруйску ў сям'і вайскоўца, таму пра казармавае жыццё ведаў не па чутках. Пасля пераезду ў Ліду вучыўся ў СШ №11. Сёння тут вісіць памятная дошка з яго імем, а тады ніхто і падумаць не мог, што выпускнік 75-га года Валерка Коржык, як яго звалі паміж сабой толькі блізкія сябры, стане героем Афганскай вайны. Ён застаўся ў памяці сваіх аднакласнікаў, як таварыскі, вясёлы, хлопец, які любіў спорт. Па ўспамінах аднакласніка Сяргея Шыгорына, які сядзеў з ім за адной партай, Валерка адразу стаў сваім, пасябраваў з дзецьмі, шмат жартаваў і адначасова сур'ёзна ставіўся да таго, што яго сапраўды цікавіла. А займаўся ён у той час цяжкай атлетыкай. І хлапчукоў з класа клікаў у сваю секцыю. Валера сапраўды займаўся гэтым відам спорту прафесійна. Удзельнічаў то ў гарадскіх, то абласных спаборніцтвах.

У сястры Валерыя Карчагіна і цяпер захоўваецца мноства дыпламоў, спартовых узнагарод, якія заслужыў яе брат. Заняткі цяжкай атлетыкай выхоўвалі ў ім цягавітасць і мэтанакіраванасць. Магчыма, менавіта гэтыя якасці дапамаглі Валерыю справіцца з наступствамі хваробы. Быўшы вучнем дзясятага класа, ён адправіўся на чарговае спаборніцтва ў Віцебск. Пасля выступлення Валерыю стала дрэнна, а ў лякарні высвятлілася, што ў яго пачаліся ўскладненні пасля апендыцыту. Сітуацыя была вельмі складаная. Спатрэбілася складанае хірургічнае ўмяшанне. Дзякуючы таму, што аперацыю рабіў дасведчаны медык, небяспечных наступстваў удалося пазбегнуць. Праўда, выпускныя іспыты ў школе Валерый з-за хваробы не здаваў, ды і планы пра працяг вучобы на той момант сарваліся. У Гарадзенскі педагагічны інстытут Валерый не паступіў.

Да таго часу ўся яго сям'я: бацька які выйшаў у адстаўку, маці і сястра працавалі на абутковай фабрыцы. Год прапрацаваў тут і ён. Аднак, яго захапляла зусім іншае. Валера пайшоў у войска. А ўжо з Менска, дзе праходзіў службу, ён паступіў у вышэйшую ваеннапалітычную агульнавайсковую вучэльню ў г. Навасібірску. Але са сваімі роднымі ён увесь час падтрымліваў сувязь: слаў лісты, паштоўкі.

Валерую падабалася служба, і яго не раз адзначала кіраўніцтва вучэльні ў ліку лепшых. На адрас бацькоў Валерыя Карчагіна прыходзілі падзячныя лісты. Вось адзін з апошніх, датаваны 6 траўня 1980 года: *"... У наш час Валерый свята выконвае свой вайсковы абавязак, здае сесію за апошні перыяд навучання і рыхтуецца паспяхова здаць дзяржаўныя іспыты.*

*Мы вельмі ўдзячныя вам за добрае выхаванне сына...".* Па заканчэння вучэльні маладога афіцэра Валерыя Карчагіна накіроўваюць у Куйбышаў, а праз некаторы час - у Афганістан.

Корчагін перанёс раненне, лячыўся ў Ташкенце, потым ізноў вярнуўся на месца баявых дзеянняў. На апошняе ў сваім жыцці заданне ён мог і не ісці. Тады, 26 красавіка 1983 года, Валерыю Васільевічу прыслалі зменшчыка, але, перажываючы за тое, што пачатковец можа разгубіцца, Карчагін сам адправіўся выконваць загад. Яго ён выканаў, але сам загінуў. Развітанне з ім праходзіла ў тым ліку і на абутковай фабрыцы, дзе зноў сустрэў яго Сяргей Шыгорын, які працаваў на аўтакамбінаце і па просьбе начальніка ДАІ на спецыялізаваным аўтамабілі даставіў на могілкі цела былога аднакласніка ў цынкавай труне. Вайна забірае ў нас самых дарагіх і любімых людзей.

У музейным пакоі сабраны матэрыял пра выпускнікоў нашай школы воінаў-інтэрнацыяналістаў братоў Быстрыцкіх. Тут жа захоўваецца кніга пра воінаў-афганцаў, аповяд у якой прысвечаны менавіта



***Браты Быстрыцкія***

ім. Акрамя гэтага сабраны матэрыял пра воінаўафганцаў, жыхароў нашага горада.

Асабліва прыемна тое, што многія выпускнікі нашай школы абралі для сябе прафесію педагога: Таўкун Я., Мулінская А., Кулеш Е., Бяляеў А., Ляўданская М., Лобанава А., Бальцевіч А., Сцяфановіч Т., Копаць В., Гатальская Л., Собаль С., Навуменка А.

Нашы выпускнікі папоўнілі шэрагі самай гуманнай прафесіі - прафесіі лекара. Гэта лідзяне: Гота С., Аганоўскі П., Кіжук І.

# З успамінаў выпускнікоў

**Федаровіч Алег Іванавіч *(выпускнік 2001 года, 11 "Б" клас).***

*"Для мяне самы зыркі ўспамін пра школьны час - гэта наша рок-група "Прарыў". Яна была арганізавана ў 1998 годзе. Першапачатковы склад быў з трох чалавек: Мілеўскі Андрэй, Аганоўскі Павел і я, Федаровіч Алег. Пазней да нас далучыліся двое вучняў з СШ №16. Рэпетыцыі на пачатку праходзілі ў актавай зале СШ №11, па аўторках, чацвяргах і суботах. Канцэрты давалі як у сваёй школе, так і ў 14-й, 15-й. Бралі ўдзел у вечары сустрэч з выпускнікамі. У 2000 годзе ўступілі ў рок-асацыяцыю г. Ліды. І нашы рэпетыцыі перанеслі ў гарадскі Дом афіцэраў. Мы ўдзельнічалі ў рок-канцэртах, фэстах з груп Гарадзенскай вобласці, якія праводзяцца ў Лідзе. З песняй "Карычневае сонца" патрапілі на старонкі менскай газеты пад назвай "Музычная газета", у якой прагучалі пахвальныя водгукі пра нашу групу. Выходзілі артыкулы ў "Лідскай газеце", часопісе "Онікс".*

*Гісторыя групы скончылася з канцом вучобы. Дзеці паступілі ў розныя навучальныя ўстановы, але засталіся прыемныя ўспаміны пра занятак любімай справай."*

**Таўкун Уладзімір Яўгенавіч *(выпускнік 1984 гады, 10 "Б" клас).***

*"Я вучыўся ў СШ №11 з 1974 па 1984 год. Для мяне школа не проста месца, дзе я атрымаў падарожную ў жыццё, але і месца сустрэчы з маім лёсам. Верасень 1983 года для мяне стаў не проста пачаткам навучальнага года, але і найзыркім уражаннем майго жыцця. Менавіта тады я сустрэў і пакахаў Сягла Лену, маю аднакласніцу і будучую жонку. Яна прыйшла да нас у 9-ы клас, адчыніла дзверы класа, і я зразумеў - гэта ўвайшла мая жонка. Інтуіцыя мяне не ашукала, гэта жанчына стала маім лёсам, і я ўдзячны школе за сустрэчу, якая стала пачатковай кропкай адліку нашага кахання."*



***Таўкун У.Я.***

**Сягла Алена Андрэеўна *(выпускніца 1984 гады, 10 "Б" клас).***

*"Мая першая настаўніца Хільгара Еўдакія Антонаўна - прыклад справядлівасці і чалавечнасці добрай якасці. Менавіта яна выхавала ў мне любоў да кнігі, імкненне да спазнання. Трэба сказаць, што на настаўнікаў мне шанцавала. Маім класным кіраўніком стала Шутава Ала Канстанцінаўна. Яна была сама эмацыйнасць і элегантнасць, яе ўрокі рускай мовы і літаратуры выклікалі захапленне, будзілі нашы душы. Мы знаёміліся з творчасцю Асадава, Высоцкага, Раждзественскага, Ахматавай, Цвятаевай, вучыліся кахаць, адстойваць сваё меркаванне,*



***Сягла А.А.***

*кахалі і марылі. А паходы, што арганізоўвала яна, насычаныя гульнямі, канцэртамі, якія доўжыліся 5 - 6 дзён пакідалі масу ўражанняў.*

*Наступны мая ўдача - Вінаградава Тамара Пятроўна. Гэта жанчына - прыклад прыстойнасці, вялікага розуму і дабрыні. Нягледзячы на яе гучны голас, мы ніколі не чулі крыку. Яе мудрасць заўсёды дзівіла мяне. Менавіта яна навучыла мяне ставіць перад сабой мэты і іх дамагацца, змагацца з цяжкасцямі і знаходзіць правільнае рашэнне. Так, многаму мяне навучылі мае настаўнікі! Ніна Іванаўна Сівашынская - гумару, Антаніна Фёдараўна Петрачэнка надала ўпэўненасці ў сабе, Мазурава Эльвіра Ўладзіміраўна - працавітасці, Бандарэнка Лідзія Фёдараўна - сур'ёзнасці. Дзякуючы сваім настаўнікам я таксама педагог".*

**Балабановіч (Ажыгіна) Ала Міхайлаўна (*выпускніца 1979 года, 10 "В" клас*).**

*"Вядома ж многае запомнілася. Наша школьнае жыццё, была вельмі насычаным, шмат запамінальных падзей: конкурсы бальных танцаў, конкурс інсцэнаванай патрыятычнай песні, разнастайныя экскурсіі і паездкі, паходы. Але заўсёды кур'ёзныя моманты запамінаюцца ярчэй. Хацелася б распавесці пра некаторыя з іх. Конкурс інсцэнаванай песні. Рыхтаваліся да яго мы заўсёды вельмі адказна, бывала, увесь горад ведаў пра яго. Рыхтавалі мы інсцэноўку "Зямлянкі". Вельмі хацелася перамагчы. Мы так захапіліся, ствараючы становішча блізкае да рэальнасці, што на сцэне ўсталявалі высечаную ў лесе елку. За гэта і паплаціліся - журы зняло ў нас балы. Вядома, было крыўдна, але яны мелі рацыю.*



***Балабановіч А.М.***

*Быў яшчэ адзін казусны выпадак. Ізноў жа пры інсцэноўцы патрыятычнай песні. Узяліся за песню "Алёша", душэўную, кранальную. Задумка была выдатная: на сцэне стаіць Сямёнаў Юрась, удаючы "Алёшу" з аўтаматам, а да яго ідуць пакланіцца і ўскласці кветкі. Гарыць вечны агонь, гучаць пранікліва словы песні... І раптам, у самы непадыходны момант крэсла пад "Алёшам" ломіцца і ён правальваецца ўнутр. Трэба аддаць належнае Юрасю, як ён стаяў у паставе на "Зважай", так і застаўся, а ў руках аўтамат. Інсцэноўка прайшла на "ўра"!*

## Наша сучаснасць

Наша сучаснасць - гэта наш новы дырэктар Хвайніцкая Ганна Аляксандраўна. Па меркаванні калегаў дырэктар-прагматык.

Акуратная, пунктуальная, арганізаваная, спакойная, ураўнаважаная, мэтанакіраваная, настойлівая, педантычная, чалавек слова. Уважлівая да вучняў і бацькоў, вядзе дыялог на роўных, заахвочваючы ініцыятыву.

З прыходам Г.А. Хвайніцкай у школе многае змянілася, а галоўнае пачалася яе рэканструкцыя: актавая зала, калідоры, новая мэбля… Гэта чалавек, які ўнікае ва ўсё і мае сваё меркаванне па любым пытанні.



***Хвайніцкая Г.А.***



***Рэлікоўская Г.Л., намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце***



***Відзевіч Л.М., намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце***



***Зулаева Р.Ч., намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце***



***Лабанава І.М., намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце***

## Музейны пакой баявой славы СШ № 11

Кіраўнік музейнага пакоя баявой славы - **Ашмяна Людміла Эдуардаўна**, настаўнік гісторыі.

**ЧАСТКІ ЭКСПАЗІЦЫІ:**

**I. Ніхто не забыты, нішто не забыта.**

а) Вялікая Айчынная вайна на тэрыторыі Лідчыны (падполле і партызанскі рух, вызваленне горада).

б) Іх імёнамі названы вуліцы нашага горада.

в) Лідчына ў гады акупацыі.

г) Мемарыялы і помнікі часоў Вялікай Айчыннай вайны.

**II. Іх імёны на фасадзе школы.**

а) Матэрыял пра В. Кузьміцкага.

б) Матэрыял пра В. Карчагіна.

в) Матэрыял пра воінаў-інтэрнацыяналістаў, загінуўшых у Афганістане.

**III. Гісторыя СШ №11 у асобах і падзеях.**

а) Першы дырэктар СШ №11 Папова Н.І.

б) Дырэктары СШ №11.

в) Настаўнікі-ветэраны.

г) Выпускнікі СШ №11.

д) Нашы дасягненні.

Наведаўшы музейны пакой Баявой славы СШ №11, вы не толькі атрымаеце цікавую інфармацыю пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны, але і ўбачыце каштоўныя экспанаты - сведкі тых падзей. Гэта: аўсвайс перыяду акупацыі, нямецкая каска, каска савецкага воіна, эмблема нямецкай машыны, нямецкі патранташ, фляжка салдата войскаў СС, акуляры савецкага лётчыка, фрагменты гільзаў, фота часоў вайны, слоўнік для палягчэння зносін паміж нямецкімі і рускімі чыгуначнікамі. Вы даведаецеся пра трагічную гісторыю, якая здарылася на падводнай лодцы "Ленінскі камсамол" і пра яе матроса В. Кузьміцкага. Пра Афганскую вайну і пра яе ўдзельніка, выпускніка нашай школы В. Карчагіна.



*Ашмяна Л.Э.*






Папова Н.І., Кулеш А.Ф., Бурак А.А., Мазоўка А.С. - гэта няпоўны спіс тых, пра каго вы зможаце даведацца, наведаўшы наш музейны пакой.

За добрую працу музейнаму пакою нададзены статус музея “На перакрыжаванні дарог”.

# Погляд у будучыню

*Песіміст бачыць цяжкасці ў кожнай спрыяльнай магчымасці;*
*аптыміст бачыць спрыяльныя магчымасці ў кожнай цяжкасці.*

**Уінстан Чэрчыль**.

Вось, здаецца і ўсё пра цябе… Ах, так! Якое ўсё? І зноў, дабрыдзень! Не, далёка не ўсё. Бо ты пачатак усіх пачаткаў, а значыць заўтра ў будучыню! А што там у нас у будучыні? Трэнінгі, маніторынгі, новыя рэформы, інавацыйныя тэхналогіі, перспектывы, наватарства. А, можа, віртуальная школа? Галоўнае, каб засталіся простыя чалавечыя зносіны, погляд "вочы ў вочы", плячо сябра, цяпло сказанага дакладнага слова, своечасова працягнутая рука, умелая тактоўная заўвага і радасць ад сустрэчы з табой.

А што думае пра будучыню школы наша адміністрацыя?

**Намеснік дырэктара па навучальнай працы Рэліковская Г.Л.:**

*"Чакаецца ў будучыні паляпшэнне якасці ведаў навучэнцаў, якое адлюстроўваецца ў выніковасці паступлення вучняў у ВНУ, ССНУ, у росце сярэдняга бала.*

*Улічваючы, што ў школе навучаецца вялікая колькасць дзяцей розных нацыянальнасцяў, можна выказаць здагадку ў будучыні індывідуальнае вывучэнне іншых замежных моў (кітайскай, в'етнамскай, карэйскай, азербайджанскай і г.д.) на платнай аснове.*

*У будучыні мяркуецца актывізаваць інавацыйную дзейнасць у адукацыйным працэсе, наладзіць супрацоўніцтва з ВНУ Гарадзенскай вобласці, краіны.*

*Хацелася б наладзіць узаемаадносіны і абмен*




***Педагагічны калектыў СШ № 11. У школе працуе 74 педагогі, з іх вышэйшай катэгорыі - 21, 1-й катэгорыі - 39, 2-й катогорыі - 9.***

*досведам са школамі блізкага замежжа ці з іншых абласцей, гарадоў Беларусі.*

*У педагагічным калектыве будуць створаны ўмовы для авалодання інфармацыйна-кампутарнай граматай усімі настаўнікамі школы і выкарыстання тэхналогій у кожным класе.*

*Стварэнне інфармацыйна-бібліятэчнага цэнтра будзе спрыяць пашырэнню далягляду настаўнікаў і навучэнцаў. Адзіная лакальная сетка забяспечыць сувязь паміж рознымі ўзроўнямі кіравання адукацыйным працэсам, што дазволіць больш аператыўна прымаць адпаведныя рашэнні, больш аб'ектыўна ажыццяўляць маніторынг навучальнага і выхаваўчага працэсу.*

*Бацькі, вучні, настаўнікі будуць прымаць актыўны ўдзел у абмеркаванні праблем школы не толькі непасрэдна, але і пры дапамозе Інтэрнэт-сайтаў, форумаў, канферэнцый.*

*У будучыні рэальна правядзенне ўрокаў з моцнымі і адсталымі вучнямі, вучнямі, якія навучаюцца на даму, у рэжыме он-лайн пры дапамозе кампутара"*

**Намеснік дырэктара па выхаваўчай працы Відзевіч Л.М.:**

*"Будучыня нашай школы - гэта выдатны музей, у якім будуць арганічна пераплецены падзеі Вялікай Айчыннай вайны і вайны ў Афганістане.*

*Гэта інфармацыйны медыяцэнтр, у якім кожны педагог, навучэнец, бацька знойдзе інфармацыю, якая цікавіць яго.*

*Гэта прыгожы ландшафтны дызайн унутраных панадворкаў.*

*Гэта абноўленыя актавая зала, калідоры і класныя кабінеты.*

*Гэта педагагічны калектыў, дэвізам кожнага чальца якога стануць словы "Жыць - гэта не толькі думаць, а дзейнічаць"."*

Памятай пра школу… Будзь ёй удзячны. Яна дапамагла выхаваць у табе асобу, грамадзяніна сваёй краіны, проста чалавека. Гэта яна, той карабель, які ты пакідаеш, каб вярнуцца зноў у новым статусе - бацькі. А, можа педагога? І тады ўсё паўторыцца зноў… Вось яна формула вечнага жыцця.

***Аўтар Здановіч Аксана,***
***вучаніца 9 "А" класа.***
***Кіраўнік Ашмяна Людміла Эдуардаўна,***
***кіраўнік музейнага пакоя.***

## *Дадатак*

## Біяграфічная даведка Паповай Н.І.

З 30 снежня 1964 г. па 1 лютага 1978 г. абіралася і працавала 3-ім сакратаром Лідскага гаркаму партыі, а з 1 лютага 1978 г. - 1-м сакратаром Лідскага ГК КПБ. (Пастанова Пленума ад 30.XII.1964 г. і паст. Пленума ад 1.02.1978 г.). Яна з'яўлялася дэпутатам гарсавету народных дэпутатаў, чальцом абкаму КПБ, чальцом ЦК КПБ.

Узнагароджана юбілейным медалём "За доблесную працу. У адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння У.І.

Леніна", двойчы ордэнам "Знак пашаны" (ад 10 чэрвеня 1971 г. і ад 20 лютага 1974 г.), двойчы Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (ад 7 студзеня 1977 г. і ад 4 верасня 1980 г.).

Муж - Папоў Андрэй Ягоравіч.

Сын - Віктар Андрэевіч.

Дачка - Ларыса Андрэеўна.

Даведку склаў супрацоўнік лідскага краязнаўчага музея Фядотаў І.П. па запісах ва уліковай парткартачцы.

**Аўтабіяграфія Паповай Н.І.** ***(З архіву школьнага музейнага пакоя).***

*"У 1946 годзе паступіла ў Чаркаскі пединстытут на геаграфічны факультэт, пасля заканчэння ў 1948 годзе была пакінута пры інстытуце - парткам пакінуў, я выступала ў хоры, добра вучылася, і дадаткова скончыла натуральны факультэт (хімія і біялогія). У 1949 годзе была накіравана працаваць на ст. Ясная Данецкай чыг. - там паўгода прапрацавала.*

*У 1950 годзе выйшла замуж за вайскоўца.*

*З будучым мужам Андрэем Ягоравічам Паповым пазнаёмілася ў цягніку, быўшы студэнткай. Ён старэйшы лейтэнант, лётчык-знішчальнік, удзельнік вайны, два ордэны Чырвонага Сцяга, ордэн Чырвонай Зоркі. Быў збіты пад Беластокам, з перабітай нагой апусціўся на парашуце ў жыта, пяхацінцы яго выратавалі - на плашч-палатцы выцягнулі. Пасля вайны быў на штабной працы, пазней служыў у ракетных частках. Першы раз, калі ён прыехаў сватацца, бацька яму адмовіў: "Рана яшчэ. Хай на сваім хлебе пажыве". Праз паўгода зноў да мяне прыехаў, і мы распісаліся. Я пераехала ў Слонім па месцы яго службы. Працавала ў СШ №2.*

*У 1952 годзе мужа перавялі ў Ліду ў Паўднёвы гарадок. Я пачала працаваць настаўніцай, а з 1954 года - завучам СШ №52. Уступіла ў партыю і 8 гадоў абіралася сакратаром школьнай партарганізацыі.*

*У 1962 годзе была прызначана дырэктарам школы №11. Цікавы час быў. Паркетныя падлогі, школьнікі ў тапачках, фіранкі на вокнах. Кожны клас меў свой бальны танец, сваю песню, свае добрыя справы. Выдатны быў у нас калектыў: Пазняк, Бакатанава, Жукоўская, Германенка, Цішук. Я заўсёды а палове восьмага стаяла на ўваходзе ў школу і сустракала дзяцей. Старанна рыхтавала педсаветы і аб'ектыўна ставілася да ўсіх.*

*У снежні 1964 года я была на гутарцы ў ЦК у Пятра Міронавіча Машэрава. Цэлую гадзіну слухаў ён мой аповед пра школу, работу з бацькамі, настаўнікамі, вучнямі, задаваў мноства пытанняў. Справу сваю я ведала. Было пра што распавесці.*

*30 снежня 1964 года мяне перавялі ў гарком партыі - сакратаром па ідэалогіі. Ведала пра тое, куды іду. Ведала, што будзе цяжка. Бо гэта праца з людзьмі.*

*Цяпер многія кажуць: "Такія - сякія партакраты". Чым мы адрозніваліся ад іншых? Вельмі нізкай зарплатай, дырэктарам школы я атрымлівала 200 рублёў, а сакратаром стала - сем гадоў атрымлівала 120 рублёў, потым - 175, а пад 1978 год - 200 рублёў.*

*У горадзе пачалі праводзіць новыя святы: свята зімы, працы, сустрэча Новага году, укараняць новыя традыцыі: віншаванне людзей на даму, у лякарнях. Святы зімы і працы я прыдумала. Убачыла па тэлебачанні бразільскі карнавал і падумала: а чым мы горш?*

*Віншаванні на даму - таксама мая ідэя. Сабрала сакратароў партарганізацый і прапанавала - сакратары, старшыні прафкамаў з Дзедам Марозам і Снягуркай ідуць па хатах перадавікоў, ветэранаў з віншаваннямі. Хай людзі ў дварах і хатах бачаць вас, чуюць вас.*

*На адной з нарад сакратароў па ідэалогіі ў Менску прагучала такая фраза: "У некаторых раённых цэнтрах узводзяць Курганы Неўміручасці". Запалі гэтыя словы мне ў душу. Па вяртанні ў Ліду сказала пра гэта сакратару гаркаму партыі Фамічову Г.Ф. На што ён адказаў: "Можна і ў Лідзе адкрыць Курган Неўміручасці". А як усё гэта зрабіць? З чаго пачаць? Пачалі тэлефанаваць у Маскву, збіраць матэрыялы. 8 ліпеня 1966 года ў 22-я ўгодкі вызвалення горада Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў завяршылася засыпанне святыні Ліды Кургана Неўміручасці."*

У 1978 годзе Надзея Іванаўна абрана першым сакратаром гаркама партыі.

*"Людзі ішлі ў гарком партыі, яны ведалі, што ім дапамогуць. Мы не маглі даць па-за чаргой кватэру, але калі несправядліва абышлі - тут жа прымаліся меры. Велізарнае кола пытанняў сямейна-побытавага плану. Часам я вяла прыём да 23 гадзін. Даводзілася шукаць кіраўнікоў на кватэры і дамаўляцца. Штогод мы праводзілі агляд культуры вытворчасці прадпрыемстваў і арганізацый. Гэта падганяла калектывы. Часам у цэху, бывала, і вокнаў не мылі. Потым прывыклі, пачалі думаць пра людзей, пра іх выгоду, чысціню, прыгажосць на працы. Многія пабудавалі добрыя бытоўкі, лазні, саўны, добраўпарадкавалі тэрыторыі прадпрыемстваў, за школамі, сярэднімі адмысловымі навучальнымі ўстановамі былі замацаваны вуліцы, школьнікі саджалі кветкі, даглядалі траўнікі.*

*У 1980 годзе адзначалі 600-годдзе горада. У слоўніку Бракгаўза і Эфрона напісана, што Ліда заснавана ў 1180 годзе, і мы збіраліся адзначыць 800-годдзе. Я пачала шукаць пацверджанне, ездзіла ў Менск, паперакопвала тады горы літаратуры. Заг. аддзелу ЦК КПБ Паўлаў накіраваў мяне да доктара навук - прозвішча забылася, ён нам пацвердзіў, што горад з 1380 года. Свята патрэбна было для ўзняцця духу. 600-годдзе - гэта пікавы момант. Я не ведаю ніводнага іншага раённага горада на Беларусі ўзнагароджанага ордэнам. Колькі было зроблена. Вуліцы былі замацаваны за буйнымі прадпрыемствамі. Будавалі, праводзілі падземныя камунікацыі, укладвалі ходнікі. Практычна нанова добраўпарадкавалі Савецкую, Перамогі, Труханова, Кірава, Таўлая. Шмат суботнікаў правялі. Людзі заставаліся задаволеныя. Бо гэта рабілася для іх, з іх удзелам і бязвыплатна.*

*У лютым 1985 года быў пленум абкаму партыі. Стаяла пытанне пра амаладжэнне кадраў. Мне тады было 57 гадоў. Адразу пасля пленуму я напісала заяву з просьбай вызваліць мяне ад пасады. Вырашыла апярэдзіць. Мне паведамілі, што прынята рашэнне задаволіць маю просьбу.*

*Цяжка станавілася, накрычуся за дзень, сэрца баліць, лягу грудзьмі на стол - нібы лягчэй. Думала - так і вынесуць нагамі наперад.*

*Пасля гаркаму яшчэ 10 гадоў і 9 месяцаў прапрацавала ў аддзеле ЗАГСу. У ЗАГСе было лягчэй. Многіх я ведала асабіста па працы ў школе і гаркаме. Заўсёды рыхтавалася. Для ўрачыстай рэгістрацыі дзяцей пісала сцэнары. Наогул я ўсе свае выступы старанна рыхтавала, усе даклады пісала сама - ніколі мне іх на машынцы не друкавалі.*

*Удасканаліла абрады, добраўпарадкавала разам з супрацоўнікамі будынак ЗАГСу і тэрыторыю вакол яго. Усе гэтыя гады кіравала гарадскім жансаветам. Сабрала добры актыў. Жансавет шмат рабіў для людзей: дапамагалі самотным, шматдзетным, састарэлым.*

*1 красавіка 1996 года пайшла на пенсію. Цяпер ужо канчаткова."*

# Размова са старым шляхціцам

*(Распавядае **Хруль Іосіф Іосіфавіч**, 1929 г. н., запісана на Вялікадзень 2010 г., працягласць запісу каля 3 гадзін. Запісаў, апрацаваў, пракаментаваў і напісаў уводны артыкул **Леанід Лаўрэш**.)*

## Хруль гербу "Праўдзіц"

Шляхціц гэтага роду Лаўрын Хрулевіч упершыню ўспамінаецца ў "Перапісе войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 г." сярод шляхты *"двора господарьского лидского"* у шэрагу тых, хто *"того ж двора бояре, которые людей не мают сами повинни головами ку службе ехати"*[1]. Тое, што Лаўрын мае прозвішча "Хрулевіч" кажа аб тым, што ён сын Хруля і такім чынам мы маем права лічыць род Хрулёў лідскай шляхтай з XV ст. У перапісе войска ВКЛ 1567 г. фігуруе ўнук ці сын Лаўрына - *"Валентый Лавринович Хрулевич отъ Сосонок кляча, рогати"*[2].



***Герб "Праўдзіц"***

"Крестоприводная книга Великого Княжества Литовского 1655 г." дае нам прозвішчы двух Хрулёў у Лідскім павеце: *"Валентин Савастьянов сын"* і *"Самойло Хриштопов сын"*, з якіх апошні з'яляецца продкам аўтара гэтых успамінаў. Менавіта ён - *Samuel Chrul s. Krzysztofa* пачынае радавод Хрулёў які захоўваецца ў віленскіх архівах (F 391-1-509 "Rodowod szlachecki Chrulow h. Prawdzic, pow. Lidzki).

Важна, што пра сына Самуэля Хруля - Эліяша у гэтым радаводзе пададзена інфармацыя, што свой маёнтак ён атрымаў ад бацькі ў 1677 г. Такім чынам калі Лаўрын Хруль ў 1528 г. не меў значнай маёмасці, дык ужо праз 130 гадоў, Самуэль Хруль у сярэдзіне XVI ст., меў нейкі маёнтак, найбольш верагоднай магчымасцю для шляхціца значна палепшыць свой маёмасны стан была ўдалая вайсковая служба. З "Падымнага рэестру Віленскага ваяводства 1690 г." даведваемся, што пан Самуэль Хруль з Лідскай парафіі меў два дымы ў Верх-Лідзе Чэхаўскай Срэбняў (Wierzch Lida Czechowska Srebniow), у гэтым жа попісе фігуруе і пан Крыштаў Хруль з Радуньскай парафіі (1 дым)[3].

У дадатку да гярбоўніка Каспара Нясецкага Ян Бабровіч пісаў, менавіта што Стэфан і Казімір Хрулі ад лідскай шляхты падпісалі акт канфедэрацыі ў Алькеніках у 1700 г. і дадае, што даўнія аўтары пра іх не пішуць[4]. Аднак, у якім сваяцтве быў Казімір і Стэфан з Самуэлем Хрулём, невядома.

У спісе лідскай шляхты за 1765 г. верагодным прадстаўнікам апісванай галіны роду з'яўляецца Юзаф Хруль (верагодна Ёдкі), сярод яго суседзяў па Лідскай парафіі таксама фігуруюць Міхал і Леан Хрулі (з Калясішчаў), і Антон, Эліяш і Міхал Хрулі з Чэхаўцаў.

Новыя расейскія ўлады адразу прызналі шляхецкі стан апісванай галіны роду Хруль. З "Коннотационного реестра Виленского Дворянского Депутатского Собрания для записи утверждённых в дворянстве с 3.III.1798 г. по 20..I.1799 г." даведваемся, што Вінцэнту сыну Юзафа з пацэсіі Даўгялы шляхецкае паходжанне было пацверджана прывілеем ад 3.XII.1798 г. Другі раз шляхецтва было пацверджана прывілеем ад 18.VII. 1859 г. З інфармацыі бачна, што пры канцы XVIII ст. род зноў страціў маёнтак, і Вінцэнт стаў арандатарам. Але ўжо яго сын Марцін становіцца ўладальнікам ладнага кавалка зямлі. Бо ў "Ведомости мелкопоместных дворян Лидского уезда, утвержденных в дворянстве, владеющих землёю 1851 г. nr 109 s. 24." (F 391-7-73) Марыяна Хрулёва (54 гады) - удава Марціна з сынам Марцінам валодаюць 36 дзесяцінамі зямлі ў Воўкавічах.

Неабходна дадаць, што ў 1853 г. у Лідскім павеце жыве некалькі дзесяткаў збяднелых сямей Хрулёў, якія чакаюць пацверджання шляхецкага стану ад расейскага ўраду: іх - 12 сямей у Калясішчах і 8 - у Чэхаўцах, а Адольф Хруль, сын Паўла - у Лідзе, фурман паштовай станцыі. А ў 1864 г . (Zesp. 515, inw. 25, vol. 83 s. 433 Rewizska skazka rok 1864) месцічамі Ліды з'яўляюцца ўжо 5 сямей. На лідскіх гарадскіх могілках да нашага часу захаваліся магілы гэтых сямей. Каля 1880 г. у горадзе па вул. Віленскай з'явілася майстэрня Баляслава Хруля па вырабу помнікаў. Пасля смерці Баляслава майстэрняй кіравала яго жонка Анэля Хруль з Малеўскіх.

Дзед аўтара ўспамінаў - Марцін сын Марціна (1820? - 1887) ёсць і ў спісе лідскай шляхты 1845 г. (Zesp. 391, inw. 9, vol. 20 s. 13). Марцін сын Марціна разам з жонкай Эміліяй валодалі 40 дзесяцінамі зямлі ў ваколіцах Ёдкі і Воўкавічы.

Акрамя Марціна, Марцін і Марыяна мелі сына Віктара які у сваю чаргу меў сына Адама, пра якога ўспамінае аўтар мемуараў. У спісе лідскай шляхты 1891 г. уладальнікам 25 дзесяцін зямлі ў ваколіцы Воўкавічы быў Адам Хруль (37 гадоў) з жонкай Марыянай з Даўгялаў (30 гадоў) сынам Тэафілам (7 гадоў) і трыма дочкамі, пазначана што гэтая сям'я стала жыла ў Пагародна. У тым жа спісе ёсць родны дзядзька аўтара ўспамінаў Ян Хруль.

У 1911 г. у Радуньскім дэканаце пачаліся сур'ёзныя хваляванні з нагоды спроб летуанізацыі парафіі з боку часткі парафіян (у асноўным з Забалаці) і часткі ксяндзоў летувіскага паходжання. Летувіская газета "Viltis" надрукавала вынікі апытанняў жыхароў

Радуньскай парафіі пра родную мову. З даследавання вынікае, што ваколіца Воўкавічы мела 6 хат, дзе жыло 25 чалавек, у гэтай ваколіцы шляхта назвала роднай мовай толькі беларускую, у адрозненні ад суседзяў, якія роднай лічылі і польскую[5]. А 11 лютага 1918 г. усе жыхары ваколіцы падпісалі зварот да польскага ўраду, у якім выказалі пажаданне жыць у польскай дзяржаве: *"Мы, палякі якія спрадвеку жылі ў ваколіцы Воўкавічы Радуньскай парафіі... з дзеда - прадзеда былі, ёсць і будзем палякамі. Звяртаемся да Цябе, Дастойны Урад з просьбай ўратаваць ад небяспекі. Немцы з летувісамі ..., не пытаючыся волі народа..., ствараюць тут нейкую літоўскую дзяржаву... Мы жыхары гэтага краю не жадаем летувіскай дзяржавы а жадаем злучэння з нашай сапраўднай радзімай Польшчай"*[6].

Як бачым, чын генерала Люцыяна Жалігоўскага, які праз 2,5 гады ўтварыў "Сярэднюю Літву", меў тут моцны падмурак.

## Пра вялікі лідскі пажар 1891 г.

- Пра гэты пажар[7] мне расказваў мой бацька (1880 г.н.). Гэты пажар пачаўся ад дома, які стаяў недалёка ад праваслаўных могілак[8]. У гэтым доме дзеці гулялі з мышкай, мышка схавалася ў кастрыцы. Каб злавіць мыш, кастрыцу падпалілі, пачаўся пажар, які хутка перакінуўся на ўвесь горад. Праз некалькі гадзін на конях прыехалі тушыць пажар пажарнікі з Вільні. З-за дыму нічога не было бачна, таму віленскія пажарнікі сталі на пачатку вуліцы Віленскай, якраз каля таго дома дзе пажар пачаўся. Яны спыталі ў людзей, ці прамая вуліца далей. Дазнаўшыся, што не зусім прамая, паехалі проста ў агонь і дым у цэнтр горада. Ліда выгарала тады ўшчэнт. Гарэла сутак двое, згарэла ўся Сувальская[9]... Мне ў дзяцінстве было вельмі цікава, што на конях пажарнікі прыехалі Ліду тушыць з Вільні.

***- А дзе вучыўся Ваш бацька?***

- Ён вучыўся ў павятовай дваранскай вучэльні ў Лідзе. Ён застаўся без бацькі (майго дзеда) у 5 гадоў. Нейкіх падрабязнасцяў пра яго вучобу не ведаю.

Мой бацька пры канцы 1930-х гадоў цікава расказваў пра галоўнага лідскага "боўдзілу" пачатку XX ст. - Боладзя. Ён быў жахам для яўрэяў і ксяндзоў горада. Неяк убачыўшы ксяндза, які выпадкова праходзіў недалёка ад бардэля, ён пачаў гнаць яго бічом да плябаніі, крычучы пра тое дзе ён яго нібыта злавіў. Другім разам ён выпіўшы, учыніў вэрхал у плябніі Фарнага касцёла, і ксёндз - дэкан папрасіў суседзяў замкнуць яго ў "трупярні" - памяшканні злева ад галоўнага ўваходу ў Фарны касцёл, дзе ў той момант знаходзіліся дзве труны з нябожчыкам і нябожчыцай, якіх павінны былі заўтра адпяваць. Ачомаўшыся, Боландзь палажыў у адну труну на нябожчыцу нябожчыка і уцёк. Назаўтра, пры поўным касцёле адчынілі вечка труны ... Вэрхал які ўчыніла радня нябожчыцы помнілі і праз шмат гадоў[10].



***Юзаф Хруль разам з унукам Вадзімам - магістрам інфарматыкі, дактарантам Кашалінскага тэхнічнага ўніверсітэта***

## Пра фальварак

***- А дзе жылі?***

- Сядзіба была харошая ... Гумно было 40 аршын даўжынёй.

***- Дзе гэта было?***

- Мой дзед (прыкладна 1840 г.н.) жыў у ваколіцы, ваколіца наша называлася Воўкавічы[11]. Потым ужо бальшавікі ўсе некалькі ваколіц "перахрысцілі" ў Гейштафты[12]. Гэтую сядзібу трэба было пабудваць! Потым яна перайшла майму бацьку, які доўгі час быў халасцяк. Сам ён практычна не працаваў фізічна. Трымаў дзвюх дзяўчат, двух хлопцаў, сам жыў у Воўкавічах.

***- Колькі было зямлі?***

- У дзеда ў Воўкавічах недзе каля 70 гектараў ворыва. Але гэта не значыць, што зямля была адным кавалкам. У яго было гектараў 30 напэўна. Астатняе ён, дзве гаспадаркі, прыкупіў і атрымалася нешта пад 70. Яшчэ адна гаспадарка была ў Ёдках[13], яна так дасталася.

***- Як дзеда звалі?***

- Дзед Марцін... Жаніўся ён ужо ў гадах. Не меней 40 гадоў, відно па сям'і. Жонка ў яго была Эмілія Ёдкаўна, з роду Ёдак. У яе два брата былі. І абодва працавалі ў Варшаве чыноўнікамі, мелі нейкую адукацыю. Абодва памерлі ад туберкулёзу ў сярэднім узросце халасцякамі, пахаваны ў Варшаве, і іх гаспадарка ў Ёдках засталася безпрыгляднай. А жанчыны ў той час не мелі права на спадчыну.

***- Былі праблемы?***

- Відаць, узгаднілі з юрыстамі, бо ён адтуль не хацеў выязджаць. Юрысты падказалі, што ў гэтым выпадку, калі ты туды ў Ёдкі паедзеш і будзеш там жыць, ніхто цябе не высяліць, і ніхто не адбярэ, інакш самыя дальнія сваякі скарыстаюцца гэтай гаспадаркай, толькі не ты.

***- Так ён і з'ехаў з Воўкавіч у Ёдкі?***

- Так, ён быў ужо жанаты з Эміліяй, у Воўкавічах у іх нарадзілася адна дачка... І яны пераехалі з адным дзіцем. І ён жыў у Ёдках гадоў 20, не меней.

Пераехаў у Ёдкі каб пакінуць за сабой гэтую гаспадарку. Ён пабудаваў новую сядзібу ў Ёдках, другую пасля Воўкавіч. Для гэтага трэба быў час. Там пабудаваць і тут пабудаваць.

***- А пра сядзібу ў Воўкавічах, там было гумно ў 40 аршын, а што яшчэ? Дом?***

- Пра тую сядзібу я дакладна знаю, што там вось такое гумно было вялікае, канюшня была з вазоўняй, для кароў памяшканне, для авец, аборай яго называлі, што яшчэ... Свіран быў для збожжа, ён быў двухпавярховы, і для такой гаспадаркі ён быў не малы, з балконам і... была не столь, а як называлі - заход. Добры быў свіран. Быў пабудаваны без пілы. Сякерай рубленыя вуглы. Ніжні паверх - было 6 засекаў, ну такіх... да 3 тон кожны. І дом быў такі, як у Ёдках, вялікі, але ён згарэў. Стаяў ён у Воўкавічах трохі не ў тым месцы, дзе пазнейшы дом наш стаяў, на гэтай жа пляцоўцы, але метраў за 50 ад пазнейшага дома.

***- У яго былі 4 работнікі. Якія даходы атрымліваў?***

- Я сам не разумею, як ён выкручваўся. Зямля была раскідана, як у вёсках. Але ж у вёсках хоць былі шнуры - табе, мне, другому і трэцяму, а ў яго былі такія дробныя надзелы, што яго 70 гектараў былі падзелены амаль што на 200 дзялак.

***- Аднак!***

- Як можна было гаспадарку пры гэтым весці хораша!

***- Дык, гаспадарка ў Воўкавічах была ў арэндзе?***

- Так, дзесяткі гадоў у арэндзе. Дзед жыў у Ёдках, дзве гаспадаркі весці быў не ў стане. Дык гаспадарка ў арэндзе і дабівалася. Ты ўяві, складзена са шматкоў і яшчэ ў арэндзе сколькі часу.

***- А колькі ўраджаю арандатары аддавалі гаспадару?***

- Знаеш, дзе як. Бывала што і палову аддавалі, а ў нашым выпадку, калі не было каму прыглядваць, была дамова агульная, аддавалі меней і 5 рублёў падатку ў год плацілі пры цары.

***- А колькі можна было з Вашай гаспадаркі зарабіць у год?***

- Такая запушчаная сельская гаспадарка была ў гэтых месцах! Я яшчэ малы быў, спытаў у бацькі: "Чаму ў Яна Гейштафта такое дробнае вымалачанае жыта?". А бацька кажа: "Яно ўсё было такое. А Ян ніяк не можа прыладзіцца да новага часу. Пайшло новае насенне, жывёла пайшла іншых парод, а ён не можа, у яго і конікі малыя, і кароўкі малыя, і збожжа малое". А Ян Гейштафт жыў неяк з гаспадаркі, не так ужо і кепска жыў. А ў бацькі была жывёла добрая, карова была 600-700 кг, гэта ўжо нешта!



*Хата Марціна Хруля ў Ёдках*

***- Колькі ў год збожжа прадавалі?***

- Збожжа мала, у асноўным жывёлу. Гектар, у сярэднім, жыта мог даць, пасля лубіну, цэнтнераў 50, але гэта раз у два гады... ратаваў лубін.

Я, ужо пасля вайны, спытаў неяк у цёткі: "Чаму вашы мужыкі курылі самасад?" Абодва курылі. Гэта была дзяржаўная справа: гарэлка, тытунь, нельга было вырошчваць, строга сачылі. А яна кажа: "Я тытунь высаджвала, дзе небудзь сярод жыта". А там быў такі непрахадны хутарок Татаршчына, сярод балота, дык і кажа: "Пакуль жыта ўбіраць, я тытунь убяру". А тытунь быў дарагі, малы пачак, недзе грам 100, быў 80 грошаў. Вось яна там тайком, ціхенька, маўчком ... але была разумная жанчына. Камандавала яна ўсім.

***- Якія - небудзь газеты Ваш бацька выпісваў?***

- Нашы выпісвалі сельскагасрадарчую газету "Plien", з Варшавы, і яшчэ ішлі нейкія сельскагаспадарчыя часопісы, я іх любіў глядзець.

***- А радыё было?***

- Было 4-лямпавае радыё. Яно і вайной працавала, але цяжка было з батарэямі. Батарэі для яго былі - дзве сухія і акамулятар. Да вайны польскія станцыі слухалі - Вільня, Варшава, Кракаў, Чанстахова ішла, а вайной я асабліва запомніў перадачу "To mowi Londan", Суседзі любілі прыйсці паслухаць Лондан.

***- А калі купілі прыёмнік?***

- Колькі сябе памятаю - быў заўсёды. Часу сядзець каля яго не было. Але я ўключаў музыку якую, калі Адам Хруль прыйдзе паслухаць.

***- А што пра бацьку свайго раскажаце?***

- Бацька халасцячыў, халасцячыў і нахаласцячыў амаль 50 гадоў. Дык, у такім узросце і выбіраць не было з каго. Узяў 20-гадовую, маю маці.

***- Давайце, падрабязней пра вашага бацьку паразмаўляем, у якім годзе ён у Амерыку ездзіў?***

- Быў там адзін год, вярнуўся ў 12-м годзе. Быў у Бостане, па ўсяму відаць, што там добра было. Ён працаваў на мясакамбінаце, ну рабочым простым, гаварыў, што мяса ў каўбасную машыну віламі закідваў. І за год зарабіў такую гаспадарку, якую тут ужо меў. Больш за 1000 царскіх рублёў прывёз. Сястра Клементына ў Лідзе замуж выходзіла, патрэбна было вярнуцца. Вярнуўся, як раз грошы былі патрэбны на вяселле сястры. Хацеў яшчэ купіць фальварак Крэцавічы між Пашкавічамі і Петрашунцамі, гектараў 30 з лесам. Але не атрымалася. Аднак сястры дапамог капітальна, выдаў замуж, і маладыя ўзялі ў арэнду фальварак Парадунь. Там іх застала вайна[14], і за вайну з гэтай гаспадаркі яны зарабілі, каб купіць сабе фальварак Надзею, 70 гектараў.

***- А чаму ў Амерыку паехаў, сябры паклікалі ці як?***

- Яму ўжо было за 30. Ён будаваў чыгунку, ну гэтую, навейшую

***- Так, Балагое - Полацк - Сядлец, наш участак з Маладзечна на Масты.***

- Працаваў, зямлю вазіў, плацілі добра. Яго швагер, старэйшай сястры муж, ён быў падрадчык, зямлю, камень вазілі. І бацька ў яго працаваў. Жыў у Ёдках з братам, які ўжо меў сям'ю. Потым з братам яны падзялілі гаспадарку. Брату сямейнаму пакінуў распрацаваны фальварак у Ёдках, пад Лідай, усё ж цэнтр павету, усё блізка, тая ж чыгунка. А сам, з малодшай сястрой Клементынай пайшоў на балота, у Воўкавічы. Дарогі цяперашняй на Радунь не было, сувязі з Лідай не было. І вось адзін раз прыйшоў з работы, вечарам, а сястра кажа, што едуць трое хлопцаў у Амерыку. З іх адзін быў блізкі сябар дзяцінства, Юзаф Падэйка. Пайшоў развітацца, пасядзелі, пагаварылі, і вырашыў і сам ехаць. Праблем не было, былі б грошы на дарогу. Агенты падбіралі рабочую сілу, і трэба было толькі за дарогу плаціць[15]. Арганізацыю яны бралі на сябе. Ну прыйшоў дамоў, узяў колькі пар бялізны, тое-сёе і пайшоў. Нелегальна перайшлі рускую граніцу, усе ўжо было арганізавана, салдат рускі толькі разаслаў шынельку цераз разараную паласу і сказаў у пацёмках: "Скачы!". А каштавала гэта рубель з чалавека. Было іх 5 чалавек, і карова тады каштавала 5 рублёў. Пасля мяжы, у Германіі ўжо быў арганізаваны транспарт, і прыехалі яны ў Брэмен, селі на карабель. Два тыдні гайдаліся ў моры і прыехалі ў Амерыку. І праз год сястра піша што выходзіць замуж. Юзаф Падэйка, сябар, кажа: "Едзь, выдасі сястру замуж, калі не будзе грошай вярнуцца ў Амерыку - я прышлю." І паехаў. Сястра выйшла замуж, даў ёй 700 рублёў як пасаг, арэнда Воўкавіч скончылася, і трэба было некаму тыя свае 70 гектараў абрабляць. Застаўся. Трэба было падрамантаваць свой фальварак, ён столькі гадоў хадзіў па арэндзе. Пакуль тое ды сёе - і вайна. І скончылася язда ў Амерыку.

***- А як ён жаніўся?***

- Жаніўся ў 25-м. Ужо не было каго і браць. Яму пасаг жончын не патрэбен быў. Ён ужо быў вырашыў і не жаніцца. Вырашыў пры сястры пражыць, з сястрой Клементынай у сям'і былі добрыя адносіны ўсё жыццё. У вайну[16] нешта з немцамі не паладзіў. Ну, немцы любілі добрых гаспадароў. І падаткі трэба было плаціць. А што ён тут мог адзін? Ну пазачыняў усё і пайшоў да сястры. Потым, казаў, памяняліся жандары. У Пелясе яны стаялі. Калі памяняліся яны, прыехаў немец - жандар да суседа і сказаў, каб знайшоў Хруля, і каб ён ехаў гаспадарыць. "Мы знаем, ён з нашымі папярэднікамі не ладзіў, з намі ён паладзіць". Жандары ў Пелясе жылі, як у раі. 12 чалавек іх там стаяла, кармілі іх, паілі ўсёй акругай.

***- І ўжо вырашыў не жаніцца, а што потым было?***

- Захварэў зваротным тыфам. І адзін чуць не памёр. Пакуль ачомаўся, ужо сказалі, што памёр, і пачалі гаспадарку дзяліць. Вось тады і вырашыў жаніцца. Брат з Ёдак пачуў, што памёр, прыехаў з Ёдак да Дзітвы і пытаецца ў людзей, ці памёр? "Не, - кажуць, - не памёр, ужо ходзіць". Развярнуўся і паехаў назад. Хутка далажылі. Ага, раз так, узяў і жаніўся.

Тут, у Воўкавічах, яшчэ мой дзед фальварак адзін з трох злажыў. Да 30 спадчынных гектараў яшчэ 40 дакупіў.

## Пра сям'ю і г.д.

***- А пра паўстанне 1863 г. у сям'і гаварылі?***

- Мая сям'я была намнога за мяне старэйшая, мне ўжо не было адкуль што даведацца. Дзед удзелу ў паўстанні не браў... Гаварылі, што многа маёнткаў было канфіскавана царом тады... Быў адзін Гейштафт Ежы, ён быў малодшы за дзеда. Бацька, калі прыязджаў у Воўкавічы (там сядзелі пасэсары), дык заходзіў да яго, ну каб пераначаваць, паміж імі былі сувязі яшчэ дзядоўскія..., ну дык ён прымаў удзел ў паўстанні.

У дзеда Марціна быў брат малодшы, Віктар. Мой траюрадны брат Ян Хруль прымаў удзел у нейкай змове супраць цара, аднак не памятаю, пра якога цара казалі ... Ян жыў у Вільні, вучыўся і трошкі працаваў і прымкнуў да рэвалюцыянераў, рэвалюцыянеры былі рускія. І яго прыгавырылі да расстрэлу. У Воўкавічы прыехаў прыстаў, ну і тут сабраліся мужчыны, пра Яна добра расказалі. Прыставу, як гаворыцца, "усунулі"[17].

***- Дык, прыстаў чаго прыязджаў?***

- Ну дык па месцы зняць следства, даведацца ўсё пра Яна. Ну і напісаў ён харошую паперу, што маўляў, трапіў выпадкова, і яму прысудзілі пажыццёвую высылку ў Сібір.

А тут сын Віктара - Адам (бацька Яна) працаваў у маёнтку Гародна па бухгалтарскай частцы.

***- У якія гады?***

- Ну яшчэ ў канцы 19 стагоддзя. У Гародна, па-моему Патоцкі[18] быў гаспадар, Патоцкія тут не жылі, жылі ў Парыжы. Але пад Беластокам, і ў Гарадзенскай, і Віленскай губернях усе былі іх маёнткі, так, што маглі яны па гэтых дзвюх губернях праехаць толькі па сваёй тэрыторыі. Яны ў тры гады, можа, раз прыязджалі, так паглядзець. Потым яны пачалі прадаваць усё пагалоўна, пайшла распрадажа.

Гэта жонка Адама Хруля расказала майму бацьку. Ну і ў руках Хруля была ўся бухгалтэрыя. І ўся распрадажа ішла цераз яго. Яго і эканома. А пасля прадаж Патоцкія прыслалі рэвізію. І ён кінуў сям'ю, і драпануў у Амерыку. Тады было свабодна. У Гераманіі сеў на карабель і паехаў. Ён у Амерыцы адразу пабудаваў два трохпавярховыя дамы, адсюль павёз чамаданчык грошай Патоцкіх. Ну і свае грошы меў. Яго жонка расказвала, што ў Гародна яны жылі "не горш за Патоцкіх". Усе меў ад Патоцкіх, нават соль. І атрымоўваў годную зарплату.

***- А яго сын вучыўся ў Вільні і далучыўся да рэвалюцыянераў?***

- Так. Гэта было потым. Адам пакінуў сям'ю. А што сям'і было рабіць? Яна забрала дзяцей і пераехала сюды ў Воўкавічы. І бацька мой з Ёдак сюды пераехаў. Жылі яны цераз плот. Яна была Даўгялянка, у дзявоцтве - Марыя Даўгяла. Адам нейкі час працаваў у Амерыцы настаўнікам.

***- Меў адукацыю?***

- Ну, так. Дзе вучыўся, не ведаю. Ну, а далей ён адкрыў у Амерыцы фабрыку шакаладу. Ён дзецям

сюды прысылаў грошы, на вучобу, кантакты былі. На гэтыя грошы адзін з сыноў Адама - Тэафіл атрымаў у Варшаве вышэйшую адукацыю харчавіка, і бацька яго тут жа забраў у Амерыку. Бацька яму адразу падрыхтаваў шакаладны цэх, і ён там прыжыўся, развіў фабрыку[19].

Трэці сын Адама, таксама Адам, жыў з намі цераз плот з маці. І ён трапіў у армію перад самай Сусветнай вайной, у гвардыю, гвардыю царыцы. Служыў у Магілёве. Служыў у штабе. Прысвоілі яму афіцэрскае званне. Пры бальшавіках, пасадзілі яго начальнікам ваенкамата дзесьці ў Сібіры. Сядзеў, як мыш пад венікам. Але на бальшавікоў наглядзеўся. Што там выраблялася, страшная справа! Хапалі ўсіх. У 1924 годзе вярнуўся сюды. З'ездіў у Амерыку, атрымаў спадчыну па бацьку. Вярнуўся назад. Яго тры разы войтам выбіралі ў Радуні. Закон быў такі, як выбраў народ - паўгода павінен адпрацаваць. Потым можаш і ў дэмісію падацца. У 1939 г. яго бальшавікі не зачапілі, хаця ніводнага жывога войта не пакінулі. Казалі, што той брат, Ян Хруль - рэвалюцыянер у Маскве быў буйным чырвоным начальнікам. А Адам, як Саветы прыйшлі, дык працаваў бухгалтарам у райспажыўсаюзе ў Радуні. А калі ў калгасы сагналі, яго бухгалтарам у калгас перавялі.

Адам мне і пра род наш шляхецкі расказваў. Усё, што я чуў пра род - гэта ад Адама, ён жа мне - траюрадны брат. Розніца ва ўзросце вялікая была, але ён любіў са мной гаварыць, ён мне расказваў пра вайну, Расею, бальшавікоў, Сібір.

***- А пра род Ваш што расказваў?***

- Расказваў, пра герб наш расказваў, паказваў герб таксама. Але нейкай такой падрабязнай інфармацыі не было. А бацька мой мне пра суседзяй расказваў.

***- Пра каго, напрыклад?***

- Ну, напрыклад, пра Залескіх. Пра маёнтак Місевічы з-пад Ваверкі. Маёнтак трапіў такому Залескаму, яны мелі вось тут землі - Жырмуны, Курмелі, вось у гэтым месцы. І ў яго было двое дзяўчат - прыгажунь. І да адной рускі суддзя лідскі падхаджваў[20]. У Залескага тут быў буйны кавалак зямлі, ён быў сур'ёзны гаспадар. А другая яго дачка - гэта Гуршчынак бабця, суседзей нашых, з Ірэнай Гурскай я сябраваў у маладосці.

***- А што яшчэ пра Залескіх?***

- Дык ужо, што знаў, тое і забыў.

***- А што яшчэ пра навакольных суседзяў?***

- Вось яшчэ маёнтак Валдацішкі. Суседні маёнтак. Гаспадар - Геншаль[21].

***- Гэта здаецца, у расейскай крыніцы пісалася, ягоны бацька Людвіка Нарбута з атрадам выгнаў у 1863 г.?*** [22]

- Не ведаю. Але пасля 1863 г. ён з сям'ёй у Германію ўцёк. Пры цары так было, абы адсюль пабольш мясцовых сагнаць, каго ў Сібір, каго ў Еўропу. Валдацішкі быў дастаткова буйны маёнтак. З паўтысячы гектараў было. І калі Пілсудскі да ўлады прыйшоў, прыехалі тры сыны. Тыя, якія ў 63 г. былі дзеці - ужо былі ў гадах. А маёнтак ужо даўно быў польскай уладай падзелены. Засталося гектараў сто, і іх Геншалям на траіх падзялілі.

***- А хто маёнткам валодаў з 1863 года?***

- А быў рускі генерал Станскі, казалі пра яго. А ў 20-х Станскага не было, і сям'і яго не было. І польскія ўлады зямлю падзялілі, толькі 100 гектараў засталося, і іх на гэтых траіх раздзялілі. Але ў Германіі іх прозвішча стала не Геншаль, а Гензель. І яны не маглі даказаць сваёй праваты. Адзін з іх свае 30 гектараў аддаў для новай парафіі, пад новы касцёл, і сам з'ехаў. Быў нейкім чыноўнікам. Засталіся Людвік і Браніслаў. Яны былі ўжо ў гадах майго бацькі недзе. Яны ўсе трое ў арміі Пілсудскага ваявалі. І гэтую зямлю атрымалі не як спадкі, а як дзяржаўную ўзнагароду. Але ў вёсцы Валдацішкі яны падабралі некалькі старых, і гэтыя старыя на судзе пацвердзілі, што яны іх з малых знаюць. А пакуль суды ішлі - выбухнула вайна, і яны маёнтак цалкам так і не атрымалі. А іх я помню. Браніслаў у Варшаву з'ехаў, бачыў яго пару раз, ён сваю зямлю аддаў Людвіку. У Людвіка быў сын - мой равеснік, гулялі разам. Ну, і ў нас было 70 гектараў, і ў яго каля таго. А Людвік хадзіў па паляванні, любіў паляванне. І перад паляваннем прыходзіў дазвол атрымаць ад гаспадароў, што дазваляюць яму паляваць на сваёй зямлі. Бацька гаварыў: "Падпісваць нічога не буду, але хадзі, дзе хочаш". А зайцоў было па лясах, як авец у чарадзе. Людвік быў старшынём камісіі па пабудове новага касцёла ў Валдацішках, пісьменны быў. Ксёндз быў такі Васілеўскі, варшавяк. Не спадабаўся яму. Таму, што ён мог пракантраляваць. Тады ксёндз прад'явіў пратэнзію, што Людвік жыў без шлюбу з жанчынай. Ён плюнуў, і сказаў сваім камітэтчыкам: "Пакуль Васілеўскі будзе ксяндзом тут, да той пары касцёл будзе будавацца і ніколі не будзе закончаны"[23].

## Пра лідскую школу імя Габрыеля Нарутовіча

- Пра гэту школу я мала памятаю. Бацькі ўсунулі мяне ў другі клас у 1937 г. Пакінулі меня жыць у Лідзе ў матчынага брата (прозвішча Шмігеры). Яны былі маладыя, яшчэ сваіх дзяцей не было. Дзядзька мяне любіў, але хто я быў для цёткі. Яна стала мяне папракаць, я неяк разззлаваўся і пехам пайшоў дамоў, так свой клас і не зкончыў. Памятаю сваю настаўніцу, муж у яе быў капітанам у 77 п.п.

І я пайшоў у свою школу недалёка ад дому.

- А чым займаліся ў Лідзе гэтыя Шмігеры?

- Да Ліды яны земляробы былі. У Лідзе - рабацягі. Мелі свайго каня, воз, і наймаліся на будоўлю грузы вазіць. Зараблялі вельмі добра, па 20-30 злотых у дзень. Гэта былі грошы!

## Пра Ліду

***- Пераходзім да маёй любімай тэмы - Ліда, 30-я гады. Усё пра заробкі, цэны і інш.***

- Цэны памятаю. Кілаграм адборнай каўбасы каштаваў 1 злот. Кілаграм масла быў 1 злот. Ваганні цэнаў былі, гэта ж рынак, аднак больш менш так.

Кілаграм мёду быў 1 злот. Пуд зерня каля 2 злотых. Прамысловыя тавары для селяніна былі дарагаватыя. Але для таго, хто працаваў у горадзе - нармальна. Ровар каштаваў карову, а карова - 150 злотых. Марожанае - недзе 5 грошаў у жыда каштавала.

***- А дзе марозівам гандлявалі ў горадзе?***

- А былі перасоўныя такія вазкі, па магазінах не гандлявалі. Усюды гандлявалі. І на базары, вось тут насупраць ваенгандлеўскага дома[24], на заходнім баку вуліцы стаяў цэлы радок гаспадарчых ятак: ланцугі, лемехі, уздоўж Сувальскай, тут і марожаным гандлявалі.

***- Недалёка ад мяснога павільёна?***

- Павільёна не помню. Не, помню, як з Сувальскай на Трэцяга Мая павернеш, дык мясны магазін быў, яны ў асноўным каўбасамі гандлявалі. А на паўднёвым баку рынка, у кірунку з захаду на ўсход быў рад ятак яўрэйскіх, і гэтыя яткі гандлявалі мясам. А тут, дзе зараз бібліятэка (цяпер магазін "Віцязь" на Савецкай, - *Л.Л.*), тут быў буйны гандляр Родзевіч такі. Гэтыя будынкі яго былі, ён тут каўбасы рабіў, гандляваў імі, тут жа было і кіно.

***- А як выглядала марозіва?***

- У такіх вафельных рульках. У адных гандляроў порцыі ўжо былі накладзеныя ў іх, гатовыя ляжалі ў вазках. У іншых марожанае было ў банках, такія банкі літраў па 10 у вазках з ільдом стаялі, і накладвалі без вагі. Помню, было чырвонае, ну такое не чырвонае, а ружовае, сіняе і белае. Якое хочаш - такое і бяры.

А мы па марожанае са школы хадзілі... там цяпер Польскі дом стаіць. Ручай там быў, і каля яго такі нармальны жылы домік, і ў ім магазін, мы туды па марожанае хадзілі.

***- А дзе паліцыя была?***

- Не помню, але знаю, што іх мала было. Час такі. Калі каму месяц турмы дадуць - ого! Многа! Мой брат дваюрадны служыў салдатам на заставе, у Паставах, Грынцэвіч такі, старэйшы за мяне на многа. Ён расказваў, адзін раз хацеў сабраць маліны, а яе шмат было, і захапіўся. Падыходзіць рускі салдат, і гаворыць:

- Што ты тут робіш? Ты ўжо 300 метраў як перайшоў у Саветы.

- Як у Расію?

- Дык, ідзі паціху назад, пакуль цябе не злавілі. Я цябе не бачыў.

Брат казаў: "Збяромся на мосце і ў карты гуляем з саветамі разам. Ну афіцэр як насунецца, савецкі ці польскі - паразганяе". Вось такая вось справа была. Палякі шчыльна не ахоўвалі мяжы, вось гадзіны праз дзве верхам аб'едуць. А рускія стаялі на адлегласці бачнасці. А калі зловяць пераходчыка граніцы.... адзін раз затрымалі, у саветы ўцёк і вярнуўся назад. Прывялі да сябе. Аказаўся з-пад Баранавіч. Кажуць: "Чаго ты ўцякаў?" Адказвае: "Ну, а што? Зямлі мала, жыць нечым, а ў Расеі там хапае, можна жыць, думаў там прыладжуся". Пытаюць: "Ну чаго ты пайшоў, а цяпер варочаешся?". "Не - кажа, - Там не тое, што гавораць". Даюць яму паперу, што ён затрыманы на мяжы: "Прыедзеш у Баранавічы, прыйдзеш у паліцыю, там цябе пакараюць". І адпусцілі. Ну, некалькі месяцаў турмы мог ён атрымаць.

***- А стаянку аўтобусаў каля Фарнага касцёла памятаеце?***

- Помню. Нічога там не было. Стаяла некалькі аўтобусаў, з гэтай стаянкі яны адходзілі і сюды прыходзілі. Адзін ішоў цераз Ваверку - Забалаць - Радунь - Эйшышкі - Вільня, другі яму насустрач - Вільня - Жырмуны і на Ліду.

***- Колькі каштавалі квіткі? Людзі карысталіся?***

- Цаны не помню, але людзі ездзілі, даступна было. Я, помню, быў знаёмы з адным з гэтых шафёраў, у 60-я гады ўжо. Ён рабіў у качагарцы ў КЭЧы, моцны дядзька быў яшчэ, расказаў:

- Я рабіў на аўтобусе ў тыя часы.

Я кажу:

- Ну чаму цяпер не робіш?

- Я пробаваў. Дык, не можна рабіць. Усё правяраюць і правяраюць. І ўсе крадуць і крадуць.

- А як было ў гаспадара?

- А што ў гаспадара, яму стараешся прывезці паболей. А як прывязеш, дык ён і сам дасць. Робіш так, каб ён паважаў. Запчасткі гэта была не твая справа. Трэба гума? Колькі каштуе? На! Трэба там якая запчастка - на! Не было праблем, абы рабіў.

***- А што яшчэ запомнілася?***

- Ліду ў агульным я памятаю. І ў школу трохі хадзіў. І так часта прыязджалі. Бацька мяне заўсёды з сабой браў. Дома не было калі лішне гаварыць, а вось едучы і расказваў усё. Я знаў пра кожны хутар, пра кожнага гаспадара. Быццам бралі мяне пільнаваць воза, але самое галоўнае для мяне, што будзе марожанае.

***- А пра палітыку што-небудзь памятаеце? Выбары якія-небудзь?***

- Помню. Апошнія выбары. Вясной 39-га года. Выбіралі ў сейм. Аднаго пасла прозвішча помніў увесь час. Не магу сёння ўспомніць ... Ён з Ліды быў. Ад нейкіх дэмакратаў ішоў. Я толькі помню, што мужчыны збіраліся кучамі і рашалі, каго будзем выбіраць. І рашылі выбіраць яго. Не помню ўжо ці паспелі выбары правесці ці вайна выбухнула.

Помню што была і камуністысная партыя, з ёй у пачатку ўсе ваявалі, да 36 г. Сталін ім плаціў зарплату.

***- А дзе быў выбарчы ўчастак?***

- Або ў плябаніі, або ў школе, у нас у плябаніі быў.

Аднак гэта былі выбары. Такія выбары ў нас былі толькі на пачатку 90-х гадоў. Чэсныя выбары.

Быў тут адзін мужык з Жалудка, звычайны няпісьменны мужычок. Каля Паўночнага гарадка жыў. Помню, як ён на базары залазіў на воз і даваў: "За уласць Саветаў!".

***- Вы яго выступы самі бачылі?***

- Так, і не адзін раз. Паліцыя слухачоў распіхвае, так лёгка, колькі той паліцыі было? Можа чалавек з 20 на ўвесь горад. У 50-х гадах мне расказвалі, што гэты мужычок сціх, яго выклікалі гарадскія ўлады, і гавораць: "Што табе трэба?". А ён быў прывычны

аратар і кажа: "Вы то добра жывеце, а мне як?". Яны яму далі валоку (30 гектараў) зямлі. Вось тут у горадзе амаль што, каля Паўночнага гарадка. Далі яшчэ лес і далі грошай. І, кажуць, ён сціх. Прозвішча яго ўжо не ўспомню...

## Пра Рыдз-Сміглага

- Яшчэ помню адну гісторыю. У былых царскіх казармах Паўночнага гарадка, польская армія стаяла. Ужо ў канцы 30-х стаў галоўнакандуючым Рыдз-Сміглы. А яму вось у гэтай Бароўцы, дзе цяпер дачы за Паўночным гарадком, афіцэры і салдаты скінуліся і купілі фальварак Бароўка. Ён, кажуць, бярог кожнага салдата ў вайну з Саветамі. Любілі яго. Рыдз-Сміглы прывёз сюды цесця і пасадзіў жыць. А ён, расказвалі, любіў сюды прыехаць, папаляваць, пахадзіць па лесе. Ужо быў камандуючы, а ніколі ніякай аховы не меў. Садзіўся на поезд у Варшаве і прыязджаў у Ліду. А тут пяшком ішоў у Бароўку, да цесця ў госці. Адзін раз прыехаў і пайшоў, а каля яго фальварка быў харошы сад, ён потым яшчэ доўга рос. Значыць ён прыехаў, ішоў пешшу ноччу, прыйшоў у фальварак, а салдаты калоцяць яго яблыкі. Ён іх спыніў, выняў пісталет, сказаў: "Стой хлопцы". Хлопцы сталі. А ён сказаў: "Хлопцы, не лазьце ў сад, прыйдзіце да гаспадара, ён вам дасць яблык і так". Назаўтра, пяшком прыйшоў у казармы, да палкоўніка, 77-га палка, і кажа: "Распусціў ты тут хлопцаў, цягаюцца па начах па садах". Але не выдаў тых, хто ў яго ў садзе быў. Пасля таго палкоўнік плот паставіў, агарадзіў вайсковую частку.

А яшчэ адна гісторыя. У нас работнік быў, працаваў у бацькі, такі Міцюн Ян. Жыў каля нас, сям'я ў іх была вялікая. Ён да нас, пасвіў быдла ў цесця гэтага Рыдз-Сміглага ў Бароўцы. Казаў: "Аднойчы ішоў галоўнакамандуючы па-паляванні, падходзіць да мяне, я палку выразаю, а ў мяне ножык, ну такі просты, як у пастуха". Ен паглядзеў, і кажа: "Ай, у цябе нож такі не ладны, дрэнна гэта". І пайшоў. І хутка прынёс яму ў прэзент нож за 10 злотых і кажа: "Вось табе мой падарак". І што, думаеш, гэты нож у яго хутка выманулі хітрэйшыя. Гэты Міцюн, потым, ужо на пенсіі купіў хутарок каля Радуні, ля дарогі на Гародню і там жыў. Ён перад пенсіяй прыехаў да маёй маткі і кажа, іду на пенсію, але стаж трэба, можа вы мне падпішаце паперу. Маці яму падпісала за некалькі гадоў, што ў нас працаваў, і нават болей.

## Пра Шымялевіча[25]

***- Чуў, што Вы бачылі Шымялевіча?***

- Я знаю, што ён быў з Пелясы. Меў нейкую адукацыю. Меў схільнасць да левых партыяў і таму меў нейкія праблемы з уладай. Яго дачка выйшла замуж за лідскага старасту (у яго былі дзве дачкі, за кім была другая не ведаю). Тады яму стала лягчэй жыць. Пасля вайны пры першай магчымасці паехаў у Польшчу. Адам Хруль з ім сябраваў, Сегеня дзед. Яны часта ў Януша Сегеня[26] сустракаліся, тут на Зарэччы[27].



***Перабудаваны дом Міхала Шымялевіча ў Лідзе***

Шымялевіч трымаў натарыяльную кантору ў Лідзе, яна была яго, але зарэгістравана была на іншае імя. Канешне ведалі ўсе, што кантора яго. Адам расказваў, што ён быў такі прабіўны чалавек. Але казаў, што не давалі яму тут разгуляцца. А калі ўжо дочка выйшла замуж за старасту, ён пачуў сябе свабадней, але ж і перастаў быць левым. Такую гісторыю пра яго помню, Адам расказваў, што адзін раз сядзелі яны, пілі гарбату ў Сегеня, сын Сегеня[28] быў яшчэ падлеткам, ну і там разгаварыліся пра шляхту, пра гербы, а сын Сегеня пытае ў Шымялевіча: "А якего пан гербу?", і стала ціха, ціха ... Шымялевіч памаўчаў трохі і кажа: "А я гербу вэнтунэго сельдзя! Пяляскі мужык!"[29]. Ён быў наш літовец. Але іх размова не зусім літоўская, нейкая там трасянка.

Нешта яшчэ сёння на ранку пра яго помніў. У мяне бывае так, як быццам сам не гавару, а ў галаве былыя размовы самі сабой ідуць, ідуць... А вось … Калі Шымялевіч уцякаў ад немца у Першую Сусветную вайну, ён свае рэчы адвёз на захаванне ў Ёдкі, дык у яго толькі кніг быў поўны воз!

***- А дзе яго дом у Лідзе быў?***

- Па-моему яго дом стаіць.

Вот як даходзіш да мосціка па Энгельса (цяпер па Грунвальдскай, - *Л.Л.*), па левым баку, як выходзіш да могілак, не даходзячы да рэчкі па-моему, бокам да вуліцы, ён ужо ўрос у зямлю, там быў яго домік[30]. Такі нізкі, доўгі дом. Калі я не памыляюся, гэта быў яго дом... відаць, не памыляюся. Таму што Адам Хруль яму казаў: "Што ты ў гэтай ламачыне жывеш? Не можаш сабе жыллё паставіць?" А ён адказваў: "Я ж яго парамантаваў".

## Пра Вітольда Пілецкага[31]

***- Я ад Вас раней нешта пра Пілецкага чуў, што ўспомніце?***

- Пра Сукурчы?

***- Так.***

- Пілецкага я знаў. Ну, як дзіця, знаў. Ён камандаваў дабраахвотнай арганізацыя стральцоў. З бальшавікамі першы раз ваяваў ён яшчэ салдатам. У 30-я гады прысвоілі яму афіцэрскае званне. Ну і ён займаўся сваім маёнткам, відаць, што добра ў яго справы

ішлі. Дакладна не помню, ці 600 гектар у яго было ці 300? У Сукурчах. Тым, хто ўдзельнічаў у гэтай арганізацыі стральцоў, не трэба было адпрацоўваць такі дарожны абавязак, дарогі ўладкоўваць, ну там жвір вазіць, грэблі будаваць. Вось яны былі свабодныя ад гэтага. Мая хрышчоная, сястра бацькі Клементына Роўба, адразу пасля вайны, у 20-х з мужам нейкі час трымала ў арэндзе гэтыя Сукурчы. І каля Сукурч яны купілі сабе фальварк Надзея, каля Бялевіч пад Гудамі. Пілецкія потым прыехалі на гаспадарку сваю. Па вайне іх адразу не было.

***- А што пра Пілецкіх было чутно перад Першай Сусветнай?***

- Яны былі недзе ў Расіі. І ён адтуль пайшоў ваяваць у Войска Польскае. Пасля вайны першым прыехаў яго дзядзька, бацькі брат. Бацька мой, як быў халасцяк, часта бываў у сястры. Ён так і боўтаўся, сам мне расказваў, што жаніцца ўжо і не збіраўся.

***- А ў каго купілі Пілецкія Сукурчы?***

- Сукурчы былі іхнія.

***- Не, у XVIII ст. і, пэўна, на пачатку XIX ст. Сукурычы былі Нарбутаў.***

- Ага. Не ведаю.

Ну яны прыехалі, значыць, пачалі самі разварочваць сваю гаспадарку, а мая цётка з мужам купілі Надзею, 70 гектараў. Надзеяй валодалі да іх Жаброўскія. Надзею раскупілі 4 чалавекі: Роўба (сястра мая), Казінскі, Карэліцкі і Трацэяк.

У Першую Сусветную ў цёткі ў арэндзе быў фальварак Парадунь, між Радунню і Эйшышкамі. І надта там было выгадна, вялікі горад блізка - Вільня, людзі прыходзілі з мяшкамі, прыносілі золата, прадукты каштавалі дорага. Калі рускія адходзілі, яны ў людзей выкуплялі ўсё: збожжа, жывёлу, коней. Але яны нічога ім не прадалі, сказалі хай лепей прападзе. І пасля мелі шмат прадуктаў на продаж. Таму грошы ў іх былі, каб купіць фальварак пасля вайны.

І мой бацька ў сястры часта бываў. Пілецкі быў малодшы за бацьку, але яны сябравалі. Пралежвалі ў садзе днямі, з маім бацькам. У фальварку Надзея арганізавалі базу для гэтага стралецкага таварыства. Кавалак поля адвялі, за яго дзяржава плаціла арэнду, было выгадна. Таму я яго знаў. А ў нас была харошая кабыла, такая чорная, высокая, як на рынак мы прыязджалі, вайскоўцы, якія займаліся закупкамі для войска і заўжды бывалі там, падыходзілі і казалі: "Господож, продай кляч". Дык Пілецкі мяне на гэтую кабылу садзіў, у сядло, і вучыў ездзіць. У Надзеі, у цёткі, маёй хрышчонай гэта было. І стральцы вучыліся ездзіць, ставілі такія бар'ерчыкі, цераз іх на конях скакалі. Потым такія галінкі шаблямі секлі. А я, як з бацькам прыеду, любіў паглядзець на тое, як Пілецкі вучэнні праводзіць. І мяне таксама садзіў на чорную кабылу і вучыў скакаць цераз бар'ерчыкі. Аднаго разу кабыла дайшла да плота, а скакаць не захацела, рабочая кабыла была. Гэта, калі Пілецкі бываў у добрым настроі, і гуляў з дзіцем, са мной, значыць.

***- Адзін раз вучыў ездзіць?***

- Не, гэта было разоў можа з 10. Садзіў на кабылу, а сёдлы ў іх ляжалі, шаблі ляжалі. Шаблю мне не давалі, а сядло прыстасоўваў пад дзіця. Ну яны там трэніруюцца, а я з боку таксама езджу вакол поля. Любіў паездзіць. Бацька быў выдатна з ім знаёмы, і яны разам праводзілі час. Тут яшчэ ў раёне Кербедзяў[32] быў такі Сікорскі, і была ў яго дарослая дочанька, ну дык вярхом да іх у Кербедзі ездзілі. Ну, наогул, вольны час Пілецкі меў і такой справай займаўся.

***- Як Пілецкі выглядаў? Як апранаўся?***

- Ён у форме хадзіў. Гэтыя стральцы па рознаму хадзілі, хто ў цывільным, хто ў вайсковым, а ён у вайсковай форме. Калі меў справу з коньмі ў грамадзе - дык і з шабляй. Але ў і цывільным я яго бачыў.

***- А што далей было?***

- Вайна была. Ён дабраахвотнікам пайшоў. Потым яго польскія камуністы расстралялі. Я доўга пра яго помніў. Не знаў, дзе ён падзеўся, дзе прапаў. А потым ад тых, хто ў Польшчу выехаў, я пра яго даведаўся.

У яго доме пасялілася жанчына з усходніх раёнаў.

***- Мне расказваў сведка, што ў 1943 г. у іх нешта з гаспадарчых пабудоў згарэла.***

- Дом, пэўна, застаўся. Ну такая была гісторыя пасля вайны. Расказваў адзін чалавек, Кучынскі, які быў адтуль, з Козіч, я з ім працаваў разам. Ён расказваў, што ў Пілецкага ў доме пасялілася гэтая дзяўчына, яна рабіла ў Крупаве брыгадзірам і дэпутатам была. Дык Пілецкі прыйшоў у форме лейтенанта савецкага, у шынялі, гэта было ў канцы 40-х, ці ў пачатку 50-х, калі верыць гэтаму расказу. Ён мне расказваў, што Пілецкі прыйшоў, але яе не знайшоў. Але пасля гэтага яна тут жа з'ехала. Потым гэты дом неяк быў знішчаны.

## Пра вайну

***- Ну, а як было пасля 1939 г.?***

- Хадзілі мы ў вясковую школу, ужо за першымі саветамі, і быў настаўнік адзін. Іван Іванавіч Ціханаў, яму было толькі 18 гадоў. Ён такі быў, яўна і не адданы саветам, але і не мог ён сам нештта сказаць супраць. Ён мяне адзін раз паклікаў, і кажа: "Перадай бацькам, што вы павінны адсюль з'ехаць". І не папярэджваў мяне, каб нікому не казаў, сказаў гэтыя словы і ўсё.

***- Які гэта быў год?***

- 40-вы. Я прыйшоў дахаты і гавару маці, вось так і так. А там былі дзве дзяўчыны, Вільбік такія, побач жылі каля школы. І ён іх там наведваў пастаянна, сябраваў з імі. Маці сустрэлася з імі, і гаворыць: "У мяне ёсць прадчуванне, што нам тут не месца". Старэйшая з Вільбікаў кажа: "Гэта так, пастарайцеся, у Сібіры там таксама не соладка", - але, адкуль што, не сказалі. І мы з'ехалі.

***- Куды?***

- З'ехалі пад Ліду, на хутар Надзея, каля Бялевіч, яшчэ мы выратавалі 4 каровы, некалькі авечак і каня. І тут мы затрымаліся. А сусед наш, Уладзіслаў Гейштафт застаўся, яго з сям'ёй вывезлі ў Казахстан, там ён і памёр, а жонка з сынам пасля вайны вярнуліся і адразу з'ехалі ў Польшчу.

***- Чый быў хутар?***

- Сястры бацькі. Гэта было недзе на Каляды 40-га года і працягнулася да немца. А я летам захварэў запаленнем. Паспаў на зямлі. І пад раніцу я ўжо расхварэўся сур'ёзна. А на досвітку нейкі гул. Адны кажуць, што вучэнні, ці нешта яшчэ. А потым прыходзіць цётка, бацькавая сястра, мая хрышчоная, і гаворыць: "Ліда гарыць!" А акрамя Ліды яны пасажырскі цягнік разбілі, вось тут на пераезде ў канцы Сувальскай. Цягнік спыніўся ў лесе, каля Малэйкаўшчыны, калі станцыю бамбілі, а потым, як закончылі, рушыў наперад, але з'явіўся адзін самалёт, і ён гэты цягнік двума заходамі разбіў ушчэнт. Потым ляжалі толькі каркасы згарэўшага цягніка. Тады людзей (чалавек 40) пахавалі на тэрыторыі бальніцы. Між іншым ехала Маладзечанская футбольная каманда ў Беласток, гуляць.

***- А дзе на тэрыторыі бальніцы?***

- Зараз перанеслі, проста на гэтым месцы стаіць нейкі корпус.

***- А што яшчэ пра 22 чэрвеня?***

- Сёе-тое памятаю. Мяне прывезлі ў Ліду ў бальніцу. А ўжо вайна. І дзіцячая бальніца была насупраць старой паліклінікі, там у корпусе зараз аналізы прымаюць. І ў двары паставілі. Я ляжаў на возе, а нямецкія самалёты Сувальскую бамбілі. Яны яе не бамбілі, яны яе палілі. Кідалі нешта, гаварылі - на бруку гарэла. Але касцёлы ўцалелі абодва. А так увесь цэнтр згарэў. І я ляжаў і глядзеў, ніякага страху, бо тэмпература высокая, а самалёты ныраюць толькі раз за разам - УХ! УХ! І полымя!

***- Шмат было самалётаў?***

- Яны неяк кругам абходзілі над горадам, некалькі штук іх было, можа з тры. Мне здаецца, што яны былі з адным маторам. Потым мяне адсюль паперлі канём у Жырмуны. Там бальніца была, за касцёлам, там дзе дом ксяндзоўскі. А там быў яўрэй галоўны лекар, ён некалі працаваў у Радуні.

***- У Лідзе ўжо не маглі дапамагчы?***

- Ліда ўжо згарэла. Усё растраслося. Прыехалі ў Жырмуны, І гэты лекар мяне пакінуў у бальніцы. Яны пакінулі толькі тых, каго трэба лячыць і чакалі, чым што скончыцца. Мяне пратрымаў ён да чацвярга, справа пайшла на папраўку. І мы ўжо ў першых днях ліпеня прыехалі дадому - у Воўкавічы. Паспелі пасадзіць невялікі кавалачак бульбы, і гэтая бульба паспела вырасці і нас выратавала, з паўтоны накапалі. Ну і былі 4 каровы, а гэта ўжо нешта!

***- Ваша зямля была кінутая ў гэты год?***

- Сельсавет некаму бярог нашы сенакосы, а ворная зямля была кінутая. Сусед гаварыў, што яны прабавалі дзяліць. Прыехалі з сельсавета і сказалі: "Табе па гэты камень, а табе па гэты камень". Калі паехалі, мужчыны сабраліся і вырашылі: "Э-э, гэта не даўгавечны раздзел, і не ўзялі". Так што было дзе каровы пасвіць. А авечкі пакралі адступаючыя чырвоныя часткі. А што, 5 000 арміі стаяла за 2 км ад нас, у лесе, бліжэй да Радуні. Калі ўцяклі, штук 15 зенітак засталося. І потым увесь ліпень цягнуліся і цягнуліся акружэнцы. Свае коні яны ўсе з'елі. Яны за Гудамі хацелі шашэйную дарогу на Вільню перайсці. І тут іх разбілі, яны рассыпаліся. Каровы мы схавалі ў альшыну, а авечкі ноччу ў нас забралі. Людзі ж галодныя і гінуўшыя. Але зіму пражылі не так ужо і цяжка. З хлебам было цяжкавата.

***- А ў вайну што было ў гімназіі гарадской?***

- Гэбітцкамісарыят, гарадская ўправа была. Сцяг нямецкі вісеў.

***- А не бел-чырвона-белы?***

- Не, нямецкі. Тут недзе была палітычная паліцыя беларуская, у раёне дзе зараз ЗАГС ці санстанцыя, недзе тут, у гэтых доміках. Як іх называлі... у белых пінжаках яны хадзілі, такія хлопцы... беларусы.

***- А чым яны займаліся?***

- Дык не ведаю, не казалі пра іх. Мясцовыя яны былі. Яны тут асабліва вялікай ролі не ігралі.

## Пра АК

***- А што Вы можаце сказаць пра АК?***

- Адправілі мяне нешта завезці гэтым белым партызанам, АК-аўцам, дарослага можа пасылаць не хацелі, а хлапчука падсунулі. Я і паехаў. Знайшоў усё, што трэба было ў гэтай Нацкай пушчы, у раёне Салтанішак.

***- Нацкая пушча - гэта ж у Начы?***

- Так, Нача, былы Лідскі павет, зараз у Літве... І я там знайшоў іх, знайшоў цэлы атрад.

***- У лесе?***

- Не, у маёнтку. Забыў назву. Калі б што, дык знайшоў бы, а назву забыў... Прывёз я звычайныя рэчы - посуд, мяшок тытуню ў пакетах, нейкую вопратку, харчы, нейкія яшчэ рэчы... Я знайшоў, гэта ўсё ім аддаў і паехаў дамоў.

***- Хто быў камандзір? Які атрад АК?***

- Я толькі памятаю, звалі яго ОЛЕСЬ, польскі паручнік.

***- Шмат іх было?***

- Чалавек 200, не меней.

***- Як апрануты былі?***

- У форме. У польскай. Амаль што ўсе ў форме. Можа я каго не бачыў, але ў пагонах, польскіх вайсковых шапках, рагуўках.

Я адправіўся дамоў. Гэта была, разумееш, ранняя вясна, ужо ў калёсах, не ў санях, аднак яшчэ зімна. А рух усякі, пры немцах быў забаронены ноччу. Партызаны мне прапаноўвалі начаваць пры іх, але я неяк не захацеў. Паехаў, і напароўся на гэтыя Тоўцішкі. А ў гэтых Тоўцішках была замужам з Воўкавіч жанчына, у яе ўжо дзеці былі дарослыя, ім было ўжо па 20-25 гадоў. Ну і ў гэтых Тоўцішках я разабраўся, што магу пераначаваць. Я трапіў не да яе, а трапіў да яе мужа брата, як зараз памятаю, Вацлавам Вільбікам яго звалі, быў ужо стары, хадзіў з палачкай, але помніць - усё помніў. Тут накармілі майго каня, накармілі мяня вячэрай. Запомніўся вялікі шляхецскі дом Вільбіка, покуль мяне вялі па ім, яго разглядзеў, там 16 пакояў было, але былі яны пустыя, без мэблі, там, куды мяне завялі, там стаяў стол, канапа і яшчэ там ... нешта, але ў доме была велізарная кухня. Вільбік мяне распытаў усё, як, што, да чаго, і спытаў: "Ці стаіць там дом на

вашай сядзібе ў Воўкавічах?". Гаворыць: "Мы ў маладосці з тваім дзедам... адно лета было гарачае, мы мелі бочачку піва і тры гарнцы гарэлкі, і пакуль мы ўсё гэта не выпілі - сядзелі ў вашым склепе, там было халадней".

***- Гарнец гэта?***

- Тры літры. Вось такую інфармацыю пра дзеда расказваў.

***- А што ён яшчэ расказваў?***

- Яшчэ расказваў пра дзеда, дэталяў ужо не помню, але вось "Бочачка піва і тры гарнцы гарэлкі" добра запомніліся.

Дзед жа ж круціўся і круціўся не кепска. Ён так разумна размясціў нашу сядзібу, што лепей і не прыдумаеш. Ён паўночны бок густа абсадзіў ёлкаю, астатнія ўчасткі - ліпаю. І я потым сутыкаўся з тым-сім з старэйшага пакалення, старымі, мне было гадоў 13-14 ... Дзед быў у такой кампаніі гаспадароў фальваркаў. Я зрабіў выснову, што ён заможна так жыў. Сустрэў аднаго чалавека з Тоўцішак, у 50-я гады яшчэ быў такі фальварак, харошы фальварак, у Радуньскай ці Нацкай парафіі. Ён сябар дзеда быў, ужо старэнькі тады.

Мае цікавасць, што было ў маім жыцці - гэта пераходныя 47 - 50 гады. Калі скончылася вайна, усё насельніцтва наша чакала, што сюды прыйдзе Еўропа, Амерыка і нас выратуе. А я быў упэўнены, калі ўжо нас аддалі - на нашу галаву бальшавікоў хопіць. Неяк жыць патрэбна, а не чакаць. Калі з'явіўся ў калгасе трактар, зацікавіў ён мяне, ім ужо нешта можна было зрабіць. Гэта быў такі ДТ-35 на траках.

Людзі выязджалі ў Польшчу. Я позна дакументы, на выезд падаў. Яны ўжо выпускаць перасталі. Трэба было кінуць працу і пабічаваць трохі. Біча б выпусцілі. Але было позна ўжо. Аднак мая старэйшая дачка, Галя, да 5-ці годзікаў у хаце па-польску гаварыла. Усё выехаць думалі...

***- Дзякуй за цікавы аповяд.***

## Літаратура і каментарыі:

[1] Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1. Мн., 2003.С. 62.

[2] Русская историческая библиотека. Т. 33. Пописы войска ВКЛ 1528, 1565, 1567 гг. Пг., 1915. С. 778.

[3] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ks?stwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 213, 219.

[4] Bobrowicz Jan. Dodatek do Herbarza Polskiego ks. Kaspra Niesieckiego. Lipsk. 1844. S. 73.

[5] Kurjer Wilenski, 1911 - № 9(129)

[6] http://www.xxwiek.pl/dzien/1918-02-11/Wolkowicze_Prosba_mieszkancow_o_przylaczenie_ziemi_litewskiej_do_Polski/9006

[7] Вялікі пажар 1891г. знішчыў 444 дамы і каля 600 нежылых будынкаў. Аднак гэты пажар прывёў да таго, што ў горадзе пачалі будавацца мураваныя дамы.

[8] Тагачасная вуліца Віленская, могілкі з царквой існуюць да нашага часу.

[9] Вуліца Віленская Сувальскай стала на пачатку 1920-х гадоў.

[10] Пра суды над Боландзем пісаў у "Кур'еры віленскім" нават сам Вандалін Шукевіч: "… у гады рэвалюцыі Боландзь быў жахам для яўрэяў горада Ліда, за што яны яго ненавідзелі …" (Kuryer Wilenski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdernika) 1911). Падрабязней - у наступных артыкулах.

[11] 12 кіламетраў на поўнач ад Ліды.

[12] Зараз ужо знікла і гэта вёска.

[13] Вёска за некалькі кіламетраў ад Ліды.

[14] Маецца на ўвазе Першая Сусветная вайна.

[15] З прэсы, бывала і так: "МИНСК, 5,III. Раскрыта хорошо организованная шайка "агентов эмиграции". Члены шайки под видом скупщиков разъезжали по деревням, подговаривая крестьян к переселению в Америку. Благодаря раскрытию шайки, многих крестьян Минской и Виленской губерний, которые, вручив агентам по 160 руб., уже готовились к тайному переходу через границу, удалось удержать от этого шага. Девять членов шайки арестовано" - "Русское слово" 6 сакавіка 1910 г.

[16] Маецца на ўвазе Першая Сусветная вайна.

[17] Ян Адамавіч Хруль - шляхціц, слесар-тэхнік; нарадзіўся ў 1886 г. у Радуні; вучыўся ў хімічнай-тэхнічнай вучэльні, затым на вячэрніх тэхнічных курсах. У 1904 г. працаваў у Варшаве, сябар Партыі польскіх сацыялістаў пад мянушкай "Ян", наведваў гурткі; арыштаваны ў Варшаве на дэманстрацыі, праз 3 тыдні вызвалены як непаўнагадовы. У 1905-06 гг. працаваў ў Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў у Пецярбурзе пад мянушкай "Ваня", член баявой дружыны, удзе-льнічаў у падрыхтоўцы экспрапрыяцый. Арыштаваны восенню 1906 г. у Віцебскай губерні і адпраўлены на радзіму; па дарозе ўцёк, з'ехаўшы ў Пецярбург, перайшоў на нелегальнае становішча і працягваў працу пад той жа мянушкай ў баявой дружыне. Арыштаваны ў 1907 г., заключаны ў Петрапаўлаўскую цвердзь; 9 жніўня таго ж года Пецярбургскі Ваенна-акруговы суд асудзіў яго па 1630, 1632 артыкулах Палажэння аб пакараннях за спробу нападу на арцельшчыка з мэтай экспрапрыяцыі казённых грошай на 10 гадоў катаргі. Пакаранне адбываў у 1908-12 гг. ва Ўладзімірскім і 1912-16 гг. у Аляксандраўскім цэнтралах. На пасяленні - з 1916 г. у Балаганскім павеце, Іркуцкай губерні, служыў рахункаводам. У 1920-30 гг. жыў у Маскоўскай вобласці, пасёлак Клязьма, праезд Кірава, д. 7. Працаваў у арцелі "Хімфарба" апальшчыкам. Арыштаваны 1938/01/29. Асуджаны. 1938/02/27 тройкай пры УНКУС па Маскоўскай вобласці. Абвінавачаны ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі. Расстраляны 1938/03/07. Месца расстрэлу: Масква. Месца пахавання - Маскоўская вобл., Бутава. Рэабілітаваны ў красавіку 1956.

[18] Гародна, ў першай палове XVIII ст. было спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму ўнуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму на княгіні Канстанцыі Панятоўскай (1759-1830). Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ўвесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779-1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дуніным-Вансоўскім. Тастамантам ад 1867 г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812-1879), пасля смерці якога ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнаццева, ад яго - да генерала Кіпрыяна Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку з Гароднам.

[19] Тэафіл каля 1910 пераехаў у Злучаныя Штаты. Ён раней меў досвед практычнай працы на шакаладнай фабрыцы Ведля ў Варшаве. У ЗША, заснаваў вытворчасць

шакаладу высокай якасці. Акрамя фабрыкі, меў малочную ферму і краму на 5-й авеню ў Нью-Ёрку. Версія пра грошы Патоцкага з'яўляецца сумніўнай і сям'ёй абвяргаецца.

[20] Міравы пасярэднік Юры Трубяцкі - бацька генерала Кіпрыяна Кандратовіча, міністра абароны БНР.

[21] Канстанты Геншаль - старшыня лідскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта, сын Людвіка і Стэфаніі з Пуцілоўскіх, жыхар Валдацішак, пасля заканчэння гімназіі ў Вільні, вывучаў медыцыну, а пасля матэматыку ў Пецярбургскім універсітэце. Ва ўзросце крыху больш за 20 гадоў стаў старшынём павятовага паўстанцкага камітэта. Пасля паразы атрада паўстанцаў пад Дубічамі, перабраўся спачатку ў Вільню, а пасля эміграваў у Парыж, дзе скончыў адукацыю і атрымаў дыплом доктара медыцыны. У 1870 г. браў удзел у французска-прускай вайне.

[22] Прыклад добрай працы паўстанцаў па падману праціўніка, факт пра нібыта спрэчку паміж Людвікам Нарбутам і Канстанты Геншалем апісаны у зборніку "Архивные материалы Муравьёвского музея" 1915, падрабязней пра гэта у маім планаваным артыкуле пра паўстанне 1863 г.

[23] Недабудаваны касцёл стаіць да нашага часу, а "спрытнасць" ксяндза Васілеўскага ў дачыненні да грошай надоўга запомнілася парафіянам.

[24] Зараз Савецкая, 11.

[25] Шымялевіч Міхал Іванавіч (Szymielevicz Michal) - лепшы знаўца гісторыі Лідчыны 20-га стагоддзя. Пра Міхала Іванавіча мала што вядома. У адным са сваіх артыкулаў - "Borcie i wlosc Borcianska" - ён паведаміў, што яго продак барцяк Міхал Шымялевіч жыў у в. Паўлока, у яго было два сыны Марцін і Ян, які перасяліўся ў Подзітву. Міхал Марцінавіч Шымялевіч нарадзіўся ў Паўлоцы ў 1801 г, у 1822 г., ажаніўся з Мар'янай Вішнеўскай і жыў на зямлі сваёй жонкі ў Пелясе. У 1936-39 гг. Міхал Шымялевіч быў чальцом рэдакцыйна - выдавецкага камітэта часопіса "Ziemia Lidzka". Апублікаваў у часопісе 30 краязнаўчых артыкулаў, у кожным нумары друкаваўся яго матэрыял. Артыкулы розныя па тэматыцы: гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя. Грунтуюцца на велізарным фактычным матэрыяле.

[26] Жыхар Ліды, Януш Сегень (1875-1973), дзед Януша Сегеня, сучаснага жыхара Варшавы, бізнесмена, які цікавіцца сваім радаводам і асабіста з'наёмы з Іосіфам Хрулём. Януш Сегень (1875-1973) - аўтар мемуараў "Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя". Рэдактар - Януш Сегень, унук аўтара. Пераклаў з польскай - Станіслаў Суднік. Надрукавана ў "Лідскім летапісцы" № 20.

[27] Раён горада, зараз каля вуліцы Калініна.

[28] Ян Сегень (1911-1994) - жыхар Ліды, потым Варшавы. Сын Януша Сегеня (1875-1973), інжынер, аўтар мемуараў "Jan Sehen. Lida (1938-1939). 5-ty Pulk Lotniczy, szkola rzemieslnicza" (pawet.net)

[29] Параўнай: "Когда пана Шимелевича спрашивали о его национальности, тот всегда отвечал, что он "тутэйшы" (здешний). Это был, по нашему мнению оригинальный, но достаточно полный ответ. Он быт тутэйшы, издавна живущий в этом городе и его не интересовали национальности других жителей" - Ярмонт Е. В. тени замка Гедемина. Лида, 1995. С. 46.

[30] "На перекрестке улиц Гражины и Гористой стоял дом Шимелевичей. Дом был деревянный, ухоженный, отгороженный от улицы красивым забором. Я никогда не видела владельца этого дома, но хорошо знала его по рассказам родителей" - Ярмонт Е. В. тени замка Гедемина. Лида, 1995. С. 46.

[31] Witold Pilecki (1901.05.01 ў г. Аланец, Расія, Карэлія - 15.05.1948 асуджаны камуністычнай уладай Польшчы да смяротнага пакарання). Нарадзіўся ў горадзе Аланец, Карэлія, куды яго сям'я было выселеная царскімі ўладамі за ўдзел у паўстанні 1863 г. Паходзіў з шляхецкай сям'і, якая мела герб Ляліва. З 1910 г. жыў у Вільні, дзе вучыўся ў камерцыйнай школе. З 1914 г. быў членам забароненага царскімі ўладамі харцэрскага руху. У 1921 г. здаў экзамен на атэстат сталасці. На працягу 1918-1921 гг. служыў у польскім войску. Як кавалерыст удзельнічаў у абароне Гародні. 5 жніўня 1920 г. паступіў у 211 полк уланаў і ў яго шэрагах удзельнічаў у Варшаўскім бітве 1920 года, у баі ў Рудніцкай пушчы і ўзяцці Вільні. Двойчы ўзнагароджаны Крыжам за доблесць (Krzyz Zaslugi Сярэдняй Літвы і срэбны Krzyz Zaslugi Польшчы). Пасля вайны дэмабілізаваны. У 1934 г. прысвоена званне падпаручніка запасу. Ен заставаўся ў спісе ваеннаабавязаных у Лідскім павятовым ваенным камісарыяце з прызначэннем у 26 полк велікапольскіх уланаў (26 Pulk Ulanow Wielkopolskich) у горадзе Баранавічы. У жніўні 1939 г. паўторна мабілізаваны. Змагаўся супраць немцаў у кампаніі 1939 года камандзірам звязу ў эскадроне дывізіённай кавалерыі 19 пяхотнай дывізіі Арміі "Прусія" (szwadron kawalerii dywizyjnej 19 Dywizji Piechoty Armii "Prusy"). Апошнія баі яго атрад правёў як партызанскі. Пілецкі распусціў свой звяз 17 кастрычніка 1939 г. і перайшоў на канспірацыю. Пасля заканчэння кампаніі 1939 г. перабраўся ў Варшаву і стаў адным з арганізатараў падпольнай арганізацыі Сакрэтная Польская Армія (Tajna Armia Polska). 19 верасня 1940 г. падчас вулічнай аблавы ён добраахвотна здаўся немцам з мэтай патрапіць у якасці вязня ў канцэнтрацыйны лагер Асвенцым для атрымання інфармацыі і правядзення падпольнай працы. Ён быў дастаўлены ў гэты канцлагер ў ноч з 21 на 22 верасня 1940 г. У ноч з 26 на 27 красавіка 1943 г. Пілецкі ўцёк з лагера і першым праінфармаваў саюзнікаў аб тым што робіцца ў лагеры смерці. У 1943-1944 Пілецкі служыў у III аддзеле Кедыв (Kedyw) Галоўнага Камандавання Арміі Краёвай (у тым ліку - намеснікам камандзіра выведвальна-інфармацыйнай брыгады "Камелеон" - "Вожык"), удзельнічаў у Варшаўскім паўстанні 1944 г. У перыяд 1944-1945 гг. знаходзіўся ў нямецкім палоне, потым ён служыў у 2-м польскім корпусе (2 Korpus Polski) у Італіі. У кастрычніку 1945 г., вярнуўся ў Польшчу з мэтай барацьбы з камуністамі. Восенню 1945 г. арганізаваў выведвальную сетку і пачаў збіраць інфармацыю аб становішчы ў Польшчы, у тым ліку аб салдатах Арміі Краёвай, зняволеных у лагерах НКУС на тэрыторыі Польшчы і высланых ў СССР. Ён атрымліваў выведвальную інфармацыю з Міністэрства грамадскай бяспекі (Ministerstwo Bezpieczenstwa Publicznego), Міністэрства нацыянальнай абароны (Ministertwo Obrony Narodowej) і Міністэрства замежных спраў (Ministerstwo Spraw Zagranicznych).

Пілецкі ігнараваў загад генерала Ўладыслава Андэрса пакінуць Польшчу ў сувязі з пагрозай арышту. Ён абдумваў скарыстацца амністыяй 1947 года, але вырашыў не выходзіць з падполля. 8 траўня 1947 г. быў арыштаваны, пачаліся допыты з катаванямі. 15 траўня 1948 г. Пілецкі прысуджаны да смяротнага пакарання (на гэты час нават у Савецкім Саюзе смяротная кара была адменена).

30 ліпеня 2006 года прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі пасмяротна ўзнагародзіў Вітольда Пілецкага ордэнам Белага арла.

У сваёй кнізе "Six Faces of Courage" брытанскі гісторык прафесар Майкл Фут (Michael Foot) аднёс Вітольда Пілецкага да ліку шасці самых адважных герояў Другой Сусветнай вайны.

[32] Вёска недалёка ад Сукурчаў.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Ахоцкі**

Канешне выбар той быў "анты". Усё маё жыццё да гэтага часу вызначала ў асноўным гэтая пазіцыя. Дамбінскі толькі яе скрышталізаваў і, можа, прыспешыў.

Перапетыі бацькі з легіянерамі і ўсялякія засцярогі перад Пілсудскім. Што раз усё больш актыўная неахвота да рэлігіі. Ніякіх сімпатый да камунізму, які памятаў галоўным чынам з Менска 1920 года, са страхаў, якія сям'я польскага афіцэра ў той час перажыла.

У выніку павінен быў пайсці канешне не да Усяпольскай моладзі *sensu stricto*, але недзе ў непасрэдную да яе блізкасць.

І тут праваднікам стаў Шрэдар. Адным з галоўных праціўнікаў Дамбінскага быў яго даўні прыяцель, таксама студэнт права, Станіслаў Ахоцкі. Сам ужо не памятаю, якім чынам Шрэдар да яго трапіў. Забраў і мяне з сабой.

Ахоцкі быў старэйшы за нас, пэўна, на два - тры гады, падаваўся мне аднак больш дарослым на цэлае пакаленне. Стрыманы, спакойны, прыстойны, з правільнымі рысамі і твару і незвычайна зарослы валасамі. Размаўляў з намі доўга, без спешкі, без узнёсласці, а цёпла і сардэчна. На мяне асаблівае ўражанне зрабіла яго любоў да паэзіі. Пытаўся, ці мы яе любім. Мы былі ў перыядзе зацятага негатыву, запярэчылі. Паківаў галавой, пацягнуўся да кніжкі, адкрыў:

*І так жа раптам стала,*
*Што бэз пах, ну як бэз,*
*І слова "пахне" пахла,*
*І слёзы поўныя слёз.*

Вельмі хваліў Слонімскага. Падазраваю, што і сам нешта пісаў, хаваючы гэта аднак ад натоўпу, са слушным апасеннем, што гэта падарве яго палітычны аўтарытэт.

Таму што быў прызнаным супрацоўнікам і канкурэнтам Дамбінскага, надзеяй віленскіх эндэкаў дзеячам.

Быў таксама стваральнікам і кіраўніком адной з віленскіх карпарацый, а менавіта Філамацыі. Няма рады - як сповედзь, то споведзь. Прызнаюся, што я ўступіў у тую Філамацыю разам, зрэшты, са Шрэдарам. Не маглі гэтага не зрабіць, так ачараваў нас яе стваральнік.

Карпарацыі, як вядома, былі перанесены на польскі грунт з Дэрпту, дзе ў сваю чаргу з'явіліся пад уплывам узораў чыста нямецкіх. Былі гэта арганізацыі, якія аб'ядноўвалі не надта вялікія (можа найбольш сотню) колькасці студэнтаў, звязаных вельмі дакладным рэгламентам. Задачай мелі выхоўваць і нешта там у тым кірунку рабілі. Але ў часе міжваенным і на польскай тэрыторыі зрабіліся формай грамадскай дзейнасці выразна дэградаванай.

Прыманкаю для маладзёнаў была карпарацыйная форма. Кожная карпарацыя выбірала сабе ўласныя колеры, найчасцей тры. У тых колерах рабілі шытыя золатам шапачкі так зв. дэклі, грудзі аздаблялі пасам у тых жа колерах, на ўрачыстасці хадзілі ў калонах па чатыры, са штандарамі, якія насіліся ў асістэнцыі двух карпарантаў з надзвычай прыгожымі рапірамі з вялікімі гардамі, аздобленымі ў тыя ж колеры.

Што рабілі акрамя таго? Сходы, ці так званыя комершы. Сходзіліся ў памяшканне карпарацыі, засядалі за сталом. Звычайна ўсё пачыналася з рэферату, на шчасце кароткага, абы якога, не ўзбуджаўшага ніякай дыскусіі, пасля чаго наступала "неафіцыйная" частка, ці піццё піва, злучанае са спевамі і жартамі, якія старэйшыя чынілі над малодшымі.

І гэта, можа, было ў карпарацыі важнейшым. Яе сябры дзяліліся на тры ступені: фуксы (навічкі), барвяры і камілітоны (паплечнікі). Першыя выдзяляліся вопраткай: насілі шапачкі толькі аднакаляровыя, выконвалі цэлы шэраг абавязкаў, сёння сказалі б "абслуговых", якія часта мелі характар злёгку зневажальны. На сходах, напрыклад ім казалі выпіць адным глытком піва ("экза!"), залазіць пад стол, наогул удаваць з сябе дурня.

Быццам бы гэта павінна было прывучаць моладзь да дысцыпліны, да паслушэнства старэйшым. Прывучала, канешне. Станавілася хутчэй дадатковым стымулам, які трымаў балбеса ў карпарацыі. Яму марылася: ну няхай я толькі атрымаю тыя барвы, то тады пакажу фуксам!

Ну і атрымоўваў нарэшце барвы. Адбывалася цэлая цырымонія. Я прайшоў праз яе, аднак нічога не памятаю. Нешта падобнае на масонства. З яго наогул была ўзятыя правілы планавага стварэння традыцый і гвалтоўнага раблення сімвалаў з любога глупства. А агульны дух меў нешта агульнае і з ан-гельскімі школамі для хлопцаў, і з прускімі казармамі.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POLWIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

Пасля кароткага стажу барвяр станавіўся паплечнікам. Ну і што з таго? Ну і нічога. Заканчваў вучобу, заставаўся пасля такім ветэранам, якога называлі "філістэрам" ("мешчанінам”). Хаця гэта мела пэўнае практычнае значэнне: даўнія выхаванцы карпарацыі не трацілі з ёй сувязі, давалі падачкі на яе ўтрыманне, дапамагалі, рабілі пратэкцыю. Чым старэйшая была карпарацыя, тым важнейшай станавілася гэтая яе функцыя. Трохі так, як у ратарыян.

Акрамя таго, была гэта адна з форм палітычнай арганізацыі, што праўда, архаічная. Уласна на працягу маёй вучобы на тым участку наступіў рашучы паварот.

У Вільні кожная карпарацыя мела свой палітычны (часам нацыянальны) характар.

Найменей было яго ў найвялікшай, найстарэйшай, найзаможнейшай Палоніі. Наогул, яна выводзілася наўпрост з Дэрпту. Была "маткай" усіх польскіх карпарацый, заснаванная ці не ў 1828 годзе.

Належалі да яе людзі вельмі заможныя. Гэта канешне было істотна. Кожны плаціў складкі, якія ў розных былі розныя, у Палоніі найвышэйшыя. Акрамя таго стыль жыцця Палоніі вымагаў таксама адпаведнага капіталу. Напрыклад, без фрака, там не было чаго рабіць. Таму мы, нізкародныя, глядзелі на іх са здзіўленнем і нават без зайздрасці: залішне высокія парогі.

Палонія была знакамітая сваімі карнавальнымі балямі. Колер шапак - у паплечнікаў верх амарантавы (малінавы), аблямоўна белая і блакітная. Колер палітычны: нешта праўрадавае, але без афішавання. Стараліся пазбягаць удзелу ў палітычных мерапрыемствах, слушна адчуваючы, што гэта магло б разламаць карпарацыю.

Была знакамітая таксама з-за розных вулічных маніфестацый ў стылі перфоменсу. Фурор рабіў яе фукс-маёр, г.зн. навічок, які павінен быў першым атрымаць барвы. Ён мусіў хадзіць з вялікім лісіным хвастом, прычэпленым да шапкі.

Другая па чарзе - Баторыя. Верх блакітны, вузка эндэцкая, шматлікая, баявая, таксама досыць эксклюзіўная.

Трэцяя - Леаніданія, спецыяльная, бо медычная. Цёмна-зялёныя вярхі, эндэцкая, але, як Палонія, асцярожныя.

Затое наступная - Палесія, светла-зелёная, была цалкам зэндэчаная і вельмі баявая. Як паказвае сама назва, яе сябры паходзілі галоўным чынам з Палесся.

Пазней паўстала чыста, дэманстрацыйна праўрадавая Пільсудыя. Мела на галаве нешта блакітначырвонае. Ішлі туды рашучыя, штурмавыя кар'ерысты - у супрацьвагу да годнай, ці асцярожнай Палоніі.

Было пару карпарацый нацыянальных, напрыклад, украінская, нават "белая" расійская - у чорных, для адрознення, шапках. Была беларуская Скарынія, названая так у гонар беларускага друкарскага майстра з XVI стагоддзя Скарыны. Вельмі нешматлікая. Ба, была нават карпарацыя яўрэйская, сапраўдны феномен. Псякрэў, не памятаю, як называлася. Канешне, у капарацыйныя шэрагі яе не дапускалі. У геце таксама кепска каціравалася. Але была.*

**Філамацыя**

Якое ж месца прыпадала нам, "філаматам " на тым парадзе фартуны і дасціпнасці. У самым нізе польскага спісу.

Мы на ўсіх акадэмічных урачыстасцях ішлі апошнімі. За намі далёка маячылі каляровыя шапкі ўкраінцаў, расіян, беларусаў. Здаецца, што і нейкая "дзікая" польская карпарацыя не была дапушчана да міжкарпарацыйнага пагаднення, якое называлася, бадай што, "канвент".

Быццам бы спрычынілася да таго дата заснавання. Мы былі наймалодшыя, але таксама, без усякага сумнення, найбяднейшыя.

Было тых "філаматаў" з трыццаць. Мы мелі нейкае памяшканне. Вельмі пусты пакой з доўгім сталом з немаляваных, і не вельмі выгабляваных дошак. Таксама лавы. Толькі магістр карпарацыі меў сваё крэсла. Доўгі час мы не мелі "рытуальных" рапіраў. Удалося іх здабыць на халяву: адзін з паплечнікаў - здаецца Сава - меў дзядзьку, які быў уладальнікам адпаведнай майстэрні. Той дзядзька сам таксама нешта там рабіў - ну і зрабіў для нас.

Прыход нас дваіх карпарацыя прывітала з ледзьве схаванай радасцю. Бо доўгі час не памнажалася. Пасля арганізацыйнага энтузіязму - што Ахоцкі, што традыцыі філаматаў і што нешта новае - наплыў аматараў спыніўся. Хутка спахапіліся, што багатых ветэранаў і пратэктараў карпарацыя не мае. Што, і гэта найгорш, вельмі ахвотна прымае новых. Гэта заўсёды выглядае падазрона. Новыя хацелі прапхнуцца да іншых, дзе іх не прымалі, гаварылі забягаць, чакаць пад дзвярамі.

Мы не толькі, што прыйшлі самі, але прыцягнулі яшчэ з сабой трэцяга лідзяніна, старэйшага за нас на адзін клас Янка Пачынскага, празванага "Выдрай", брата гімназічнай славутасці Станіслава, які здабываў таямніцы праўных ведаў, вывучыўшы на памяць увесь Крымінальны кодэкс.

Калі мы з'явіліся, Філамацыя мела аднаго беднага фукса. Трымалі яго ў гэтым статусе з погляду гонару: не выпадала быць без ніводнага. Цяпер яго зрабілі барвяром. З намі абходзіліся лагодна. На комершах нам не давалі зняважлівых даручэнняў. Самае большае, нам казалі спяваць, напрыклад, "Крамбамбулі" альбо старую якабінскую песеньку:

aaa
Academia (bis)
o beata tempora
bibimus in nemora
aaa
Academia.

І так далей. На "э" (“dies feriae”), на "і" (“dies

*Атрымаў якраз ліст з Ерусаліму. Яўрэйскіх карпарацый было дзве: "Іярданія" і "Гасманея". Абедзве пад уплывамі сіаністычна-рэвізіяністычнымі.

diei), на "o" (“pleno poculo”), нарэшце на "у" (“bibimus diu”).

Песенька тая на простую, без прэтэнзій мелодыю неўзабаве сталася запісным нумарам Шрэдара і маім. Мы абодва дэманстравалі выключна поўную адсутнасць слыху, злучаную з добрай слыхаваю памяццю. Так склалася, што співаючы ва ўнісон, кожны з нас незалежна ад сваёй волі ўпадаў у фальш. Але кожны фальшывіў па-своему. Дзякуючы добрай памяці кожны фальшывіў заўсёды так сама. Гэтае спалучэнне дзвюх фальшывасцяў давала, падобна на тое. надзвычайны эфект. Такі, што выбітнейшыя знаўцы музыкі спецыяльна прыходзілі нас слухаць. Ужо тады насіліся ў паветры першыя зародкі будучай дадакакафоніі, і мы ўласна, цалкам выпадкова, патрапілі на нешта такое.

Па сутнасці тое, што ў той час - у 1939 годзе - ўяўляла Філамацыя, было досыць нявінным і безладным. Відавочна форма карпарацыі была прастарэлая, выраджаная, няздольная да задач, якія эпоха ставіла перад класамі, роднымі тым студэнцкім арганізацыям.

Філамацыя вельмі няшмат мне дала: найлепшы довад, што так мала са свайго знаходжання ў ёй памятаю. З яе "ідэалаў" тое, што было прыймальна, было агульнапрыймальнае, тое, што было яе спецыфікай, было непрыймальнае. А тым не менш цяжка мне збіцца на простае і звычайнае асуджэнне сябе за той год прыналежнасці да яе. Памятаю да сёння пачуццё прыязні і блізкасці, якія ўва мне адзываліся, калі ў натоўпе чужых студэнтаў бліскала белая, золатам гафтаваная шапачка. І пазней, калі спатыкаў тыя самыя шапачкі па другі бок барыкады, не мог узбудзіць у сабе да іх - з адным толькі выключэннем - асаблівай нянавісці, як да іншых непрыяцеляў.

**Бойка**

Але па сутнасці карпарацыі зжывалі сябе. Што раз большую ролю пачыналі іграць празаічныя масавыя арганізацыі, вузка палітычныя. У Вільні пачатак гэтага працэсу прыпаў якраз на позню восень 1930 года.

Адбываліся тады другія пасля травеньскага перавароту - і апошнія па канстытуцыі 1921 года - выбары ў сойм. Толькі тады я заўважыў, што папярэднія, у сакавіку 1928 года, былі вялікім крокам краіны ўлева. Уласна, каб змяніць стан, які вынікаў з гэтых выбараў, санацыя распусціла сойм да тэрміну. Мэта, якую яна ставіла перад сабой, была простая і грандыёзная: зрабіць з парламенту падкантрольнае прыстасаванне.

Якая была яе тактыка? Класічная для яе: прыдзіркі. Улада не забараняла прапанаваў многіх лістоў, але пры кожнай чыста фармальнай прычыне анулявала няўгодныя. Аднак галоўны націск рабіла на абцяжарванне агітацыі варожым для сябе бакам, на адсяканне ім мажлівасці паразумення з так зв. нерашучымі выбаршчыкамі.

Спробай застрашвання апазіцыйных правадыроў з левага цэнтру было Бярэсце. Гэтую ганьбу тым цяжэй затушаваць, што яна была раней, задоўга да Гітлера, а наколькі галоўны ўдар быў нацэлены ўлева, настолькі ў нашым асяродку расходзілася рэха, даючы повад росту настрояў антысанацыйных.

На той хвалі адбылося шмат паўпрыватных сходаў. Я патрапіў на адзін з іх. Правадыры мясцовай эндэцыі, спадзяючыся на прыезд з Варшавы аднаго з галоўных лідараў эндэцыі Станіслава Стронскага, спрабавалі такім чынам арганізаваць ахову яго мітынгаў.

Канешне, я ахвотна ўзяў удзел у такой ахове. Было нас з дваццаць. Узначальваў нас Казімір Галабурда, адзін з найцікавейшых феноменаў тагачаснага віленскага рэнесансу.

Паэт, баксёр, "валацуга", палітычны дзеяч, у цывільным жыцці ці ва ўніверсітэце, крышталограф, мабыць адзіны ў свайго прафесара. Малы са смешным, доўгім бульбаватым носам, вузкімі губамі, раздвоеным падбародкам. Вельмі языкаты, дасціпны, парадачны хлопец. Належаў да той самай кагорты неардынарных індывідуальнасцяў, як Дамбінскі, Ахоцкі, Ендрыхоўскі, Мілаш, Загорскі, Буйніцкі, Штахельскі, Петрусевіч і многа многа іншых. Быўшы разам яшчэ ў 1929 годзе - цяпер, у канцы 1930 года, гэтая пляяда пачынала дзяліцца на групкі і то вельмі непрапарцыйна. Абсалютная большасць яе пайшла ўлева, Ахоцкі адсунуўся ў цень, Галабурда, напэўна, хутчэй з упартасці, чым з перакананння, застаўся на правым баку.

Не без эмоцый з'явіліся мы са Шрэдарам у прызначаны час перад Акадэмічным асяродкам на Вялікай. Была там невялікая залка на другім паверсе з пакойчыкам, які выконваў абавязкі сцэны. У зале было месца можа на некалькі дзесяткаў крэсел.

Адразу было нудна. Мы сядзелі групкай каля ўваходных дзвярэй і глядзелі як павoлі запаўняліся крэслы. Ішлі сюды галоўным чынам выкладчыкі, трохі асістэнтаў, трохі адвакатаў і лекары з горада. Падаваліся старымі, нецікавымі, нічога не вартымі. З’явіўся Стронскі, таксам такі страшна стары, малы, пузаты. Глядзелі на яго з расчараваннем. Столькі пра яго чулі! Чыталі яго артыкулы. Бадай што, гэта была першая асоба, "здатная да пяра", якую я мог супаставіць з яе творамі. Вельмі не пасаваў да ўражання, якое я сабе пра яго стварыў, уражання выдатнага палеміста, цэлага Пілсудскага.

Якраз пачанаў прамаўляць, як знізу прыбег нехта з нашага дазору, пастаўленага каля ўваходу з вуліцы. Трывога! Мы кінуліся ўніз.

Было там двое нашых. Здалелі зачыніць дзверы. Знадворку ў дзеры білі кулакамі і абцасамі, стукалі палкамі, крычалі, каб адчынілі.

Галабурда адразу даў такі загад. Мы гурбой вываліліся на вуліцу. Была там групка з дылдам з вялікім носам на чале. Даведаліся пазней, што гэта быў маёр рэзервы Карвацкі.

Бойка выбухнула адразу. Наш імпэт адкінуў нападнікаў на пару метраў. Але яны адразу ахаланулі і кінуліся ў контратаку. Пайшлі ў справу палкі. Кідалі (у нас) вялікімі камянямі, але галоўнай зброяй былі кулакі і па-просту таўкатня. Да дзвярэй мы іх не дапу-

сцілі. Як сёння бачу Галабурду, малога, задорнага, без шапкі, у скураных рукавічках. Стаіць у дзвярах і трыумфальна зверху - не гледзячы на малы рост - глядзіць на там-тых, узяўшыся ў бокі.

Не вытрымалі, зноў скочылі. Гарластыя пысы. Адна знаёмая. Гэта, як жа яго? Такі паэт пачатковец з САТ (STO, секцыі арыгінальнай творчасці) Кола паланістаў. Мае прозвішча, што гучыць, як псеўданім, такое прыгожае: Мілаш.

Крычым, махаем рукамі. Адганяем іх без цяжкасці. Карвацкі страшна лаецца, потым нават страляе ў паветра. Але нічога не выходзіць, Стронскі прамаўляе.

Ня гледзячы на наш кантроль на ўваходзе, у зале аказаўся адзін апанент, які пачаў задаваць яму нязручныя пытанні. Паказалі мне яго: востры твар з магутным носам, хітрая ўсмешка. Сказалі: яшчэ горшы за Дамбінскага - Ендрыхоўскі!

**САТ (STO)**

Напад арганізавала баявая група "Стральца". Не было яшчэ "Легіёна маладых", або толькі ўзнікаў. Ад нас тэлефанавалі ў паліцыю, якая, канешне, не прыехала.

Выбары, якія адбыліся ў такой атмасферы, вырашылі, як вядома, справу палавінчата. Цяжкія страты панесла левае крыло, супраць якога санацыя скіравала галоўны агонь. Ва ўсіх "красовых" ваяводствах, пачынаючы ад Палескага, санацыя атрымала ўсе мандаты. Толькі ў Вільні эндэкі працягнулі аднаго свайго пасла.

У суме санацыя мела абсалютную большасць, якой не хапала аднак для змены канстытуцыі. Я зрэагаваў на той стан рэчаў вельмі тыпова: страціў на нейкі час цікавасць да палітыкі.

Трохі за тое набраўся яе да паэзіі. Па-праўдзе цалкам іншай, чым у школе. Сутыкненне з асяроддзем віленскіх паэтаў было для мяне вялікім шокам. Праходзіла яна ўласна - як бы сказалі біёлагі - "мутацыю". Узрушанне, якое агарнула ўніверсітэт адбілася і на ёй, і ў спосаб незвычайна яскравы.

Дваццатыя гады ў Вільні не належалі да ўраджайных, калі ідзе пра паэзію. Я не цікавіўся спецыяльна тым абшарам, і ўжо сам факт пасярэдне ёсць пацвярджэннем гэта меркавання: калі б было нешта сапраўды цікавае, не ўдалося б не цікавіцца. Былі, канешне, паэты, з большага яшчэ перадскамандрыцкага абраду (скамандрыкі паэты аб'яднаныя вакол часопіса "Скамандр"), але з амбіцыямі хутчэй рэгіянальнымі. Не бяруся пералічваць іх хоць бы нават па прозвішчах.

Пад канец дваццатых гадоў з'ехаліся ў Вільню колькі спелых літаратараў: Тулевіч, Лапалеўскі. Адначасова ва ўніверсітэце сабралася група паэтаў, ужо непасрэдна вырасшых на скамандрыцкіх дражджах. Згрупаваліся яны пры Коле паланістаў, стварыўшы ў ім ужо згаданую Секцыю арыгінальнай творчасці, ці САТ (STO).

Яе дзейнасць палягала не толькі ў чытанні абмеркаванні ўласных вершаў, але і ў іх выданні. У 1928-30 гадах група тых паэтаў апублікавала бадай што тры зборнікі: першы, названы звычайна "STO", утрымоўваў вершы ўсёй групы, два наступныя, выдадзеныя амаль адначасова, задуманы былі трохі іначай. Адзін групаваў паэтаў "больш салідных" і называўся, не памятаю як, - другі меней салідных і называўся "Пальцам у неба". Забаўна, тых "больш салідных" не памятаю, а гэтых без прэтэнзій - калі ласка.

Сярод "салідных" памятаю толькі пару: Стэфан Сасноўскі (якраз тады памёр, бадай што ад сухотаў), Уладзіслаў Арцімовіч, які пісаў трохі пад Норвіда.

Гэтыя з "Пальцам у неба" былі малодшыя, рухавейшыя, актыўнейшыя, больш таленавітыя. Было іх чацвёра: Ганначка Кампельская, Казімір Галабурда. Вацлаў Карабевіч і найзначнейшы з іх - Тодар Буйніцкі.

Кампельская даволі хутка кінула паэзію. Яна брала чынны ўдзел у дзейнасці "групы Дамбінскага", неаднаразова будзе яшчэ пра яе мова. Пра Галабурду ўжо ўспамінаў. Дадам, што ён быў вельмі доўга студэнтам, што пазней ад літаратуры аддаліўся, у палітыку не выбіўся (хоць бы таму, што яго спартовыя, а больш рыцарскія адносіны вельмі супярэчылі пазней стылю паводзінаў яго палітычных прыяцеляў), нарэшце ў час вайны памёр, здаецца ад тыфу, у Савецкім Саюзе ці таксама на Блізкім Усходзе.

Карабевіч, вельмі папулярны ва ўніверсітэце, якога называлі "Кіламетрам" з погляду на рост, быў нейкі час кіраўніком Клубу валацуг. Патрапіў неяк паралельна вучыцца і скончыць медыцынскі факультэт, пісаць вершы, нарэшце, рэалізоўваць "ідэалогію" свайго клубу. У свой час быў розгалас пра яго выправу на байдарцы ў Канстанцінопаль. Пазней ажыццявіў такую ж у Індыю. У час вайны доўгі час быў на нейкім польскім караблі лекарам, працаваў у Афрыцы, паляваў у Бразіліі. Нядаўна вярнуўся ў краіну, выдае цікавыя кніжкі падарожжаў.

З усяго асяроддзя САТ адзіным сапраўдным паэтам аказаўся толькі Тодар Буйніцкі. На шмат малодшы за Сасноўскага ці Арцімовіча, здабыў сабе вядомасць адразу пасля ўступлення у САТ. Было гэта недзе ў 1928 годзе. Ведаю, што перамагаў на нейкім агульнаўніверсітэцкім конкурсе, што карыстаўся велізарнай папулярнасцю асабліва ў таварышак. Пісаў проста, непасрэдна меў добрае пачуццё гумару. Мабыць, найлепшыя яго вершы сатырычныя. Пра яго яшчэ шматразова будзе мова ў гэтай кніжцы.

Але і ён уласна не выйшаў за скамандрызм.

Тым часам якраз цяпер, на пераломе 1930 і 1931 гадоў, у Вільні выспявала чарговая паэтычная "мутацыя".

**Дыяпаўза**

Я прыехаў у Вільню з добрай думкай пра сябе. Прызнаны паэт горада Ліды, які досыць складна аперуе рыфмамі і скамплікаванымі строфамі сібалатыч-

нага верша, падаваўся сам сабе цалкам "на ўзроўні" Скамандрынцы мяне не цікавілі, Дзякуючы Неснару мы грунтоўна спыніліся на Красінскім, ну а потым прыйшлі рэчы "больш цікавыя", чым паэзія.

Аднойчы пайшлі мы са Шрэдарам на сход САТ. Чытаў там свае вершы Буйніцкі, у тым годзе прызнаны "князь" паэтаў УСБ, тут жа пару новых. Адзін меў яйкападобную галаву. Малы, зграбны, хоць задраны нос, іранічныя вочы. Гэта быў той, якога я спаткаў у часе нападу на выступ Стронскага, г. зн. Мілаш. Другі быў нізкі з шырокім тварам і раскосымі вачыма і меў цяжкасці з вымаўленнем "р". Ён называўся Ежы Загорскі.

Я быў захоплены галоўным чынам тым другім. Ён паходзіў, напэўна, з найлепшай скамандрыты, г.зн. з Ляхоніі, але пайшоў ў сваёй паэзіі далей, чым яшчэ дзе, бо без сумнення чапляўся за расійскіх імажыністаў. Слухаў яго вершы з невядомым мне датуль пачуццём. Не было ў тым нічога (або амаль нічога) з зайздрасці. Надзвычай высокім мне падаваўся, як на мае паэтычныя мажлівасці. Было ў тым хутчэй нешта цёплае, гонар, што гэта так блізка ад мяне, што я ведаю нешта такое.

Шрэдару больш падабаўся Мілаш. Той перажываў якраз востры крызіс паэтычнай формы. Я не быў упэўнены, ці колькі там "скамандрычыў", ведаю што цяпер пачаў пісаць вершы скупыя, без рыфмы, збудаваныя на прывычных уяўленнях, што складаліся з аднаго двух вобразаў - але якіх!

Было гэта для мяне надта далёкае, не да прыняцця. Адкуль! Хлопец, які яшчэ не паспрабаваў "Скамандра", як можа дасягнуць узору той суровай і яскравай прастаты?

На фоне той пары Буйніцкі быў свойскі, зразумелы, або летні. Мы былі ўжо гадавалыя, на якіх яго абаяльнасць не дзейнічала, прынамсі на гэтым этапе.

У суме, аднак, гэты сход меў адзін нечаканы эфект: я пераканаўся, што мае паэтычныя "творы", без усякага сумніву, нічога не вартыя.

Увесь той год пражыў у шчырым перакананні, і нават спакойным, што не павінен займацца літаратурай. Так мне далёка да суседзяў і таварышаў, Загорскага, Мілаша.

Закінуў у кут сшыткі з вершамі. Было ў гэтым акце нешта з самаабароны, нешта з падсвядомай біялагічнай патрэбы. У жывых істот існуе з'ява "дыяпаўзы". Каб далей развівацца і зрабіць пэўны скачок, трэба прайсці перыяд поўнага спакою.

**Вялікдзень**

Хадзіў на лекцыі, на семінары. Няма чаго расказаць. Свята Божага Нараджэння весялейшае, чым папярэдняе. Марозная зіма, лыжы пад Вільняй, надзвычай прыгожыя ваколіцы: Бяльмонт, пагоркі, парослыя ельнікам, якія вельмі ўдачна імітуюць "сапраўдныя" горы.

Суботкі ў Агмені. Мы былі там пару разоў. Шрэдар трохі заляцаўся да пляменніцы генерала Жалігоўскага, раманісткі. Я хадзіў з ім для кампаніі. Зала невялікая, цесната, элегантныя карпаранты, прыгожыя дзяўчаты, якія на нас не звярталі ніякай увагі, не, далёка тут было да шалу.

Досыць часта даходзіла за тое да прыгод, звычайна паміж афіцэрамі і карпарантамі, мы, нізкародныя, трымаліся на ўзбочыне. Звычаі не былі такія ідылічныя, як гэта ўталкоўваюць сённяшняй моладзі сённяшнія дзяды. Хамства і тады было досыць.

Памятаю такую, напрыклад, сцэнку: пасярод дзяўчат - групка раманістак. На яе чале дзяўчына, мабыць, метр дзевяноста. Не маладая, не прыгожая, вельмі сканфужаная сваім ростам. І раптам кланяецца ёй, просіць яе на танец найніжшы, мабыць, студэнт УСБ, карпарант з Пільсудыі. Дзяўчына чырванее, згаджаецца. Танцуюць. Ён дастае ёй ніжэй грудзей. Смяшкі і хіхіканні па кутках. Гэта паплечнікі загадалі фуксу яе запрасіць.

У час посту ў Агмені запраўляла "Акадэмічная батлейка", зробленая на ўзор варшаўскіх, але аперавaўшая мясцовымі героямі. У той першы год я ёй яшчэ не займаўся.

Вялікдзень. Гэта другі перыяд панавання сямейных традыцый.

Прыязджаю ў Банева. Разводдзе. Каштан з цяжасцю цягне воз па мокрым пяску. У сасняках яшчэ снег. Лугі за абрывам залітыя.

Бяру лодку, з пыхай еду між ліловых зараснікаў вярбалозу, абмінаю дубы, працiскаюся праз сасняки. Усё пад вадой. Выбіраюся нарэшце на строму. Нёман магутны, другі нізкі бераг заліты вадой, як вокам сягнуць. Лодка імчыць па бурай вадзе, поўнай віроў, пены, смецця. Выбрацца з той стромы - справа не лёгкая. Толькі на павароце, каля Багданкі, усё-такі адольваю павярнуць, выплываю на ціхую ваду разліву, цераз дзялку Лявончыка вяртаюся дадому, проста на лодцы.

Потым хмары знікаюць. Магутнае сонца. У ляшчынавай алеі з-пад зшарэлых папяровых лісцяў выпрысквають кропелькі блакіту - пралескі. Яшчэ раней зацвітаюць найпрыгажэйшые кветкі ранняй вясны - сон-травы. Іх не шмат. На дзялцы растуць толькі ў адным месцы: паміж сасёнкамі спортпляцоўкі. Кожны кусцік нам вядомы, абазначаны, мілыя ўспаміны праз усю зіму. Вялікія фіялетавыя кветкі з жоўтай сярэдзінай.

Калі зацвітала сон-трава, паводка ўжо звычайна адступала. Толькі ў некаторых нізінах паміж дубамі засталіся невялікія азёрцы. Пара на ветразевую рэгату.

Недзе ў той час набраўся ахвотны да рабення караблікаў з сасновай кары. Устаўлялася мачта з сасновай лучынкі, стырно з такой жа, але плоскай, шырокай. Знізу ўмацоўваўся вялікі цвік заміж кілю, да мачты прывязвалася рэя, на рэю парус, найлепей з батысту.

Усё гэта вельмі добра "хадзіла" пры невялікім вецярку, які падмятаў лугі ад паслязімовага смецця. Неўзабаве сёстры зажадалі ўласных эскадр. Рабілі цэлыя серыі рэгат. Дзіўна, але звычайна выгравала мая

бандэра. Да найлепшых яхт належаў аднамачтавы "Рытм".

Сам вялікдзень пачынаецца з посту і толькі дзякуючы яму мае сваю абаяльнасць. Пост - гэта ж селядцы і аладкі. Быццам бы гэта дасканалае спалучэнне. Селядцы дваякія: марынаваныя ў алеі і воцаце цэлымі бочачкамі. Як выдатна пасля некалькіх тыдняў такога мяню смакуе велікодны стол!

Яго асновай было мяса на чале з шынкай. Канешне, не варанай, печанай. Гэта значыць, найперш соленай у бочцы, потым вэнджанай на альховых апілках і ядлоўцы (адзін ядловец замоцна гарыць), потым абкладзенай хлебным цестам (не салёным), каб выцягнула з яе лішак солі, нарэшце стаўленай у печ, напаленую, як да выпечкі хлеба. Забыў прыгадаць, што маці не прызнавала хлеба куплёнага. Пяклі яго дома, у вялікіх бляшаных формах. Першы бохан, які ехаў на лапаце ў печ, маці пазначала шырокім крыжам. Таксама на кожным боханчыку, перш чым адкроіць, пазначала нажом хуткі, маленькі крыжык. Былі гэта рэшткі народнага культу хлеба, якія сягалі, мабыць, у часы дахрысціянскія. Па сёння ўздрыгваю, убачыўшы выкінуты акраец хлеба, а часам, бадай, і скарыначку. Дзве вялікія вайны, зрэшты, вельмі той культ зняважнілі.

Акрамя шынкі - кілбасы ўласнай работы, цудоўныя літоўскія вяндліны, асабліва каркавіна і паляндвіца, толькі для розніцы салёныя і вэнджаныя. Смажаная і вэнджаная цяляціна, смажанае парася, смажанае птаства з індыкам і качкамі на чале.

Канешне яйкі. З народных спосабаў іх малявання мы ўжывалі найпапулярнейшы: лупіна цыбулі, якая давала буры колер. Спрабавалі часам нешта іншае, але звычайна гэта не выходзіла. Куплялі лакі. Маляванне пісанак належала да маіх абавязкаў. З часам, з вялікай ласкі, дапушчалі да гэтага старэйшую сястру.

Другая вялікая частка - гэта салодкае печыва. Булкі (кулічы) былі канешне, але іх елі толькі з ласкі, высыхалі і ў той форме знаходзіліся колькі тыдняў. На шмат больш папулярнымі былі мазуркі: маці пастаянна пякла два: венскі і шэры. Першы быў крэацыяй з велізарнай колькасці яек і цукру, найдалікатнейшай ("марымонскай) пшанічнай мукі, ванілі і нечага там яшчэ. Было гэта ўсё выключнае, бо вельмі салодкае, пахучае і “само раставала ў роце". Шэры быў шэры, перад усім, дзякуючы рознага роду "карэнным" дабаўным з карыцай на чале. Гаварылі, што гэта павінна быць цуда, не гледзячы на тое, што яго кожны раз паражаў закалец. Тым не менш, елі яго з запалам. Быў вышынёю на палец, вязкі, амаль чорны, пахучы. Мы так прызвычаіліся да той яго закальцавай формы, што калі адзін раз, як выключэнне, удаўся матцы і вырас у нешта шараватае, пушыстае - зусім нам не спадабаўся.

Былі яшчэ мазуркі: каралеўскі, з большага падобны да венскага, мігдалевы, шакаладны і т.д. і да т.п. Была таксама "паша", цудоўнае "тварэнне" з тварагу, цукру, разынак, ванілі, вядомая ў дзвюх версіях: белай і жоўтай, у другой абцяжараная жаўткамі. Дзіўная яда: пасля першай лыжкі прысягнуў бы, што з'ясі цэлую піраміду, а тым часам з найвялікшай цяжкасцю закончыш першую порцыйку - так соладка і так сытна.

Ставілася гэта ўсё на стале ў адпаведнай кампазіцыі. Сурвэту аздаблялі барвёнкам, брусьнічнікам дзеразой, якая тады яшчэ не была пад аховай. Канешне, трохі гарэлкі.

У Баневе велікодных гасцей было не шмат. З Дакудава з'яўляліся Янкялевічы: Рубін і Сара найчасцей. Прыносілі з сабой шмат мацы, звычайнай і такой на яйках. Першую елі з заядласцю, як семкі ці фісташкі. Абменьваліся паміж сабой зычлівасцямі, але забава не клеілася. Цягнулі мяне з сабой у Дакудава.

Там, за тое, хадзілі па мясцовых знакамітасцях: поп, кіраўнік школы, сакратар гміны. Усюды трэба было піць. Гэта значыць, было весела.

Рабію вылазкі ў Ліду. І там поўны святочны парадак. Вялікдзень выпадаў звычайна на пару бясснежную, але халодную, яшчэ без зелені. Гарадок прадувала з усіх бакоў. Зноў піццё і швэнданне грамадкай па вуліцах.

Потым гулялі ў прэферанс. Часам даходзіла да сапраўдных оргій. Неяк мой прыяцель Жорж Германюк застаўся адзін дома, бо сям'я некуды падалася. Арганізавалі "пульку", якая цягнулася без перапынку двое сутак. Як звычайна, пасля такога марафону вынікі былі ніякія. За тое бяссонніца і азарт так людзям пакілбасілі галовы, што пад канец пачалі мяне атакаваць нейкія формы сноў наяву, у т.л. з'яўленне пятай масці ў картах, разнавіднасць жоўтай, гульцы і фігуры пачалі неяк счапляцца паміж сабой, Жорж спалучаўся з валетам трэф і так далей.

А пад канец востры сум па Вільні, па пакойчыку на Новым свеце, па Коле паланістаў, па ўсім.

**Кашмедар**

Віленская вясна мусіла быць надзвычай прыгожай, што ж, калі штогод яна збягалася з парой экзаменаў. Калі ішлі са Шрэдарам на паланістыку, нейкі знаўца давёў нам, што тэарэтычна паланістыку можна скончыць за чатыры гады, у першы год здаюць два экзамены, у другі - тры, у трэці - два, у чацвёрты пішуць магістарскую працу і здаюць адзін экзамен. Дадаў аднак, што на практыцы яшчэ ніхто гэтага тэрміну не вытрымаў.

Гэтага хапіла, каб у мяне заграла спартовая жылка. І пад канец першага году я пайшоў на тыя два першыя экзамены. Больш таго, пацягнуў за сабой Шрэдара. Здавалі польскую апісальную граматыку і граматыку старацаркоўнаславянскую. Першую прымаў Атрэмбскі. Здаецца, атрымаў пяцёрку. Леан здаў таксама без асаблівага высілку.

Другі экзамен прымаў у нас прафесар, які толькі што прыехаў і заняў кафедру, нейкі Кашмедар. Гава-

рылі пра яго, што паходзіць са Шлёнска, што іх трое братоў, і што кожны недзе выкладае: адзін у Чэхіі, адзін у Германіі, адзін у нас.

Наш быў вельмі прыемны. Невысокі, рухавы, абаяльны, з вусікамі пад носам. Адразу звярнуў на мяне ўвагу: бо я, ведаючы добра рускую мову, арыентаваўся ў старацаркоўнаславянскай лепш за іншых. Вельмі хутка я стаў яго любімцам. Падабаўся мне, зрэшты, не толькі гэтым: быў вясёлы, не надзімаўся, як некаторыя іншыя выкладчыкі свінства не рабіў, нават спрабаваў жартаваць. Калі, напрыклад, нехта нечага не ўмеў каля дошкі. Кашмедар глядзеў на залу і забаўна ляпаў ніжняй сківіцай. Усе смяяліся, а той каля дошкі мог перадыхнуць, справа заканчвалася зносна.

У Кашмедара без цяжкасці я атрымаў таксама пяцёрку. Што больш дзіўнае, Леан здаў таксама.

Пасля экзамену мае з ім стасункі вельмі аслаблі, хоць заўсёды былі сардэчныя. Мінула шэсць ці сем гадоў, я меў працэс, меў ужо сям'ю, не меў працы. Даведаўся аднойчы, што на польскай філалогіі ёсць замяшчэнне, здаецца, на канікулы, асістэнта ці бібліятэкара, не памятаю, і што справа залежыць ад Кашмедара. Узрадаваўся, пабег да яго. Прыняў мяне вельмі міла, выслухаў, паляпаў ніжняй сківіцай. Нарэшце адказаў, працу можна атрымаць, але, сам пан разумее, хацеў бы атрымаць палітычную дэкларацыю, бо тым часам пра пана ходзяць кепскія чуткі.

Падзякаваў яму за ветлівасць. Больш яго не бачыў. Толькі ў красавіку 1939 года ўніверсітэт страсянула сенсацыя: Кашмедар уцёк. Падобна, яму пагражаў арышт у сувязі з гітлераўскай шпіёнскай акцыяй.

Не здзівіла мяне гэта і не спужала. Перажыў прыкры акт расшыфроўкі гэтага чалавека ўжо некалькі гадоў раней.

Віленскія астаткі: зелень у Цялятніку і на Замкавай Гары. Мы атрымалі ў Філамацыі барвы і страшна гэтым ганарымся. Запісваем канікулярныя адрасы. Парубанак і Яшуны, Беняконі і Стасілы, Воранава і Бастуны, назвы як экзатычныя назвы плямён індзейцаў з "Песні пра Гаявата".

**Канікулы**

Тыя канікулы прынеслі шмат зменаў у Баневе. Пасяленне ў ім бацькі не прайшло ў Лідзе без рэха. Суседні каля нас участак заняла сям'я Ельцаў. Што за дзіўны збег акалічнасцяў! Уласна таго Ельца, які дваццаць гадоў таму назад заляцаўся да панны Марыі Руткоўскай.

Ужо не быў руды: цалкам ссівеў. Ажаніўся, меў дзвюх дачок на пару гадоў малодшых за мяне. Узяў участак і больш таго пабудаваў домік. Называў усё гэта - у адрозненне ад нас - выключна лецішчам. Ва ўсякім разе прыехаў сюды на лета з дочкамі. Дочкі прывезлі з сабой пару таварышак. У мяне гасцілі Шрэдар і Янак Пачынскі - Выдра.

Канешне гэта стала повадам да выбуху таварыскага жыцця. У Ельцаў гулялі ў валейбол на малой лясной палянцы, поўнай невысокіх кустоў ядлоўцу. Вылежваліся на пляжы, швэндаліся па ваколіцы.

Вышай, у баку Дакудава, над самым берагам Нёмана тырчаў магутны нямецкі бетонны бункер. Насупраць быў другі востраў, увесь у кустах вербалозу. Канешне стаў ён мэтай нашых вылазак. Быў надзвычай прыгожы: вербалозавыя джунглі былі такія густыя, што мы блудзілі на прасторы ў дзесць метраў. Поўна ажынаў, значыць і спажыва на месцы. Паўночны край выспы - чыстая дзюна. Паўднёвы ўжо ўтравелы, сапраўдны лужок. Больш таго, у самым цэнтры выспы азёрца, як найсапраўднейшае. З вадзянымі лілеямі. Я назваў тую выспу - у свой гонар, прызнаюся - Георгія.

Цудоўнае месца для маёўкі. У сярэдзіне лета ёсць ужо і грыбы - куркі ці па-мясцоваму лісічкі - ёсць у лесе насупраць. Бродзячы па мелкай плыні можам налавіць рыбак пад кожным кавалкам дрэва ці дзёрну. Дастаткова асцярожненька яго падняць і перачакаць пару секунд, пакуль сплыве муць. У пяці выпадках з дзесяці ўбачыце невялікую, чорную, даўгаватую істоту. Гэта малады мянтузік. Тады трэба паволі наблізіць да яго рукі. Не кранаецца з месца. Ну і трэба хутка схапіць.

Лісічкі з цыбулькай і смажаныя мянтузікі - вельмі смачна! На дэсерт ажыны і ліпневы папалудзень. Вяртаемся ўздоўж берага. Адразу перад намі велізарны разложысты явар (срэбная таполя). Вакол цэлыя джунглі тых срэбных зараснікаў. Гэта Срэбнае ўзбярэжжа. Потым яшчэ Асяродак са старэйшым Лазоўскім, трохі дубовых лугоў, малодшы Лазоўскі, Грышка, мой кум, бо я хрысціў яму дачку. Потым развітваемся з Яльцоўкамі. Недзе за Акудушам павольна вылазіць велізарны руды месяц.

Ліпень, жнівень. Сплываюць як вада. У верасні грыбны сезон. Пераношу тую восень лепш, маю таварышаў. Прыйшла пара падрыхтаваць сястру ў гімназію. Параіў у рэпетытары Леана. Маці згадзілася, але пасля некалькіх урокаў абодва высокія перамоўныя бакі прыйшлі да поўнага ўзаемнага непаразумення. Тады паспрабаваў Выдра. О, дзіва, неяк пайшло. Застаўся.

Цяпер у верасні я часцей выбіраўся ў Дакудава. Мы мелі адзін ровар. Вазілі адзін аднаго на раме. Але гэта і цяжка, і нязручна. Вынайшлі цалкам новую методу.

Адзін сядаецца на ровар. Другі ідзе пешкі. Першы ад'язджае некалькі сот метраў, кладзе ровар, ідзе далей. Другі даходзіць да ровара. Мінае таго, які ідзе. Праз колькі сот метраў зсядае, ідзе пешкі. І так далей. Былі захоплены вынаходніцтвам. Здавалася нам, што гэта дае выйгрыш у часе, роўны хуткасці пешахода і раварыста падзеленых на два. Потым пачало падавацца, што ніякага выйгрышу няма, бо ўсё ж цэлы час нехта ідзе пехатой. Як правільна, і сам не ведаю...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

Ва Ўроцлаўскай навуковай друкарні Польскай акадэміі навук у серыі “Гарадзенская бібліятэка” выйшла кніга “Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада”, аўтары Госцеў Алесь і інш., 340 ст.







У серыі “Гарадзенская бібліятэка" выйшла кніга "Біяграфія гарадзенскіх вуліц" ад сямі гарадзенскіх аўтараў: Алесь Госцеў, Андрэй Вашкевіч, Андрэй Чарнякевіч, Сяргей Саяпін, Ігар Лапеха, Янка Лялевіч, Ігар Трусаў. 350 ст.

У Менску ў выдавецтве “Вышэйшая школа”, выйшла кніга Ю.М. Кішыка “Градостроительное наследие Беларуси. Гродно”, 288 ст.






У Менску ў выдавецтве “Мастацкая литаратура”, выйшла кніга пад навуковай рэдакцыяй В.А. Чамярыцкага “Літаратура XI - XVI стагоддзяў ”, 288 ст.




У Менску ў выдавецтве “Чатыры чвэрці” выйшла кніга “Пастыр добры зямлі Нясвіжскай”, укладальнік В.В. Шчарбакова, 224 ст. Наклад 500 асобнікаў.



У Менску ў выдавецтве “Элайда”, выйшла кніга В.В. Навасельскага “История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии. Тёмные десятилетия (1263 - 1316)”, 224 ст. Наклад 500 асобнікаў.




У Менску - Бычках выдадзена кніга “Носьбіты вольнага слова. Лаўрэаты прэміі “За свабоду думкі” 2008 - 2011 гадоў”. 88 ст.




***Аўтар ідэі А. Боўфал, скульптар В. Вераб'ёў,*** **Зеўс Грамавік,** *алюміній, вага 1200 кг, вышыня да верху маланкі 4,5 м. Устаноўлены перад Заводам гарачай ацынкоўкі металавырабаў у Даліне Лідскага р-на. Здымак Лілеі Лапшыной.*